

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*



**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 4 ( 56)** **КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ** **2011 г.**



Antoine Gorecki.

***Антоні Гарэцкі,*** *герой вайны 1812 г. на баку Напалеона, кавалер ордэна Ганаровага легіёна, адзін з кіраўнікоў паўстання 1830-1831 гг., паэт, сват Адама Міцкевіча, дзедзіч маёнтка Біскупцы ў Лідскім павеце.*

# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 ( 56 ) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2011 г.

## У НУМАРЫ:




















*На першай старонцы вокладкі здымак Станіслава Судніка.*

**Пасведчанне аб рэгістрацыі
№ 907
ад 18.12.2009 г. выдадзена
Міністэрствам інфармацыі
Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік і
навуковы кансультант
**Валерый Васільевіч
Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік
Лідскага гістарычна-мастацкага
музея, кандыдат геаграфічных
навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч
Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, Лідскі р-н, в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Наклад 300 асобнікаў
8 друк. аркушаў**

**Газета надрукавана ў Лідскай
друкарні. 231300, г. Ліда,
вул. Ленінская, 23.
Замова № 1511
Часопіс падпісаны да друку
30.12.2011 г.
Часопіс надрукаваны
31.08.2012 г.**

**Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 2680 руб.
індывід. 6 мес.- 5360 руб.
Кошт у розніцу: вольны**



ISSN 2218-1792
9 772218 179007 10004>




**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па
гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас:
231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную
дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# КРОНІКА ЛІДЫ



Лідскі завод “Оптык” сумесна з РУП “Актыў БДУ” пачаў серыйную вытворчасць абсталявання для эксперыментальных даследванняў і дэманстрацыйных доследаў па фізіцы па раздзелах “Светлавыя з’явы” (8 клас) і “Оптыка” (11 клас).

21 лістапада адбылося асвячэнне знака-сімвала ў гонар 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова. Асвяцілі знак архіепіскап Наваградскі і Лідскі Гурый і біскуп Гарадзенскі Аляксандр Кашкевіч.





26 лістапада ў Лідскім раённым палацы культуры прайшоў фінал раённага конкурсу “Міс Лідчыны - 2011”.
“Міс Лідчыны - 2011” стала Аксана Радута;
1-я віца-міс - Аляксандра Буйневіч;
2-я віца-міс - Кацярына Сільвановіч.



Футбольны клуб "Ліда" стаў пераможцам 2-й лігі 21-га чэмпіянату Беларусі.

У снежні на ўездзе ў Ліду з боку Гародні ўстаноўлены паклонны крыж у выглядзе крыжа Святой Ефрасінні Полацкай.






У снежні выйшаў "Беларускі настольны перакідны краязнаўчы каляндар на 2012 год (на матэрыяле Гродзеншчыны). Складальнік А. Пяткевіч. Рэдактар С. Суднік.
Гэта трэці выпуск календара. Каляндар утрымоўвае шмат пазіцый з гісторыі Лідчыны.

У снежні Лідская ЦРБ выпусціла "Краязнаўчы каляндар" на 2012 год.



# Лідскія юбіляры 2011 года

## Панчанкаў Віктар Ільіч

### 90 гадоў з дня народзінаў

Панчанкаў Віктар Ільіч (16.11.1921- 17.12.1996) нарадзіўся ў с. Слабодзішча Дарагабужскага раёна Смаленскай вобласці ў сялянскай сям'і. Уступіў у камсамол у 1937 г. Скончыў сярэднюю школу ў г. Ярцава Смаленскай вобласці (1938) і Кіеўскую вайскова-стралковую вучэльню імя Рабочых Чырвонага Замаскварэчча (снежань 1939). У студзені 1940 г. у званні лейтэнанта накіраваны ў 213 стралковы полк 56 стралковай дывізіі. Удзельнічаў у баях з фінамі на Петразаводскім кірунку ў якасці камандзіра кулямётнага звяза. У 1940 г. 213 полк быў у Пскоўскай вобласці, затым у Эстоніі, з ліпеня 1940 г. дыслакаваўся ў г.п. Іўе, у траўні 1941 г. выведзены ў летнія лагеры каля м. Сопоцкін за 20 км на паўночны захад ад Гародні, на заходнюю мяжу з фашысцкай Нямеччынай.

*"22 чэрвеня 1941 г. у 4 гадзіны раніцы 213 полк уступіў у бой з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў раёне м. Сопоцкін. У гэтым палку я служыў у званні лейтэнанта і займаў пасаду камандзіра звяза кулямётнай роты. Полк утрымліваў свае пазіцыі 22, 23 і 24 чэрвеня і толькі ў ноч з 24 на 25 чэрвеня, выдаткаваўшы ўсе боепрыпасы, не маючы сілкавання, не маючы з першага дня сувязі са штабам 56 стралковай дывізіі, змушаны быў пакінуць свае пазіцыі абароны і адыходзіць углыб нашай тэрыторыі. Напачатку адыход здзяйсняўся ўсім палком, усімі яго падраздзяленнямі разам. Па дарозе Сапоцкіна -Качмяйсус палком быў дадзены сустрэчны бой фашыстам, яны панеслі страты, а мы змушаны былі закапаць апошнія лёгкія танкі і рушыць далей для пераправы цераз Нёман. Да пераправы фашысты далі нам бой. Бой перад пераправай цераз Нёман быў для фашыстаў выгадным, бо, выпусціўшы нас на чыстае поле, яны з лесу, з яроў вялі агонь з артылерыі і пусцілі ў ход танкі. Мы ж маглі ім супрацьпаставіць толькі агонь станковых кулямётаў і вінтовачны, асцерагаючыся выдаткаваць усе патроны. Нягледзячы на вялікія страты 213 сп здзейсніў пераправу цераз Нёман. Камандзір палка маёр Якаўлеў нас, кулямётчыкаў, выкарыстоўваў на самых адказных участках абароны і адыходу. Пераправіўшыся цераз Нёман, камандаванне палка сабрала адкрыты партыйны сход, запрасіўшы на яго ўсіх камандзіраў. Камандзір палка маёр Якаўлеў, камісар батальённы камісар Чарных, начальнік штаба капітан Царанюк, паінфармаваўшы пра становішча, вырашылі параіцца з камандным складам, камуністамі, камсамольцамі, што рабіць далей, ісці на злучэнне з часткамі Чырвонай Арміі ў складзе палка ці разбіцца па падраздзяленнях. На партсходзе былі розныя меркаванні. Камандаванне прыняло рашэнне далейшы адыход ажыццяўляць ротамі. Разам з асабовым складам роты, з якой прыйшлося і мне адыходзіць, адыходзілі былыя памежнікі, артылерысты, чырвонаармейцы іншых частак. Адыход у складзе рот таксама здзяйсняўся ў выключна цяжкіх умовах, праводзячы жорсткія баі з фашыстамі. Парой мы не прымалі ежы па 2-3 сутак, рады былі халоднай бульбачцы. Недзе ў раёне г. Ліды 3 -5 ліпеня мы атрымалі распараджэнне камандавання палка - у далейшым прасоўвацца дробнымі групамі, пераапрануўшыся ў цывільную вопратку, пад выглядам рабочых, зняволеных і да т.п."*



З ліпеня 1941 г. па сакавік 1942 г. пражываў у сялян в. Чырвонае Карэліцкага раёна, Ятра, Косічы, Багудзенка Наваградскага раёна пад выглядам зняволенага, асуджанага за хуліганства. Камандзір партызанскага атрада "Кастрычніцкі" (1942-44): *"13 сакавіка 1942 г. па маім запрашэнні ў в. Багудзенка ў селяніна Бойкі Аляксандра адбылася сустрэча сямі былых вяроў, якія пражывалі ў сялян в. Ятра і Багудзенка. На гэтай сустрэчы я настаяў ісці ў партызаны. На ўзбраенні ў нас у той час аказалася вінтоўка і два наганы. Цераз 2-3 дні былі ўзброены вінтоўкамі. 25 сакавіка ўначы зрабілі напад на паліцаяў, якія размясціліся на начлег у в. Кабыльнікі (цяпер Клёны), у гэтым баі страцілі аднаго нашага таварыша і добра патрапалі нямецкіх халуёў.*

*У сярэдзіне красавіка 1942 г. да нас у групу, якая ўжо налічвала 30 чалавек, прыбыла дэлегацыя з раёна в. Радзюкі, Брычыцы, Сіневічы, Панікарты, і я па іх запрашэнні перайшоў да іх, а група, дзе я быў раней, арганізавала партызанскі атрад "Грозны". Калі я прыбыў у групу, у ёй было 16 чалавек: Рэдзька Аркадзь Аляксандравіч, Стома Іван Андрэевіч, Хабараў Іван Аляксандравіч, Радзівонаў Уладзімір, Мазура Васіль Аляксеевіч, Лазавік Міхась, Стома Павел і інш. На сходзе групы я быў абраны камандзірам атрада, Стома*

*Іван - камісарам, Рэдзька Аркадзь - начальнікам штаба. Так адбылося афармленне партызанскага атрада "Кастрычніцкі".*

*Цэнтрам дыслакацыі атрада былі в. Панікарты, Сіневічы, Брычыцы, Дзіракі, Таркачы Дзятлаўскага раён, Каменка Кміцяна, Каменка Магільніцкая, Радзюкі, Восава, Навіны, Янавічы, Ігольнікі, Жураўлеўнікі, Пeратокі Наваградскага раёна. Практычна ўсе жыхары гэтых вёсак былі актыўнымі памагатымі партызан. Ад малых дзяцей да дзядуль і бабуль - усе аказвалі неацэнную дапамогу нам, партызанам. Атрад літаральна ўсё: прадукты, папаўненне ў жывой сіле, зброю і боепрыпасы атрымліваў ад насельніцтва. Практычна гэта быў атрад з мясцовага насельніцтва на 80 %, не меней. Камандаванне атрада было ў курсе ўсіх падзей, якія адбываліся ў любым населеным пункце раёна дзеяння, ведала амаль кожнага селяніна, ведала ўсіх былых актывістаў і адшчапенцаў, якія яшчэ да вайны ненавідзелі Савецкую ўладу і якія імкнуліся выслужыцца перад фашыстамі.*

*У траўні - чэрвені 1942 г. быў складзены спіс усіх бургамістраў, солтысаў і іншых фашысцкіх халуёў, якія замінaлі дзеянню атрада, ад якіх пакутавала мірнае насельніцтва. Гэты спіс быў старанна абмеркаваны на зборы партызан, і ўсе, каму быў вынесены смяротны прысуд, былі расстраляныя. Тым, хто хацеў, але яшчэ вагаўся ці ісці на службу да фашыстаў, была адбіта ахвота да гэтай службы. Насельніцтва адразу адчула, што яно не адно, што за сумленнымі людзьмі ёсць сіла.*

*Камандаваннем атрада былі прыняты меры да ліквідацыі ўсіх сепаратарных пунктаў, маслазаводаў, размешчаных на тэрыторыі раёна, якія прымалі ад насельніцтва малако, яйкі для немцаў. Апошнія ўсюды былі пабіты, прадукцыя іх канфіскавана, і яны больш не дзейнічалі да вызвалення мясцовасці часткамі Чырвонай Арміі. Гарнцзбор, які здаваўся сялянамі за памол збожжа на млынах, таксама трапляў атраду, а фашыстам партызаны выдавалі распіскі за атрыманае збожжа. Такія распіскі мы давалі на рукі сялянам, якія павінны былі здаваць фашыстам мёд і іншыя прадукты, хоць мы гэтыя прадукты, вядома, не бралі ад гэтых сялян. Гэта было ў 1942 г., калі нашы сілы былі слабыя, і мы не маглі аказаць фашыстам узброенага супраціву, асабліва буйным сілам. Тым часам у атрадзе налічвалася 70-100 чалавек.*

*Пачынальна з 1943 г. фашысты ў раён дзеяння атрада маглі заехаць толькі буйнымі сіламі, маючы бранемашыны, танкі, а насельніцтва зусім спыніла аказваць хоць якую матэрыяльную дапамогу ворагу.*

*Фашысты часцяком рабілі налёты на населеныя пункты з мэтай набору моладзі ў Нямеччыну. Мы гэтаму надавалі вялікае значэнне. Па гэтым пытанні партызанамі праводзіліся сходы ў населеных пунктах, растлумачвалася, што ўсё, пра што пішуць немцы з нагоды "райскага" жыцця ў Нямеччыне - гэта хлусня. Калі фашысты спрабавалі вывозіць насельніцтва з вёсак сілком, мы былі тут як тут. У сакавіку 1943 г. па сведчаннях жыхароў в. Драчылава Наваградскага раёна атрад засеў у засаду і разбіў фашыстаў, якія спрабавалі арганізаваць набор працоўных для вывазкі ў Нямеччыну з в. Драчылава, Ігнатава, Нягрымава. Хоць з нашага боку і было 7 цяжка параненых партызан, аднак задума немцаў і паліцыі была сарвана, насельніцтва засталося невывезеным у Нямеччыну.*

*Атрад "Кастрычніцкі" ў большасці сваёй арганізоўваў свае дзеянні на дарогах Наваградак -Навальня, Наваградак - шклозавод "Нёман", на чыгунцы Наваельня - Ліда. Фашысты баяліся перамяшчацца па шашы Наваградак -Наваельня і Наваградак -Ліда. Атрадам сістэматычна рабіліся засады на гэтых шашах, яны мінаваліся, сувязь тэлефонная па гэтых шашах, як правіла, заўсёды была разбурана, слупы ўздоўж шашы спілаваны. Калі яны ехалі па гэтых шашах, то толькі буйнымі сіламі, кулямёты на аўтамашынах глядзелі ва ўсе бакі. Але і гэта, вядома, іх не ратавала.*

*Ад ст. Наваельня да Наваградка і Любчы працавала ў той час вузкакалейная чыгунка. Атрад папрацаваў нямала, але дамогся таго, што пад адхонамі гэтай чыгункі валялася шмат вагонаў і паравозаў, рэйкі былі разабраны, і ў рэшце-рэшт яна спыніла сваё існаванне.*

*Участак чыгункі Наваельня - Ліда, асабліва ад Наваельні да паўстанка Яцукі кантраляваўся партызанамі. Вельмі рэдка, каб нейкі фашысцкі цягнік праходзіў тут не падарваным, а то і ў некалькіх месцах перад эшалонам падрывалася чыгуначная каляя. На гэтым адрэзку хуткасць не перавышала 5-15 км/гадз, уздоўж цягніка ішла нямецкая пяхота, прачэсваючы лес. Акупанты прымалі ўсе меры да ўмацавання сваіх бункераў на паўстанках, але гэта нашым падрыўнікам не замінала выконваць заданні. Было пушчана пад адхон каля 40 цягнікоў.*

*Улетку 1943 г. групай падрыўнікоў атрада быў падарваны варожы эшалон, на якім перакідаўся фашысцкі танкавы батальён у бок Баранавіч ад ст. Ліда. У выніку выбуху, увесь батальён, матэрыяльная частка і жывая сіла былі знішчаны. Гэты эшалон рухаўся з вялікай хуткасцю, міна была закладзена на павароце чыгункі паміж ст. Наваельня і паўстанкам Поніква , адхон быў вялікі. Тры дні фашысты трымалі акружаным месца выбуху, прыбіраючы сваіх "пераможцаў".*

*У гэтым жа раёне ўзімку 1943-44 гг. група партызан на чале з т. Жук І.І. расшрубавала балты на стыку рэек, адсунула канцы рэек у бок і разам з атрадам размясцілася абапал. Чакаць прыйшлося гадзіны дзве. Мы пачулі гудок паравоза, які пачаў рухацца з паўстанка Яцукі. Хвілін праз 5-10 пачулі выбух, гэта група партызан іншага атрада хацела яго падарваць. Эшалон прастаяў там яшчэ гадзіны паўтары, пакуль замянялі рэйкі. Было марознае надвор'е, і нам не вельмі ласкава цягнуўся час, ляжалі ў снезе. Нарэшце і мы дачакаліся яго. Спадзяваліся, што паравоз сыдзе з рэек і пацягне за сабой вагоны, але хуткасць была такая малая, што паравоз сышоў з рэек усяго на 1-2 м і спыніўся. Я падаў каманду адкрыць агонь. Завязалася перастрэлка, але ў вагонах пачуўся плач жанчын і дзяцей. Я загадаў спыніць агонь. Адзін з немцаў, пасля*

*мы высвятлілі, што гэта быў намеснік гэбітскамісара г. Наваградка, ён быў цяжка паранены, уцёк у кусты і памёр. Дык вось гэты нам. гэбітскамісара ідзе ад паравоза і крычыць "Вас волен зі хір фальфлюктэр донэр вэтэр". Я спытаў у лекара тав. Лімана, які ляжаў побач са мной, што ён кажа: "Што жадаеце тут, сволачы?". Я зноў змушаны быў адкрыць агонь, завязалася разлютаваная перастрэлка. Па маім загадзе быў захоплены паравоз і хвост эшалона. У сярэдніх вагонах фашысты зацята супраціўляліся. Нам ўдалося падняць людзей у атаку, і ўвесь цягнік апынуўся ў нашых руках. У эшалоне было чалавек 40 цывільных асоб, якіх мы адпусцілі па хатах, а чалавек 40 немцаў прыйшлося ўзяць у палон. Праўда, усіх іх расстралялі, бо адпраўляць іх не было куды, лагераў для ваеннапалонных у нас не было.*

*У эшалоне было шмат аўтамашын, адзін вагон з матацыкламі, адзін вагон з мінамі і авіяцыйнымі бомбамі, але разглядаць нам усё гэта было некалі, бо немцы кінулі падмацаванне з боку ст. Наваельня, яно ўжо было блізка ад нас. Мы падпалілі ўсе гэтыя каштоўнасці і адышлі па кірунку в. Дзіракі. У гэтым баі вызначыўся начальнік штаба атрада Тамашэўскі Антон Іванавіч, які быў прызначаны да нас у 1943 г., ён уцёк з фашысцкага палону.*

*Лідскі падпольны гаркам КПБ сваім рашэннем абавязаў камандаванне іншых атрадаў, першасныя партарганізацыі папулярызаваць досвед разгрому эшалона атрадам "Кастрычніцкі". Сакратар Лідскага падпольнага гаркаму партыі тав. Гапееў Е.Д. у гутарцы са мной сказаў: "Малайцы, хлопцы! Гэтага ў нас яшчэ не было. Зрабі такую аперацыю яшчэ раз, і мы прадставім цябе і шэраг тваіх таварышаў да звання Героя Савецкага Саюза". Я ў яго папрасіў падкінуць хоць бы маленькую дапамогу ў людзях, бо асцерагаўся нарвацца на эшалон з жывой сілай і для поўнага знішчэння людзей і аўтаматычнай зброі ў нас замала. Тав. Гапеев абяцаў мне дапамагчы праз нашага камбрыга тав. Васільева.*

*Атрад праводзіў сістэматычныя баі з засад і іншыя аперацыі па знішчэнні фашыстаў і іх халуёў. Атрадам быў разгромлены паліцэйскі ўчастак у Наваельні, не страціўшы ніводнага партызана, мы паспяхова знішчылі ўвесь паліцэйскі ўчастак, які налічвае каля 40 паліцаяў. Разагналі Самаахову ў Наваельні, было раззброена больш за 100 чалавек.*

*Атрад прыняў удзел у знішчэнні фашыстаў на чале з оберлейтэнантам Куртам з засады на дарозе Бярозаўка -Пудзіна ўвесну 1943 г. Эсэсаўцы -афіцэры ехалі на двух легкавых аўтамабілях, у суправаджэнні паліцыянтаў, якія ехалі на падводах - прыкладна каля 40 падвод. Аперацыя была настолькі паспяховай, што ніводзін фрыц і паліцай не вярнуліся жывымі ў Бярозаўку. Толькі труп аднаго паліцыянта, спуджаны конь даставіў назад у пастарунак, 7 чалавек былі ўзяты ў палон жывымі а астатнія былі забіты. Трэба аддаць належнае азвярэнню, з якім ваявалі афіцэры СС. Нават цяжка параненыя працягвалі зацята адбівацца, але і гэта ім не дапамагло. Большасць трафеяў дасталася нашаму атраду, бо я падняў сваіх хлопцаў у атаку раней за іншых. Праўда, пасля бою прыйшлося падзяліцца трафеямі з іншымі атрадамі паводле загаду камбрыга, але ўсё-такі большасць трафейнай зброі засталася ў нашым атрадзе. Зброяй і боепрыпасамі атрад папаўняўся толькі за кошт трафеяў. Падпольны гаркам КПБ і Баранавіцкі абкам КПБ пачалі дзейнічаць у 1943 г, з Вялікай Зямлі ім дастаўлялася зброя і боепрыпасы. Нашаму атраду, у сувязі з яго аддаленасцю ад ГК КПБ і падпольнага абкама, боепрыпасаў і зброі даставалася ў такой малой колькасці, што і гаварыць не даводзіцца.*

*У атрадзе была арганізавана першасная партарганізацыя. У кастрычніку 1943 г. я падаў заяву ў члены КПСС, быў прыняты ў яе шэрагі. Кандыдатам у члены КПСС я быў з 1940 г.*

*Камсамольская арганізацыя налічвала прыкладна каля 40 чалавек. Сакратаром яе быў Радзівонаў Валодзя. Трэба сказаць, што партарганізацыя і камсамольская арганізацыя аказвалі вялікі ўплыў на выхаванне калектыву, натхнялі партызан на баявыя справы. Праводзілі вялікую працу сярод насельніцтва.*

*Атрад быў разбіты на роты, звязы і аддзяленні, быў асобна вылучаны разведзвяз, якім камандаваў спачатку Мазура Васіль - вельмі адданы, баявы наш таварыш, які загінуў у 1942 г, потым камандзірам звяза быў Анікіфараў Пётр. На чале рот стаялі баявыя дасведчаныя таварышы, такія як Башкатаў Павел, Шлямкоў Валодзя, Ваўчэцкі Іван, Казлоў Зміцер. Адным з выбітных палітрукоў быў Радзівонаў Валодзя, які загінуў у баі ў д. Навіны Наваградскага раёна. Радзівонаў Валодзя быў не толькі адным з першых арганізатараў атрада, але і да апошніх дзён свайго жыцця быў ягонай душой, яго любілі ўсе хлопцы ў атрадзе і насельніцтва раёна дзеяння. У баі ён паводзіў сябе заўсёды добра, выяўляючы кемлівасць і знаходлівасць. Чалавекам адмысловай адвагі быў былы камандзір звяза Віктар Ваўчэцкі. Родам ён быў з в. Навіны, там ён і пахаваны, там пастаўлены яму помнік, а адна з вуліц г. Наваградка пераназвана ў вуліцу В. Ваўчэцкага.*

*Памяць пра такія герояў як Радзівонаў В., Ваўчэцкі В., Тамашэўскі Антон (загінуў у баі з белапалякамі каля в. Кміцяна Каменка), Дудар Пётр, Снітко Пётр, Мазура Васіль і іншых нашых баявых таварышаў ніколі не пацямнее ў сэрцах былых партызан нашага атрада.*

*Атраду "Кастрычніцкі" даводзілася шмат часу аддаваць барацьбе з белапалякамі - так мы называлі групы і атрады палякаў, якія былі адданыя эміграцкаму ўраду Мікалайчыка і супрацоўнічалі з фашыстамі. Асабліва моцны бой атраду прыйшлося вытрымаць з белапалякамі ля в. Лучкі . Там іх наш атрад добра патрапаў, нягледзячы на тое, што яны займалі абарону ў акопах, будавалі яе загадзя. Наш атрад выбіў іх з пазіцый абароны і прымусіў уцякаць. Толькі забітымі белапалякі страцілі чалавек 20. І гэта ў абароне. А атрад наш, наступаючы, не меў ніводнага чалавека забітага.*

*Даводзілася часта весці баі з рознага роду "рагулеўцамі", казакамі і іншымі відамі нямецкіх*

*фармаванняў. У 1943 г наваградскі гэбітскамісар Бушман, напалоханы разгорнутай партызанскай барацьбой у раёне, выпусціў улёткі, прызначаныя партызанам нашага атрада з заклікам абдумацца, здавацца пакуль не позна нямецкім уладам, гарантаваў усім добрае жыццё, увогуле шмат выгод фашысты абяцалі ў сваёй бурдзе. Гэтыя ўлёткі з самалётаў былі раскіданы па тэрыторыі раёна і вядома патрапілі ў нашы рукі. Мы іх прачыталі і напісалі наваградскаму кату адказ. Пісалі мы яго ад рукі, ён быў запячатаны ў канверт і дастаўлены гэтаму апекуну асабіста ў рукі. Ліст даволі цікавы. Копія яго захоўваецца ў Менску ў Музеі Вялікай Айчыннай вайны. Ён так і завецца: "Адказ партызан атрада "Кастрычніцкі" Наваградскаму гэбітскамісару". Пасля гэтага ўлётак нам не раскідвалі, а разляплялі вакол Наваградка, у гэтых улётках за маю галаву і галаву іншых нашых камандзіраў Бушман абяцаў вялікую ўзнагароду ў грашах, зямлю і іншыя рэчы. Але на гэтую вуду ніхто, вядома, з насельніцтва не ішоў.*

*У 1943 г. угодкі Вялікага Кастрычніка камандаванне атрада вырашыла адзначыць не толькі ўзмоцненымі баявымі аперацыямі, але і правесці невялікі парад падраздзяленняў атрада. На ўскраіне в. Кміцяна Каменка камандаванне атрада прымала парад сваіх падраздзяленняў. Роты і звязы атрада спачатку прайшлі так, як яны фактычна былі пранумараваны. Праходзілі яны перад камандаваннем атрада, потым па в. Каменка, па лесе, у лесе рабілі перашыхтоўку і зноў праходзілі па тым жа маршруце. І такая перашыхтоўка падраздзяленняў рабілася тры разы, адны і тыя ж роты і звязы праходзілі па тры разы толькі ў іншым парадку. Уся в. Каменка глядзела наш парад. На заўтрашні дзень агентурная выведка перадала нам паведамленне з Наваградка, у якім гаварылася пра тое, што ў в. Каменцы праходзіў парад, у якім удзельнічала не менш палка партызан.*

*Атрад тройчы па загадзе камандавання брыгады выходзіў на "рэйкавую вайну". Гэта былі перыяды наступлення нашых войскаў на тэрыторыі Беларусі. Мы атрымлівалі са штаба брыгады ці міжрайцэнтра толавыя шашкі, выробленыя адмыслова для гэтай мэты. Толавымі шашкамі мінавалі рэйкі і падрывалі. Пасля такога выхаду на рэйкавую вайну фашысты змушаны былі 2-3 сутак рамантаваць, аднаўляць чыгуначныя каляі, а іх эшалоны стаялі.*

*Арганізатарамі атрада былі чальцы КПЗБ, камсамольцы, чальцы савецка-партыйнага актыву, пакінутыя ў тыле ворага, а таксама былыя афіцэры салдаты і сяржанты ЧА, пакінутыя ў акружэнні. Гэтыя таварышы заставаліся да дня вызвалення ядром атрада, яго актывам. Да лета 1943 г. даводзілася дзейнічаць, не ведаючы становішча на фронце. Горш таго, фашысцкая прапаганда разносіла недарэчныя чуткі пра становішча на франтах. Мы неаднаразова чулі пра падзенне Ленінграда, узяцце Масквы, смерць Сталіна і хуткае пераможнае заканчэнне вайны Нямеччынай. Не маючы радыёпрыёмнікаў, мы маглі толькі здагадвацца пра тое, што гэта гебельсаўская прапаганда, якая накіравана на зман людзей. Мы змушаны былі праводзіць сярод партызан і насельніцтвы вялікую тлумачальную працу, каб яны не верылі фашысцкай прапагандзе, пераконвалі іх у тым, што фашысты будуць разбіты, а для гэтага трэба змагацца. І толькі з 1943 г., са стварэннем падпольнага гаркаму і абкаму мы рэгулярна былі інфармаваны пра становішча на франтах.*

*Атрад быў увесь час на колах, змяняў месца дыслакацыі штодня, бо ўмовы мясцовасці не дазвалялі доўга стаяць на адным месцы. Таму атрад быў няўлоўны для фашыстаў.*

*Атрад Кастрычніцкі" прыняў актыўны ўдзел у вызваленні Наваградчыны і Лідчыны. Пры злучэнні з часткамі Чырвонай Арміі 8 ліпеня 1944 г, атрад аказваў дапамогу ў знішчэнні фашыстаў на р. Нёман. Атрадам было узята ў палон і знішчана каля тысячы фашыстаў і іх халуёў. Пасля злучэння з часткамі Чырвонай Арміі атрад прыбыў у г. Наваградак, дзе не меней 70 % асабовага складу пайшло служыць у шэрагі ЧА, а астатнія таварышы, па рашэнні партыйных і савецкіх органаў, засталіся аднаўляць разбураную народную гаспадарку. Да моманту злучэння з часткамі ЧА атрад налічваў у сваіх шэрагах каля 500 чалавек. Многія партызаны атрада ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза".*

Пасля вызвалення В. Панчанкаў працаваў у Наваградку (1944-54) памочнікам сакратара, інструктарам райкаму КПБ, упаўнаважаным Міністэрства нарыхтовак па Наваградскім раёне, у Клецку (1954-57) - упаўнаважаным Міністэрства нарыхтовак па раёне, у г. Гародні (1957-68) - дырэктарам камбіната супрацьпажарных работ, дырэктарам базы хлебапрадуктаў, начальнікам цэха на камбінаце буддэталей, інжынерам - дыспетчарам БУ- 85 трэста № 11.

У 1966 г. прыняў удзел у закладцы Кургана Неўміручасці. У 1968 г. пераехаў у Ліду, працаваў намеснікам начальніка БУ-103 будтрэста № 19 (1968-76). У 1976 г. па хваробе пайшоў на пенсію. Праз тры гады быў прызначаны начальнікам жыллёва-камунальнай канторы будтрэста № 19 (1979 -86). Апошняя праца - загадчык інтэрната ААТ "Лакафарба" (1986-92). Пенсіянер Рэспубліканскага значэння.

Кавалер трох ордэнаў: Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны 1 ступені, узнагароджаны 10 медалямі, Граматай Вярхоўнага Савета БССР. Ганаровы грамадзянін г. Ліды (1965). *"У 1965 г Лідскі гарkам партыі і гарвыканкам прысвоілі мне званне "Ганаровы грамадзянін г. Ліды" з уручэннем сімвалічнага ключа і граматы пра прысваенне звання ганаровага грамадзяніна горада".*

Член Прэзідыюма гарадскога савета ветэранаў. Пахаваны ў Лідзе.

Трое дзяцей: Віялета 1945 гн., жыве ў Свіслачы; Уладзімір 1949 гн.жыве ў Краснаярску, Генадзь 1950 гн, жыве ў Менску.

***Матэрыял да друку падрыхтаваў***
***Валеры Сліўкін.***

# Гарбацэвіч Кацярына Аксёнаўна

## 90 гадоў з дня народзінаў

Гарбацэвіч Кацярына Аксёнаўна нарадзілася 5 лістапада 1921 г. у в. Пашкава Сенненскага, раней Багушэўскага, раёна, беларуска. Скончыла Аршанскую беларускую педагагічную вучэльню (1938).

Член КПСС з кастрычніка 1958 г. Выдатнік народнай асветы (20.05.1957) - загад № 143.

Указам Прэзідыума ВС БССР ад 18 .12 1968 прысвоена ганаровае званне "Заслужанага настаўніка БССР". Пасведчанне № 2047.

Медалі "За доблесную працу...", "Ветэран працы" ад 12.05.1977 г.

*"Двое дзяцей. Сын нарадзіўся ў 1947. Дачка выйшла замуж за вайскоўца, яго адправілі ў Тбілісі, я прыехала туды і забрала ўнучку, горача, і яна зусім не гаварыла па-руску, дачка потым з'ехала з іншым мужам у Мурманск. Я выхоўвала ўнучку Кулачкову Кацярыну 1962 г.н. - яна скончыла медвучэльню ў Ленінградзе і жыве за Ленінградам у вайсковым гарадку. Муж памёр у 1989 г. Два праўнукі."*

**Паслужны спіс:**

1935-38 - Аршанская беларуская педагагічная вучэльня;

1938-1940 - настаўніца Ганапольскай ПШ у Чэрвенскім раёне;

1940-41 выйшла замуж за Бойку Васіля Мікалаевіча, працаваў у дзяржбанку ў Беластоку інкасатарам, родам з Чэрвенскага раёна, хатняя гаспадыня, г. Беласток;

1941-44 на акупаванай тэрыторыі, на гаспадарцы ў маці, выхоўвала дачку (27. 07.1941 г.н.) у в. Пашкава Багушэўскага раёна Віцебскай вобласці;

1944-46 настаўніца Пашкаўскай ПШ Багушэўскага раёна Віцебскай вобл.;

1946 ліпень - настаўніца ПШ № 4 г. Ліда. Муж дэмабілізаваўся, працаваў у дзяржбанку.

1949 - настаўніца пачатковых класаў і загадчыца ПШ № 4;

1955 - настаўніца пачатковых класаў СШ № 8;

1956 - настаўніца і завуч пачатковых класаў СШ № 8;

1961 - настаўніца і завуч пачатковых класаў СШ № 10;

1976 - настаўніца пачатковых класаў СШ № 10;

з 5 чэрвеня 1978 г. на пенсіі;

1979-81 - выхавальнік групы падоўжанага дня СШ № 4.

*"Дзеці моцна перагружаны. Трэба перагледзець праграму для пачатковых класаў. Настаўнікі не ўсё дапрацоўваюць, як мне здаецца. Мы раней дадатковыя занятткі праводзілі бясплатна, а цяпер нейкія сацыяльныя настаўнікі, рэпетытары. Добра, што стала менш вучняў у класе, у нас да 43 вучняў у класе было, журнала бракавала."*

# Малахаў Мікалай Міхайлавіч

## 90 гадоў з дня народзінаў



Малахаў Мікалай Міхайлавіч (14.11.1921- 21.09.1993). Нарадзіўся ў в. Шалаболіха Паўлаўскага раёна Алтайскага краю. У Вяліка Айчыннай вайне удзельнічаў з 15 чэрвеня 1943 г. Лётаў на самалётах По-2, УТ-2, Р-5, СБ, ІЛ-2. Здзейсніў 153 баявыя вылеты. Удзельнічаў у бамбаваннях на Нікапальскім плацдарме, пры прарыве абароны на Сівашы, пры вызваленні Крыма і Севастопаля, пры вызваленні Беларусі, на тэрыторыі Ўсходняй Прусіі. Герой Савецкага Саюза (29.06.1945), узнагароджаны ордэнам Аляксандра Неўскага (29.01.1945), трыма ордэнамі "Чырвонага Сцяга" (19.05.1944, 25.04.1945, 20.06.1945), Ордэнам Айчыннай вайны 1 ступені (5.09.1944), медалямі. Вайну скончыў капітанам.

У паваенныя гады лётаў на самалётах Іл-10, Іл-2, По-2, Як-18, УІл-10, МіГ-15 біс, Іл-28. Падпалкоўнік (22.07.1957). З кастрычніка 1972 г. жыў у Лідзе. Вёў вялікую грамадскую працу па выхаванні падрастаючага пакалення. З'яўляўся старшынём Савета ветэранаў авіядывізіі, чальцом клуба рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы пры Лідскім гаркаме КПБ, узначальваў гарадскі штаб Усесаюзнага паходу па месцах рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы савецкага народа пры Лідскім гаркаме камсамолу. Пахаваны на Лідскіх гарадскіх могілках на цэнтральнай алеі. Яго імем названы вуліцы ў Лідзе і ў Барнавуле.

# Уладзіміру Сямёнавічу Мурахверу - 80 гадоў

Ёсць таленты, якія згараюць, як запалка, шуганулі і зніклі, ёсць, як свечка - доўга і роўна гараць, а ёсць такія дзіўныя творчыя асобы, якія разгараюцца ўсё ярчэй і ярчэй, і здаецца, што няма межаў іх здольнасцям і талентам. Мастак Уладзімір Мурахвер - з такіх дзіўных талентаў - незгасальных па меры старэння. Высокаадукаваны інтэлігент, падзвіжнік, вельмі адораны і знакаміты ў вобласці мастацкага шкла, графік са сваім тварам, мастак-монументаліст. З'ява ў лідскай прамысловай і творчай гісторыі.

Нарадзіўся Уладзімір Сямёнавіч 5 снежня 1931 года ў г. Ананьеве Тыраспальскай (цяпер Адэскай) вобласці. Маці - Сара Аронаўна Коган - настаўніца гісторыі і літаратуры. Бацька - Сямён Навумавіч Мурахвер - настаўнік фізікі і матэматыкі. Акрамя Уладзіміра ў сям'і былі яшчэ тры сыны.

Калі пачалася вайна, Уладзіміру было 11 гадоў. Бацька добраахвотнікам пайшоў на фронт у складзе знішчальнага батальёна. Пасля ён лічыўся зніклым без вестак. А маці здала сваіх дзяцей ў дзіцячы дом, і сама ўладкавалася выхавальніцай. Пазней дзіцячы дом эвакуявалі на Паўночны Каўказ, затым у Ташкент.

У школе Уладзімір Сямёнавіч вучыўся дрэнна, шмат чаго не разумеў. Амаль усе думкі займала жаданне што-небудзь з'есці?

Пасля школы ён вучыўся ў мастацкім тэхнікуме імя П.П. Бянькова. Потым шэсць гадоў - у Ленінградскай Вышэйшай Мастацкай Прамысловай вучэльні імя В. Мухінай.

Яго настаўнікам з 1953 года быў Барыс Аляксандравіч Смірноў. Ён вучыў Мурахвера не толькі рамяслу, уменню прыдумваць, адчуваць матэрыял, але і сваім спосабам існавання ў жыцці і мастацтве. Разам з Мухінай, акадэмікам Качалавым, тэхнолагам Эктэлісам яны пасля вайны аднаўлялі Ленінградскі завод мастацкага шкла.

У 1953 годзе ў Ленінградзе на першым курсе мастацка- прамысловай вучэльні Уладзімір Мурахвер пазнаёміўся з Людмілай Мягковай, якая таксама збіралася займацца шклом. На другім курсе яны пажаніліся.

У 1958 годзе Уладзімір Сямёнавіч і Людміла Міхайлаўна былі накіраваны на практыку на шклозавод "Нёман". А ў 1959 годзе яны прыехалі ў Бярозаўку назаўсёды.

У той час у мастацтве адбываліся вялікія перамены - з'яўляліся новыя кірункі, мяняўся сам падыход да работы, упершыню прагучалі словы *дызайн, дызайнер-мастак прамысловасці, стыль-дызайн.* Маладым мастакам хацелася пазбавіцца ад усяго, што яны лічылі ўвасабленнем застою - сталінскага ампіру, багатага на ляпныя аздобы, узоры і колеры. Было зроблена шмат дэкаратыўных, студыйных рэчаў і рэчаў, якія мастакі жадалі запусціць у вытворчасць. Працы дэманстраваліся на саюзных і рэспубліканскіх нарадах і выставах.

І ўсё ж Мурахверу і Мягковай часам даводзілася ісці на кампраміс з уласнымі поглядамі на тое, якім павінен быць сучасны і па-сапраўднаму прыгожы посуд.



***У. Зінкевіч, У. Мурахвер, З. Цэрэтэлі, В. Януцёнак, У. Савіч, М. Баразна пасля ўручэння акадэмічных знакаў ганаровых членаў Расійскай акадэміі мастацтваў***

Наступіўшы на горла ўласнай песні, Уладзімір Сямёнавіч зрабіў круглы крышталёвы салатнік с зубчыкамі. Пасля - вазу з задымленага шкла з вінаграднымі лозамі. Яны выпускаюцца па сённяшні дзень, карыстаюцца попытам і, нават, ішлі на экспарт

У 1966 годзе Уладзіміра Мурахвера прызначылі галоўным мастаком "Нёмана". На гэтай пасадзе ён прабыў каля 7 год, таму што работа гэта аказалася не для яго. *"Большая частка абавязкаў легла на плечы жонкі,* - успамінае Уладзімір Сямёнавіч. - *У яе лепш атрымлівалася весці паперы і выконваць арганізацыйную работу. Я быў тварам прадпрыемства - раз'язджаў па выставах і сустрэчах. Мала таго, па натуры я чалавек крыху нястрыманы, таму ў мяне ўвесь час узнікалі сутычкі з начальствам. Паступова Мягкова стала незаменнай, і ўлада была добраахвотна перададзена ў жаночыя рукі".* Людміла Міхайлаўна ўзначальвала аддзел мастакоў "Нёмана" 20 гадоў!

З 1960 г. Уладзімір Сямёнавіч прымаў удзел у шматлікіх выставах. Яго творы экспанаваліся ў Нямеччыне, Вугоршчыне, Чэхаславакіі, Даніі. Персанальныя выставы ў Маскве, Ленінградзе, Менску.

Член Саюза мастакоў БССР (1964).

У 1979 г. на выставе шкла і парцаляны ў г. Яблонец на Нісе (Чэхаславакія) узнагароджаны залатым медалём за камплект дэкаратыўных вазаў.

Ім створаны мастацкія карціны - "Януш Корчак", "Мейерхольд", графіка. У 1972 годзе -"Ефрасіння Полацкая". У 1973 годзе - клязмеры (5 невялікіх унікальных работ).

Акрамя сваёй непасрэднай работы па стварэнні новага асартыменту вырабаў, Уладзімір Мурахвер займаўся грамадскай работай. Ён быў арганізатарм і трэнерам валейбольнай каманды Бярозаўкі, члены якой дасягнулі пад яго кіраўніцтвам звання майстроў спорту. Ён з'яўляўся ініцыятырам стварэння і кіраўніком дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва. Работы выхаванцаў студыі неаднаразова экспанаваліся на рэспубліканскіх выставах дзіцячай творчасці.

Прайшло ўжо шмат год, як Мурахвер і Мягкова пайшлі на пенсію. У музеі шклозавода захоўваюцца шмалікія экспанаты творчага тандэму, прысвяціўшага

Бярозаўцы і мясцоваму прадпрыемству ўсё жыццё. Работы Мурахвера і Мягковай упрыгожваюць музеі, галерэі і прыватныя калекцыі дзесяткаў краін свету.

Узнагароды:

- 1975 год - Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета БССР;
- 1963 - 1977 гг. - чатыры срэбныя медалі;
- 1972 год - бронзавы медаль;
- 1983 год - залаты медаль;
- 1983 год - знак "Выдатнік сацыялістычнага спаборніцтва МПСМ СССР";
- 1990 год - срэбны медаль Акадэміі мастацтва СССР, дыплом 1-й ступені, Ганаровае званне "Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР";
- 2000 год - Медаль у гонар 2000-годдзя хрысціянства;
- 2001 год - Ганаровы знак Саюза мастакоў;
- 2006 год - дыплом у гонар юбілея Саюза мастакоў,
- 2010 год - ганаровы член Расійскай акадэміі мастацтваў.

**Спіс публікацый пра У. Мурахвера:**


1. Мурахвер Уладзімір Сямёнавіч // Бел. энцыкл.: у 18 т.- Мн., 2000.- Т. 11. - С. 31.
2. Мурахвер Уладзімір Сямёнавіч // Энцыкл. літ. і мастацтва Беларусі: у 5 т.-Мн., 1986,- Т.3.- С.704-705.
3. Мурахвер Уладзімір Сямёнавіч // Беларускі саюз мастакоў: энцыкл. дав.-Мн., 1998,- С. 369.
4. Мурахвер Владимир Семенович // Винник, Л. Время и судьбы / Леонид Винник, Михась Мельник.- Лида, 2004,- С. 28.
5. Жалкоўскі, А. Мурахвер Уладзімір Сямёнавіч /Аляксандр Жалкоўскі// Памяць: гіст.-дак. хроніка Ліды і Лід. р-на.- Мн., 2004,- С. 471-472.
6. Корсак, Д. Волшебное стекло Мурахвера и Мягковай / Дмитрий Корсак // Обозреватель,- 2011.- №45,- С. 20.
7. Задарожына, А. Ленінградскі дуэт на бярозаўскіх прасторах, ці Гісторыя і жыццё праз прызму мастацтва: [заслужаныя дзеячы мастацтваў Беларусі Людміла Мягкова і Уладзімір Мурахвер] / А. Задарожына// Краязнаўчая газета.- 2010.- №35.- С.6.
8. Бибикова, А. Стеклянных дел мастер: [художник из города Березовки Лид. р-на Владимир Мурахвер] / А. Бибикова // Гродзенская праўда.- 2010.- 30 студзеня.
9. Познавательная книга для детей и взрослых: [В. Сливкин, "Краткая история города Лида. Рассказанная и нарисованная", рис. В. Мурахвера, отпечатана в фирме "Оникс"]// Лідская газета,- 2007.- 19 мая,- С.3.
10. Сліўкін, В. Мастацтва пачынаецца з агню: 75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Мурахвера / Валеры Сліўкін // Лідскі Летапісец.- 2006.- №4,- С.33.
11. Уладзімір Сямёнавіч Мурахвер пра сябе і калегаў // Лідскі Летапісец.- 2006.- №4.- С.34-35.
12. Жалкоўскі, А. Творца паэзіі і шкла: [У. Мурахверу - 75] / Аляксандр Жалкоўскі // Лідская газета.- 2006.- 5 снежня,- С.2.
13. Жалкоўскі, А. Мастака з Бярозаўкі сустрэў поспех у сталіцы: [Уладзімір Мурахвер] / Аляксандр Жалкоўскі // Принеманские вести.- 2006,- 26 октября,- С.4.
14. Батракова, В. Ад мастацкага шкла - да манатыпіі: [14 верасня ў Ізраільскім культурна-інфармацыйным Цэнтры г. Мінска адкрылася выстаўка работ мастака Уладзіміра Мурахвера] / Вольга Батракова // Культура.- 2006.- №38.- С.10.
15. Талівінская, Н. Шкляных спраў майстар: [Уладзімір Мурахвер] / Наталля Талівінская // Звязда.- 2006.- 20 верасня.- С.4.
16. Ерш, М. Новой галерее быть: [выставка Владимира Семеновнча Мурахвера в Лидском музыкальном училище] / Михаил Ерш // Принеманские вести.- 2005.- 14 апреля.- С.3
17. Папко, А. В музучилище - выставка картин: [художника В.С. Мурахвера] / А. Папко //Лідская газ.- 2005.- 12 красавіка.- С.2.
18. Чэмер, М. Баль фактуры: [дэкаратыўная кампазіцыя Уладзіміра Мурахвера "Сілы зямныя" на выставе "Фактура" у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі] / Мікола Чэмер] // Настаўніцкая газ.- 2005.- 12 красавіка.- С.4.
19. Признание заслуг художника: [фамилия художника стеклозавода "Нёман" Владимира Мурахвера занесена в Книгу Народной Славы Лидского района] //Лідская газ.- 2003.- 21 чэрвеня.- С.1.
20. Яніцкая, М. У халодным шкле застаецца агонь душы: [выстава твораў У. Мурахвера ў Нац. маст. музеі] / М.Яніцкая // Мастацтва,- 2002,- №5-6.- С.36-39; 2-я, 3-я стар. вокл.
21. Мацулевіч, А. Трымацца моцна, надзейна: [пра заслуж. дзеяча маст. Беларусі У. Мурахвера і яго выставу ў Лід. гіст.-маст. музеі] / Аляксндр Мацулевіч // Тэлескоп,- 2002.- 28 сакавіка,- С.2.
22. Візітная картка Лідчыны: [выстава У. Мурахвера ў гіст.-маст. музеі] // Наша слова.- 2002,- 27 сакавіка.- С.3.
23. Міхайлава, Т. У дзяцінстве ён сказаў: "Я буду мастаком" і стаў ім / Т. Міхайлава // Лідская газ.- 2002,- 26 сакавіка.- С. 1.
24. Сліўкін, В. Уладзімір Мурахвер пра людзей і сябе / В. Сліўкін // Тэлескоп,- 2001.- 6 снежня.-С.4.
25. Сливкин, В. Юбилеи: [Мурахверу В.С. - 70 лет] / Валерий Сливкин // Лид. экспресс.- 2001.-№ 32,- С.4.
26. Мурахвер Уладзімір Сямёнавіч (5.12.1931), бел. мастак-прыкладнік, шклозавод "Неман" // Лідская газ.- 1997.- 1 лістапада.
27. Воронов, Н. Людмила Мягкова и Владимир Мурахвер / Н. Воронов // ДН СССР,- 1989,- №12,- С. 17-20.
28. Яніцкая, М. Каляровая стылістыка: [пра гал. мастакоў шклозавода "Нёман" У.С. Мурахвера і Л.М. Мягкову] / М.Яніцкая // Беларусь.- 1981,- №12,- С.29.
29. Яніцкая, М. Шукальнік: [пра гал. маст. шклозавода "Нёман" У.С. Мурахвера] / М. Яніцкая // Літаратура і мастацтва.- 1973.- 27 красавіка.
30. Мурахвер, В.С. Эхо музыки: [беседа с гл. художником стеклозавода "Неман" В.С.Мурахвером] // Гродненская правда.- 1971.-6 марта.


***Матэрыял падрыхтаваны калектывам Лідскай ЦРБ імя Янкі Купалы.***

# Смарагд Фёдаравіч Сліўко

## 80 гадоў з дня нараджэння

*Смарагд, Вы - не "камень бліскучы",*
*Вы - бляск тых зор начных з нябёс,*
*Іскра натхнення, спеваў гучных,*
*Вы - свет надзей, Вы - дзе Хрыстос!*

***Алесь Хітрун.***

Смарагд (грэч.) - адзін з самых высакародных і каштоўных самацветаў. Лічыцца, што гэты цудоўны камень гарантуе свайму ўладальніку знешнюю вытанчанасць, таленавітасць, красамоўства, велікадушнасць, пачуццё ўласнай годнасці, тактоўнасць, перакананасць, шчырасць, весялосць, радасць, надзею і любоў.

У рускай мове слова "смарагд" лічыцца ўстарэлым і выкарыстоўваецца яго сінонім з лацінскай мовы (зумурруд) - "изумруд". А ў беларускай мове яно выкарыстоўваецца па сённяшні дзень. Так склалася, што амаль усё жыццё чалавека, які носіць гэта імя, звязана з Беларуссю.

Смарагд Фёдаравіч Сліўко (сапраўднае Смарагд Смарагдавіч Кропін) нарадзіўся 16 снежня 1931 года ў горадзе Яраслаўлі ў сям'і акцёра і паэта Смарагда Кропіна, які працаваў у Яраслаўскім тэатры імя Волкава. Падчас вайны бацька загінуў і пахаваны ў Польшчы. Айчым усынавіў Смарагда і даў яму сваё прозвішча - Сліўко, і імя па бацьку - Фёдаравіч.

Маці Смарагда была шаснаццатым дзіцем у вялікай сялянскай сям'і. Але ў выніку двух крывавых войнаў - Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай - ад сям'і засталася толькі цётка, якая выйшла замуж у вёску каля Ваўкавыска, і яна сама з двума дзецьмі на руках.

У 1946 годдзе іх адшукаў муж старэйшай сястры і хутка ён стаў айчымам для 14 - гадовага Смарагда і яго семігадовай сястрычкі.

З таго ліхога пасляваеннага часу і звязана жыццё Смарагда Фёдаравіча з Беларуссю. З Ваўкавыска айчыма перавялі на службу ў Гародню, дзе Смарагд вучыўся як пераростак (дзіця вайны) у вячэрняй школе. Пасля школы яго ўзялі ў войска. Чатыры гады без водпуску служыў у танкавых войсках у пасёлку Агатуё Чыцінскай вобласці. Вярнуўся ў Гародню ў званні яфрэйтара і давучваўся ў вячэрняй школе рабочай моладзі, працуючы рэжысёрам лялечнага тэатра пры палацы культуры. Пасля была вучоба ў педінстытуце на гістарычным факультэце, які пазней быў зліты з філалагічным факультэтам. Таму ў дыпломе аб атрыманні вышэйшай адукацыі ў 1961 годзе з'явіўся запіс аб прафесіі: настаўнік гісторыі і рускай мовы.

Працоўная біяграфія настаўніка Смарагда Сліўко пачалася ў Астраўцы. Але самае галоўнае, што ўжо на другі дзень пасля прыезду ён стаў удзельнікам мастацкай самадзейнасці РДК. Што гэта, калі не лёс, таму што менавіта тут ён пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай і музай на ўсё жыццё - Ірынай Нікадзімаўнай.



Потым быў пераезд у Ліду і праца ў трэцяй, пятай, восьмай і дзевятай сярэдніх школах да самага выхаду на пенсію.

У Лідзе захапленне мастацкай самадзейнасцю перарасло ў нешта большае - разам з Пятром Дакукам Смарагд Сліўко ставае народны тэатр пры ГДК. На працягу ўсяго жыцця Смарагд Фёдаравіч удзельнічае ў мастацкай самадзейнасці, спявае, танцуе, складае і выконвае прыпеўкі, выступае ў ролі канферанссе. Пра той час сведчаць граматы, афішы і іншыя дакументы, перададзеныя ў гістарычна-мастацкі музей.

Не пакідала і муза паэзіі. Але спачатку пісалася больш для сябе, у стол, пакуль сябры не параілі аднесці паэтычныя творы ў рэдакцыю газеты "Уперад".

Літаратурныя старонкі ў той час рыхтаваў Уладзімір Васько, які пачаў рэдагаваць асобныя радкі Смарагда, а той злаваўся, але потым быў вельмі ўдзячны за ўрокі паэтычнай патрабавальнасці.

Уладзімір Гаўрылавіч Васько пісаў: *"Для сапраўднай паэзіі неабходны вельмі многія складнікі, але каб хоць асноўныя з іх - гэта глыбіня думкі, прывабны і шчыры эмацыянальны свет, вобразнасць і вернасць рэаліям жыцця - высвечваліся на поўную моц, то ўжо і такія вершы можна залічваць у разрад паэзіі. У творах лідчаніна Смарагда Сліўко яны прысутнічаюць. Акрамя таго, памянёны аўтар умее стварыць пэўны настрой у душы чалавека, выявіць сваё духоўнае "я"...*

У год свайго 70 - гадовага юбілею Смарагд Фёдаравіч выдаў першы зборнік вершаў, гумару і прозы - "Прошай, двадцатый век". Хтосьці можа сказаць: "Пазнавата"; хтосьці - "Лепш позна, чым ніколі"...

Зямны шлях паэта Смарагда Сліўко закончыўся 5 жніўня 2006 года. А яго паэтычны шлях працягваецца. Да чытачоў ідуць вершы, не апублікаваныя пры жыцці. Напісанае застаецца...

Дзякуючы Ірыне Нікадзімаўне, не проста жонцы, а самай адданай прыхільніцы таленту паэта ўбачылі свет зборнікі "От сердца к сердцу", "Продлись, мгновенье...", "Радужное сияние".

**Творы:**

1. От сердца к сердцу: стихи / Смарагд Сливко, Светлана Дорошко. - Лида, 2006, - 89 с.
2. Продлись, мгновенье...: поэзия, проза, юмор / Смарагд Сливко. - Лида, 2007, - 119 с.
3. Прощай, двадцатый век / Смарагд Сливко: стихи, юмор, проза,- Лида, 2001. - 127 с.
4. Радужное сияние: поэзия, проза, юмор / Смарагд Сливко. - Лида, 2010,- 104 с.
5. Воробей: стихи / Смарагд Сливко // Галасы: штогоднік. №4. - Гродна, 2005, - С. 191.
6. Внучке. Спокойной ночи: стихи / Смарагд Сливко // Галасы: штогоднік. №3, - Гродна, 2004, - С. 185-187.
7. Прощание. Огород: стихи / Смарагд Сливко // Галасы: штогоднік. №1. - Гродна, 2002. - С.101-103.
8. Бумага: стихи / Смарагд Сливко//Лідская газета, - 2010, - 14 снежня. - С. 5.
9. Гитара-колдунья: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 2010. - 11 верасня, - С.4
10. Женщина: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета, - 2010, - 6 сакавіка, - С.2.
11. Кормильцы: стихи / Смарагд Сливко// Лідская газета, - 2009, - 4 жніўня, - С.6.
12. Я жив, пока завод мой жив: [стихи об ОАО "Лидское пиво"] / Смарагд Сливко // Лідская газета, - 2008. - 1 лістапада. - С.4.
13. Граница. Две Лиды. У кургана: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 2008. - 31 мая.
14. Вальс: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 2007, - 31 мая, - С.4.
15. "Надо мной звезда стихи мои читает": стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 2006, - 16 снежня. - С.4.
16. Ад сэрца да сэрца: вершы / Смарагд Сліўко // Принеманскне вести, - 2006, - 14 декабря, - С.9.
17. Звезды. Весна и осень: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда, - 2006, - 14 верасня. - С.5.
18. Любіце паэта, любіце, хаця б за адзін толькі верш...: вершы, апавяданні / Смарагд Сліўко; уклад. Міхась Мельнік // Лідскі Летапісец, - 2006, - №4, - С. 53-56.
19. Звіняць званы: верш / Смарагд Сліўко // Принеманскне вести, - 2006. - 17 августа. - С.7.
20. Солнце и слеза: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 2006. - 15 красавіка. - С.4
21. Поэт: стихи / Смарагд Слнвко // Лідская газета, - 2005, - 13 кастрычніка.
22. Поэт - не свеча: стихи [Виктору Бочарову - посвящается] / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 2005. - 17 верасня, - С.4.
23. Я рад: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 2005. - 20 жніўня, - С.4.
24. Поговори со мной...: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда. - 2005, - 5 ліпеня, - С.3.
25. Греми, оркестр!: стихи / Смарагд Слнвко // Гродзенская праўда, - 2005, - 3 мая, - С.3.
26. Хмельная ночь: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда, - 2005, - 5 красавіка. - С.3.
27. Сосны над рекой: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда, - 2005, - 1 сакавіка. - С.3.
28. Василек: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета, - 2004. - 27 лістапада. - С.4.
29. Воробей: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда. - 2004, - 14 снежня, - С.3.
30. И вновь поет любовь! Спокойной ночи. Внучке: стихи / Смарагд Сливко // Принеманские вести, - 2003. - 25 декабря. - С.4.
31. Спокойной ночи: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда, - 2003. - 3 верасня, - С.3.
32. Внучке: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда, - 2003. - 14 студзеня, - С.3.
33. Живые зёрна: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 2002, - 2 ліпеня, - С.2.
34. Огород: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда, - 2001. - 18 верасня, - С.3.
35. Пёс: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета, - 2001. - 26 мая, - С.4.
36. Прощание: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда. - 2001. - 6 лютага.
37. Прощай и здравствуй. Люди двух столетий. Мне 70 лет: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета, - 2001. -15 студзеня.
38. Кусающийся знак: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда. - 2001. - 9 студзеня, - С.3.
39. Память несу я: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда, - 2000, - 12 верасня.
40. На свадьбу: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 2000. - 11 сакавіка.
41. Любовь и весна: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 2000. - 7 сакавіка.
42. Частушки / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда. -1999. - 21 верасня.
43. Закат над прудом. Вокзал: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда. - 1999, - 24 жніўня.
44. Пузатый нуль: юмористический рассказ / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 1999. - 26 чэрвеня.
45. Береза: стихи / Смарагд Сливко / Гродзенская праўда. - 1999, - 15 чэрвеня.
46. Голос сердца: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда, - 1999, - 18 мая.
47. Прости меня, мой бывший муж. Зависть. Пёс: стихи / Смарагд Сливко // Тэлескоп, -1998, - 10 верасня.
48. Журба. Звіняць званы: вершы / Смарагд Сливко // Ад лідскіх муроў. - 1998. - №1. - С. 45-46.
49. Живые о войне: стихи / Смарагд Сливко// Лідская газета. - 1998, - 8 мая.
50. Боль: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета, - 1997. - 31 ліпеня.
51. Звонят колокола: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 1997. - 27 лютага.
52. Поэты: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета, - 1997, - 4 студзеня.
53. Пёс: стихи / Смарагд Сливко // Панорама. - 1996, - №3 (май).
54. Я весь во мне: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета, - 1994, - 20 снежня.
55. Песенка внучки: стихи / Смарагд Сливко / Лідская газета. - 1994, - 22 кастрычніка.
56. Доброе утро: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 1994. - 3 верасня.
57. Как научиться?: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета, - 1994, - 23 красавіка.
58. Севастополь (в память о погибшем): стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета.- 1993,- 6 лістапада.
59. Судьбы: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета, - 1993. - 31 жніўня.
60. Звезды: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 1993. - 8 мая.
61. Витающий дух: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета. - 1992, - 10 кастрычніка.
62. Чёрт: стихи / Смарагд Сливко // Лідская газета.- 1992, - 11 красавіка.
63. И да, и нет. Шрапнель: стихи / Смарагд Сливко // Любоў-любовь, - 1992, - №8 (апрель).
64. Подорожал: стихи / Смарагд Сливко // Любоў-любовь, - 1992. - №7 (март).
65. Тоска: стихи / Смарагд Сливко // Уперад. - 1991. - 16 лістапада.
66. Поговори со мной: стихи / Смарагд Сливко // Уперад, - 1991. - 31 студзеня.
67. Самогон: юмор / Смарагд Сливко // Любоў-любовь, -1991. - август.

68. Кошмар: стихи / Смарагд Сливко // Уперад, - 1991. - 15 чэрвеня.

69. Боюсь оставлять навсегда: стихи / Смарагд Сливко // Уперад, - 1990, - 7 лістапада.

70. Бабуся. Ответь. Ностальгия. "Спасибо вам": стихи / Смарагд Слнвко // Уперад. - 1990. -31 ліпеня.

71. Змея: басня / Смараг Сливко // Уперад. -1989. -1 мая.

72. Зима бросает вихри снега: стихи / Смарагд Сливко // Уперад. - 1988. - 11 лістапада.

73. "Я знаю: судьба переменчива" / Смарагд Сливко / / Уперад. - 1987. - 12 жніўня.

74. Память: стихи / Смарагд Сливко // Уперад. - 1986. - кастрычніка.

75. Вокзал: стихи / Смарагд Сливко // Уперад. -1985, - 2 лістапада.

76. Две судьбы: стихи / Смарагд Сливко // Уперад. - 1985. - 23 жніўня.

77. У кургана: стихи / Смарагд Сливко // Уперад. - 1985, - 9 ліпеня.

78. Воспоминание детских лет: стихн / Смарагд Сливко // Уперад. -1983, - 10 снежня.

79. Мой друг - рабочий стол: стихи / Смарагд Сливко // Уперад. -1983. - 7 чэрвеня.

80. Крановщица. Прости: стихи / Смарагд Сливко // Астравецкая праўда, - 1983. - 2 красавіка.

81. Надежда, вера и любовь: стихи / Смарагд Сливко // Сельская новь. -1983. - 9 марта.

82. Сустрэча: апавяданне / Смарагд Сліўко // Уперад. -1981 . -6 лістапада.

83. Вокзал: стихи / Смарагд Сливко // Гродзен-ская праўда, - 1981, - 24 кастрычніка.

84. Конь: стихи / Смарагд Сливко// Уперад. -1981. - 20 верасня.

85. Крановщица: стихи / Смарагд Сливко // Гродзенская праўда, - 1981, - 3 верасня.

86. Неба: навела / Смарагд Сліўко // Уперад, -1981, - 22 жніўня.

87. Ночь: стихи / Смарагд Сливко // Уперад. -1981. - 8 жніўня.

88. Вокзал: стихи / Смарагд Сливко // Сельская новь (Гродно). - 1981. -9 нюля.

89. Пёс: стихи / Смарагд Слнвко // Уперад, - 1981, - 24 студзеня.

90. Кукольная студия: стихи / Смарагд Сливко // Уперад. -1980, - 27 снежня.

91. Снег: стихи / Смарагд Сливко // Уперад. - 1980, - 12 снежня.

92. Зачем? : стихи / Смарагд Сливко // Уперад.- 1980,- 3 кастрычніка.

93. Вокзал: стихи / Смарагд Сливко // Уперад. -1980, - 1980. -21 чэрвеня.

94. Память несу я: стихи / Смарагд Слнвко // Сельская новь (Гродно). - 1980. - 9 мая.

95. Две судьбы: стихи / Смарагд Сливко // Сельская новь (Гродно). - 1979. - 7 ноября.

96. Я такой, как и все: стихи / Смарагд Сливко // Уперад, - 1979. - 26 кастрычніка.

97. Крановщица: стихи / Смарагд Сливко // Сельская новь (Гродно). - 1979. - 6 октября.

98. Красною калиной: стихи / Смарагд Сливко // Сельская новь (Гродно). - 1978. -28 октября.

99. Осень. Крановщица: стихи / Смарагд Сливко // Уперад.-1978,- 8 верасня

**Пра яго:**

1. Винник, Л. Сливко Смарагд Федорович / Леонид Винник // Время и судьбы / Леонид Винник, Михась Мельник. - Лида, 2004, - С.52.

2. Жалкоўскі, А. Пажыццёвая вернасць Ірыны з Залеек: [Ірына і Смарагд Сліўко] Аляксандр Жалкоўскі.// Іўеўскі край, - 2010, - 11 жніўня.

3. Мацулевіч, А. Жывуць сярод нас яго кнігі: [прэзентацыя зборніка "Радужное сияние" Смарагда Сліўко ў ЦРБ] / Аляксандр Мацулевіч // Лідская газета.- 2010.- 27 мая.

4. Жалкоўскі, А. Ён з чытачамі не растаўся: [вечарына-прэзентацыя кнігі Смарагда Сліўко "Радужное сияние", якая адбылася ў ЦРБ] / Аляксандр Жалкоўскі // Принеманские вести, - 2010. - 27 мая (№21).

5. Хітрун, А. Паэт: [верш, прысвечаны Смарагду Сліўко] / Алесь Хітрун // Лідская газета,- 2009.- 22 снежня.

6. Алейнік, Т. Аповед пра цудоўнага чалавека: [паэт Смарагд Сліўко] / Т. Алейнік // Принеманские вести. - 2009, - №50.

7. Паэты сыходзяць, радкі застаюцца...: [аб мерапрыемстве, прысвеч. памяці Смарагда Сліўко] //Лідская газета. - 2008. - 13 снежня.

8. Пераможцы творчага конкурсу: [на конкурсе вершаў, прысвечаных гораду Ліда, журы адзначыла верш Смарагда Сліўко "Дзве Ліды" пасмяротна] // Лідская газета, - 2008. - 30 верасня. - С.1.

9. Жалкоўскі, А. Астравецкага гарту: [лідскі паэт Смарагд Сліўко] / Аляксандр Жалкоўскі // Астравецкая праўда. - 2008, - 5 красавіка.

10. Макарэвіч, П. Вечарына памяці Смарагда Сліўко / Пятро Макарэвіч // Принеманские вести, - 2008. - №51. - С.4.

11. Макарэвіч, П. "Я з вамі, я побач, я тут...": [пра вечар памяці Смарагда Сліўко] / Пятро Макарэвіч.- 2007. - 16 августа. - С.11.

12. Аляксандраў, М. Паэты застаюцца ў сваіх вершах: [паэт Смарагд Сліўко] / М. Аляксандраў // Лідская газета. - 2007. - 14 жніўня.

13. Стадуб, А. Маем спадчыну паэта: [Смарагда Сліўко] / Алесь Стадуб // Лідская газета. - 2007. - 4 жніўня, - С.5.

14. Макарэвіч, П. Прадоўжыся, імгненне..: [пра выданне кнігі Смарагда Сліўко "Прадоўжыся, імгненне..."] / / Пятро Макарэвіч // Принемаские вестн.- 2007.- 2 августа.- С.4.

15. Макарэвіч, П. Ад сэрца да сэрца: [пра аднайм. кнігу лід. паэта С. Сліўко] / Пятро Макарэвіч; фота // Принеманские вести. - 2006. - 14 декабря. - С.9.

16. Горбачева, Н. Памяти поэта: [Смарагда Сливко] / Н. Горбачева // Гродзенская праўда. -2006, -14 верасня. -С.5.

17. Макарэвіч, П. Паэт Смарагд Сліўко: да 75-годдзя з дня нараджэння / Пётр Макарэвіч // Лідскі Летапісец.- 2006. - №4, - С.51-52.

18. Іванчык, Т. Сустрэча з паэтамі: [Смарагд Сліўко у педкаледжы] / Т. Іванчык // Лідская газета. - 2004, - 22 красавіка, - С.2.

19. Микулко, Е. Незабываемая встреча: [студентов Лид. пед. колледжа с поэтом Смарагдом Сливко] / Елена Микулко // Принеманские вести,- 2004, - 29 апреля, - С.9.

20. Макарэвіч, П. (Лідскі) паэт Смарагд Сліўко / Пятро Макарэвіч // Тэлескоп, - 2001. - 20 снежня.- С.4.

21. "Своей заботой друг о друге мы скрепим связь родных сердец": [творчество С.Ф. Сливко] //Лідская газета. - 2001, - 15 снежня. - С.3.

22. Мельник, М. Жизнеутверждение: [о кн. С. Сливко "Прощай, двадцатый век"] / Михась Мельник // Принеманские вести. - 2001. - 29 ноября. - С.2.

23. Васько, У. Шчырасць паэтычных радкоў: [творч. С. Сліўко] / Уладзімір Васько // Лідская газета. - 2001, - 3 лістапада.

24. Белавус, Т. У Бердаўцы паэтаў любяць / Тадэвуш Белавус // Лідская газета. - 2000, - 29 чэрвеня.

***Матэрыял падрыхтаваны калектывам Лідскай ЦРБ імя Янкі Купалы.***

# Кудлу Віктару Іванавічу - 70

Кудла Віктар Іванавіч нарадзіўся 17 кастрычніка 1941 г. у в. Дроздава Лідскага раёна ў сялянскай сям'і. Скончыў Ганчарскую сярэднюю школу (1958) і Гарадзенскі сельскагаспадарчы тэхнікум (1962). Да прызыву некалькі месяцаў працаваў заатэхнікам калгаса "Нёман" (в. Дзітрыкі).

У лістападзе 1962 г. быў прызвааны ва Ўзброеныя Сілы. Чатыры гады тэрміновай службы з 1962-1966 гг. праходзіў на крэйсеры "Камсамолец" Двойчы Чырванасцяжнага Балтыйскага флота, прыпісаным да Талінскай ваенна-марской базы. Асвоіў ваенна-марскія спецыяльсці вежавага артэлектрыка і старшыны рэйдавага камандзірскага кацера. З'яўляўся выдатнікам баявой і палітычнай падрыхтоўкі і спецыялістам першага класа. У 1965 г. абраны сакратаром камітэту камсамолу крэйсера. Удзельнічаў у візіце савецкіх караблёў у Данію (травень 1964), у Швецыю (травень 1965), у далёкім паходзе ў Паўночнае мора, у вучэннях краін Варшаўскай дамовы (травень 1965). З'яўляўся арганізатарам і актыўным удзельнікам Усесаюзнага турыстычнага паходу па месцах баёў абаронцаў Маандзунскага архіпелагу. Вахтавы журнал паходу і фотаматэрыялы перададзены ў музей Балтыйскага флоту. Скончыў службу старшыной І ступені.





За поспехі ў баявой і палітычнай падрыхтоўцы і актыўную грамадскую працу быў узнагароджаны Ганаровай граматай ЦК ВЛКСМ, Граматай ЦК ЛКСМ Эстоніі, сфатаграфаваны ля разгорнутага сцяга крэйсера і тройчы заахвочваўся адпачынкам з выездам на радзіму. За доблеснае выкананне заданняў камандавання ў траўні 1965 г. узнагароджаны юбілейным медалём "20 гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-45 гг.". Атрымаў медаль з рук Старшыні Савета Міністраў СССР А.І. Касыгіна.

Пасля дэмабілізацыі працаваў заатэхнікам калгаса імя Чкалава, в. Жучкі (1966), намеснікам старшыні калгаса імя Вярхоўнага Савета СССР в. Мыто (1967-70). Пасля заканчэння Гарадзенскага сельгасінстытута і курсаў па падрыхтоўцы кіраўнічых кадраў у1970 годзе быў накіраваны галоўным заатэхнікам саўгаса "Дворышча" , а ў 1973 годзе прызначаны дырэктарам саўгаса "Савецкі", в. Крыніцы. За 5 гадоў узначалены ім працоўны калектыў дамогся значнага павелічэння вытворчасці і продажу сельгаспрадукцыі. Пабудаваны дзіцячы сад на 90 месцаў, пасялковая кацельня, жывёлагадоўчы комплекс на 400 галоў в. Крыніцы, бульбасховішча на 2 тысячы тон і бульбасартавальны пункт.

За высокія вынікі Кудла В.І. быў узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны" і значком "Пераможца сацыялістычнага спаборніцтва 1975 года", “Ударнік ХІ пяцігодкі”.

У 1979 годзе па прапанове Лідскага РК КПБ Савет Міністраў БССР прыняў Пастанову пра ўзбуйненне эксперыментальнай базы "Савецкая" за кошт далучэння саўгаса "Дворышча". Аб'яднаная гаспадарка атрымала назву “Эксперыментальная база "Ніва", а дырэктарам зацверджаны Кудла В.І.

Шмат сіл і стараннаяў прыйшлося прыкласці маладому кіраўніку, дарэчы, самай буйной на той час гаспадаркі ў раёне, каб згуртаваць аб'яднаны працоўны калектыў, умацаваць працоўную дысцыпліну, накіраваць спецыялістаў на рашэнне перспектыўных задач.

За гэтыя гады шмат было зроблена па стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы, навядзенні парадку на зямлі, пракладцы ўнутрыпалявых дарог, будаўніцтве і рэканструкцыі жывёлагадоўчых фермаў з поўнай механізацыяй працаёмкіх працэсаў (МТФ Мігуны, МТФ Гурыны, МТФ Гімбуты.) Пасля мадэрнізацыі свінагадоўчая ферма "Мергінцы" была прызнана лепшым у вобласці міні-комплексам замкнёнага цыклу.

За гэтыя гады былі пабудаваны: аграхімцэнтр, збожжасховішча вежавага тыпу са збожжасушылкамі, сенасховішча і бульбасховішча з кармацэхам, склады для будматэрыялаў, новыя гаражы і падстрэшкі для сельгастэхнікі.

Эксперыментальнай базе "Ніва" было прысвоена званне "Гаспадарка высокай культуры земляробства" і "Гаспадарка высокай культуры жывёлагадоўлі". Эксперыментальная база "Ніва" выйшла на перадавыя пазіцыі па продажу бульбы (4,5-5 тыс. тон штогод), па вытворчасці кармоў і малака.





Было шмат зроблена па сацыяльна-культурным развіцці гаспадаркі: пабудаваны адміністрацыйны будынак, сярэдняя школа ў в. Дворышча, ФАП , быткамбінат, катэджы па вуліцах Цэнтральнай і Зорнай. Для жыхароў вёсак функцыянавалі дзве лазні (в. Дворышча і в. Крыніцы), пяць душавых - на фермах Гурыны, Сліжы, Мігуны, Мергінцы, Гімбуты, а ў раммайстэрні "Дворышча" - саўна з мінібасейнам.

Па ініцыятыве Кудлы В.І. напачатку 80-х гадоў для аднаўлення былых будынкаў панскага фальварка ў в. Дворышча быў распрацаваны праект сядзібна-этнаграфічнага комплексу. У рэстаўраванай чатырохпавярховай вежы быў створаны гістарычна-этнаграфічны музей "Зямля і людзі". Экспазіцыі музея асвятлялі гістарычнае мінулае і наш час Дварышчанскага краю. Вадзяны млын быў рэканструявана пад гасцініцу і рэстаран. Былі ўмацаваны падмуркі, сцены, нанава зроблены дах, пакрыты чырвонай чарапіцай. Выкладзены падлогі, столі абшыты вагонкай, устаўлены вокны і дубовыя дзверы. На трох паверхах уладкованы тры каміны, грузавы ліфт, электраправодка, трубы і вадзяныя радыятары, усталяваны перагародкі пакояў, санвузел. У мансарднай частцы млыны была абсталявана малая банкетная зала, а пад ёй лазня з міні-басейнам.

У 1985 былі закуплены першыя спартовыя коні і арганізавана конна-спартовая школа. На забалочаных і запушчаных нізінах выкапаны сажалкі. Старадаўні парк вычышчаны ад смецця, пасаджаны новы парк уздоўж рэчкі Жыжмы, па цэнтральнай вуліцы пракладзена ліўневая каналізацыя, кабель вулічнага асвятлення, ходнікі. За планамерную і ўмелую забудову в. Дворышча, гаспадарка была ўзнагароджана дыпломам ВДНГ, а дырэктар Кудла В.І. - бронзавым медалём.

Нажаль, большасць з гэтага ўжо ў мінулым...

У 1987 г. В.І. Кудла абраны старшынём Лідскага раённага камітэта прафсаюзу працаўнікоў аграпрамысловага комплексу. У перыяд эканамічнай разрухі і палітычнай нестабільнасці Віктар Іванавіч, маючы актыўную грамадзянскую пазіцыю, прынцыпова стаў на абарону сацыяльна-працоўных правоў працаўнікоў АПК праз заключэнне калектыўных дамоў. Прафсаюзны актыў удзельнічаў у справядлівым размеркаванні тавараў павышанага попыту, пуцёвак санаторна-курортнага лячэння. У аздараўленчым лагеры "Бярозка" была праведзена значная рэканструкцыя памяшканняў, закуплена абсталяванне, мэбля і інвентар, што дазволіла значна павялічыць колькасць адпачываючых дзяцей і якасць аздараўлення.

Кудла В.І. карыстаўся вялікай павагай і аўтарытэтам у раёне і ў 1994 г. быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па Лідскай сельскай выбарчай акрузе № 135. Большасць жыхароў акругі прагаласавалі за яго, па Лідскім радыё ён быў абвешчаны пераможцам, але прыехаў гарадзенскі чын і адмяніў вынікі.

Віктар Іванавіч, верны сялянскаму пакліканню, пасля выхаду на пенсію сумесна з сынамі Вадзімам і Артурам арганізаваў фермерскую гаспадарку "Расінка 2002" і па сучасных тэхналогіях вырабляе прадукцыю. Узначальваючы асацыяцыю фермерскіх гаспадарак Лідчыны, адстойвае роўныя ўмовы гаспадарання для сельгасвытворцаў.



Абраны старшынёй ветэранскай арганізацыі Дварышчанскага сельсавета.

Актыўна займаецца краязнаўствам, дбайна абараняе гістарычна-архітэктурную спадчыну. На аснове сабраных ім матэрыялаў у "Лідскім летапісцы" быў апублікаваны артыкул пра в. Дворышча за перыяд з XVI ст. па 1941 г. У наш час рыхтуецца працяг летапісу вёскі. Па ініцыятыве і пры актыўным удзеле Кудлы В.І. было арганізаваны свята роднай вёскі Дроздава. Аднавяскоўцы і госці з цікавасцю выслухалі экскурс у мінулае вёскі, змаглі ўбачыць цікавыя архіўныя матэрыялы, выставу карцін і разьбу па дрэву Кудлы В.І.

По жыцці ўсе гады з ім побач жонка Яніна Станіславаўна, настаўніца. Двое дзяцей - старэйшы Вадзім - настаўнік Дворышчанскай школы, малодшы Артур - фермер з вышэйшай адукацыяй, скончыў сельгасінстытут.

І сёння Віктар Іванавіч поўны ідэй і задум. Ён ніколі не спыняецца на дасягнутым.

***В. Сліўкін.***

# Алесю Судару - 60

Мастак Алесь Іванавіч Судар нарадзіўся 11 лістапада 1951 года ў в. Меніца на Полаччыне.

Усё пачалося ў дзяцінстве, калі аднойчы бацька намаляваў на лісціку паперы домік. Гэта быў вельмі прыгожы і падобны на сапраўдны домік, які стаяў праз вуліцу. З тога часу, для малога, бадай, не стала іншага найлюбімейшага занятку, як маляванне. Хлопчык перажываў, што не так атрымліваецца ў яго, як у бацькі, плакаў, але зноў і зноў браўся за аловак, і маляваў.



А ў чацвёртым класе роўных Сашу Судару на ўроках малявання не было. Гэта бачылі і вучні, і настаўнікі. Саша часта заставаўся ў школе пасля ўрокаў, перамалёўваў партрэты А.С. Пушкіна, М.Ю. Лермантава, дзекабрыстаў. А калі займаўся ў сярэдняй школе, да іх прыехаў працаваць настаўнік з Віцебскага педінстытута Віктар Зіноўевіч Родчанка. Ён параіў А. Судару паступіць у Віцебскі педінстытут. Там Алесь і шліфаваў свой талент. Ён навучаўся майстэрству ў такіх вядомых мастакоў Беларусі, як Іван Сталяроў, Фелікс Гуман і іншых. Ад гэтых настаўнікаў ён, уласна кажучы, і ўзяў усю любоў да акварэльнага жывапісу. У інстытуце прымаў удзел у мастацкіх выставах, маляваў карціны, якія выклікалі захапленне нават у мастакоўпрафесіяналаў.

Пасля заканчэння ў 1974 г. мастацкаграфічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута яго накіравалі ў Ліду. Тут ён на працягу трох гадоў працуе настаўнікам малявання і чарчэння у сярэдняй школе №8, вядзе гурток у Доме піянераў. Некаторыя з яго выхаванцаў пазней паступілі ў Менскі тэатральна-мастацкі інстытут.

З 1978 года Алесь Іванавіч працуе ў мастацкіх майстэрнях. Ён бывае ў розных кутках Лідчыны: у Бердаўцы, Белагрудзе, Бярозаўцы, над Нёманам, над Дзітвою. І адпаведна, карціны А. Судара адлюстроўваюць родныя краявіды, пейзажы, блізкія сэрцу мастака куткі Лідчыны.



***"Дажджлівы вечар"***



З 2008 года Алесь Іванавіч зноў працуе ў школе - на гэты раз выкладчыкам малюнку і жывапісу СШ №14.

А.І. Судар быў членам Саюза мастакоў СССР, з 1990 года з'яўляецца членам Беларускага Саюза мастакоў.

Яго карціны вядомы далёка за межамі краіны. Акварэльнымі пейзажамі Судара захапляюцца ў Германіі, Галандыі, Англіі, Іспаніі, ЗША, Канадзе, Мексіцы, Аўстраліі і іншых кутках свету. Персанальныя выставы Алеся

Іванавіча былі арганізаваны ў Гародні, Вроцлаве (Польшча) і Шальчынінкаі (Літва).

*"Аляксандр Судар у творчасці не здраджвае галоўнаму прынцыпу - піша і малюе тое, у што верыць. Найперш - гэта зямля Беларусі. Шчымлівыя, настраёвыя краявіды... Яго мяккія, празрыстыя, стрыманыя па колеры акварэлі вабяць нас лірычным настроем і прафесійным выкананнем"* /А. Марачкін./

*"Ад твораў А. Судара вее не павярхоўнай сузіральнасцю, а нейкім асаблівым лірычным, глыбокім душэўным настроем...*

*Пейзажы Аляксандра Іванавіча не назойлівыя, натуральныя, яны як быццам самі з жывой прыроды перамясціліся на палатно. І ў той жа час яны адухоўленыя аўтарам. У іх адчуваецца прысутнасць яго інтэлекту, яго характару, асобы, без чаго ўвогуле не можа быць мастацкага твора."* /У. Васько./

*"Мастак павінен адчуваць сябе як мастак: цаніць музыку, чытаць сур'ёзную літаратуру, глядзець каштоўныя фільмы. Толькі тады ён зможа выбраць кірунак у мастацтве, стварыць свой непаўторны стыль."* /А. Судар/





***"Касцёл"***

**Літаратура:**

1. Судар Аляксандр Іванавіч // Беларускі Саюз мастакоў: энцыкл. даведн.- Мн., 1998. - С. 513.

2. Akwarele Aleksander Sudar / Lida-Bialorus: (Zaproszenie na ekspozycje w Wojnowickiej Galerii “Prezentacje”). - Б.м.: Б.в., 1995.

3. Выстаўка твораў: Судар А.І. Каталог / Саюз мастакоў БССР. Малое прадпрыемства "Украса".- Гродна: Б.в.:, Б.г.

4. Аляксандр Судар // Мастакі Гродзеншчыны / Гродзен. абл. арг. Саюза мастакоў Беларусі.- 1л.

5. Віннік, Л. У Лідскай мастацкай галерэі: Алесь Судар /Леанід Віннік // Віннік, Л. Зоркі лідскіх небасхілаў. - Туапсе, 2001. - С. 35-39.

6. Шмялёва, В. Свет праз фарбы акварэлі / Вікторыя Шмялёва // Лідская газета. - 2009. - 4 чэрвеня. - С. 3.

7. Голуб, Ю. Пяшчотны знак акварэлі: [з мастаком Аляксандрам Сударам гутарыць Юрка Голуб] / Ю. Голуб // Гродзенская праўда. - 2000. - 1 лют.

8. Еремеева, М.. Лидский художник Алесь Сударь: некоторые размышления в стиле акварели / Марина Еремеева // Оникс. - 1998. - № 16. - С. 15-16.

9. Васько, У. Мастак Аляксандр Судар / Уладзімір Васько // Гродзенская праўда. - 1993. - 21 снеж.

10. Марачкін, А. Выстаўкі: [Аляксандр Судар] / Аляксей Марачкін // Мастацтва Беларусі. - 1991. - № 11. - С.29.

11. Васько, У. Божая іскра Алеся Судара / Уладзімір Васько // Уперад. - 1991. - 19 лістап.

12. Васько, У. Мастак Аляксандр Судар / Уладзімір Васько // Любоў- любовь. - 1991. - №2.

13. Міскевіч, Т. Мастак: [А.І. Судар] Т. Міскевіч // Уперад. - 1982. - 28 жн.

14. Дмитриева, О. Дорогу осилит идущий: [о выст. лид. худож. в Гродно, в т.ч. об А. Сударе] / О. Дмитриева // Гродненская правда. - 1982.

***Матэрыял падрыхтаваны калектывам Лідскай ЦРБ імя Янкі Купалы.***

***Леанід Лаўрэш***

# Паўстанне 1830 - 1831 гг.

## *Да 180-х угодкаў*

Паводле рашэння Венскага кангрэсу, частка Варшаўскага княства, якое стварыў Напалеон, ўвайшла ў склад Расійскай імперыі і атрымала назву Царства Польскае. Гэтая дзяржава ўяўляла сабой канстытуцыйную манархію і кіравалася двухгадовым соймам ды царом, якога ў Варшаве прадстаўляў намеснік. Пасаду намесніка заняў паплечнік Касцюшкі генерал Заёнчак, а галоўнакамандуючым польскім войскам напачатку стаў брат цара вялікі князь Канстанцін Паўлавіч. Пасля смерці Заёнчка ў 1826 г. Канстанцін Паўлавіч стаў таксама і намеснікам. Царству Польскаму была нададзена канстытуцыя, якая, аднак, неаднаразова парушалася расійскімі ўладамі. Так, другі сойм ў 1820 г. адхіліў законапраект, які скасоўваў уведзены яшчэ Напалеонам ў Польшчы суд прысяжных. На гэта Аляксандар заявіў, што ён, як аўтар канстытуцыі, мае права быць яе адзіным тлумачальнікам. У 1819 г. была ўведзена папярэдняя цэнзура, якой да гэтага часу тут не ведалі. Скліканне трэцяга сойму доўгі час адцягвалася – абраны ў 1822 г., ён быў скліканы толькі ў пачатку 1825 г. Выбары адмяняліся, калі ў сойм праходзілі непажаданыя людзі, напрыклад, пасля таго, як у Калішскім ваяводстве быў абраны Вінцэнт Немаеўскі, выбары былі касіраваны і прызначаныя новыя, калі ж Каліш зноў выбраў Немаеўскага, ён быў наогул пазбаўлены права абірацца, а калі ён усё ж прыехаў у сойм, каб заняць сваё месца, дык быў арыштаваны на варшаўскай заставе. Царскім указам скасавана публічнасць пасяджэнняў сойму, і ў такой сітуацыі трэці сойм прыняў ўсе законы, прадстаўленыя ў яго царом. Неабходна дадаць, што іншыя тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, гэта значыць Літва, Беларусь і Украіна (так званыя «восем ваяводстваў»), не мелі ніякіх канстытуцыйных правоў і гарантый.

У 1819 г. маёр Валяр’ян Лукасінскі, князь Ябланоўскі, палкоўнікі Кржыжаноўскі і Прондзінскі заснавалі Нацыянальнае масонскае таварыства, сябрамі якога стала каля 200 чалавек, у асноўным афіцэры. Пасля забароны масонскіх ложаў ў 1820 г. яно было пераўтворана ў глыбока законспіраванае Патрыятычнае таварыства. Адначасова існавалі таемныя таварыствы і за межамі “кангрэсовай” Польшчы: патрыётаў, сяброў, філаматаў (у Вільні), тампліераў (на Валыні) і інш. Рух быў неаднастайным па сваіх сацыяльных мэтах і падзяляўся на дзве варожыя партыі: арыстакратычную (белыя) з князем Чартарыйскім на чале і дэмакратычную (чырвоныя), кіраўніком якой лічыўся прафесар Лелявель – лідар і кумір універсітэцкай моладзі. Вайсковае крыло ўзначаліў падпаручнік гвардзейскіх грэнадзёраў Высоцкі, інструктар школы падхарунжых, які стварыў законспіраваную вайсковую арганізацыю ўнутры самога нацыянальнага руху. Гэтыя дзве партыі раздзялялі толькі планы на будучыню Польшчы, але ўсе яны мелі адзіныя ўяўленні пра паўстанне і пра будучыя межы (1772 г.).

Надзеі палякаў ажывіліся пасля аб’яўлення Расіяй вайны Турцыі ў 1828 г. Ліпеньская рэвалюцыя 1830 г. ў Францыі адрадзіла надзеі ў польскіх патрыётаў. 12 жніўня адбыўся сход, на якім абмяркоўвалася пытанне аб неадкладным паўстанні, аднак было вырашана чакаць, бо трэба было схіліць на свой бок высокапастаўленых вайскоўцаў. Удалося дамовіцца з генераламі Хлапіцкім, Станіславам Патоцкім, Крукавецкім і інш. Рух ахапіў амаль усіх афіцэраў, шляхту, жанчын, рамесныя цэхі, студэнцтва. Быў прыняты план Высоцкага, па якім сігналам для паўстання павінна было паслужыць забойства Канстанціна Паўлавіча і захоп казармаў рускіх



***Мікалай I інфармуе двор аб паўстанні 1830 г.***

войскаў. Выступленне прызначылі на 26 кастрычніка. У першых днях кастрычніка на вуліцах былі расклееныя пракламацыі, з’явілася нават аб’ява, што Бельвядэрскі палац у Варшаве (месцазнаходжанне вялікага князя Канстанціна Паўлавіча) з новага года будзе вольным і здаецца ў наём. Вялікі князь перастаў выходзіць з Бельвядэра.

Апошняй кропляй з’явіўся маніфест цара Мікалая з нагоды бельгійскай рэвалюцыі, з якога палякі дазналіся, што іх войска прызначана стаць авангардам у паходзе супраць паўстаўшых бельгійцаў. Пасля гэтага паўстанне было канчаткова прызначана на 29 лістапада.

З надыходам вечара 29 лістапада ўзброеныя студэнты сабраліся ў Лазянкоўскім лесе, а ў казармах войскі ўзяліся за зброю. У 6 гадзін вечара Пётр Высоцкі увайшоў у казарму падхарунжых і сказаў: «Браты, гадзіна свабоды надышла!», яму адказвалі крыкамі: «Жыве Польшча!».

Напад на Бельвядэрскі палац быў даручаны Людвіку Набяляку з курсантамі школы падхарунжых. Высоцкаму і Урбінскаму было даручана арыштаваць рускіх генералаў і афіцэраў, ксяндзу Бранікоўскаму – звярнуцца да народа ў горадзе.

29 лістапада каля 8 гадзін вечара Набяляк разам з 5-ю падхарунжымі і 8-ю выкладчыкамі адправіўся ў Бельвядэр. Не сустракаючы супрацьдзеяння, змоўшчыкі пранiклі ў палац і кінуліся ва ўнутраныя пакоі шукаць вялікага князя Канстанціна Паўлавіча. Вялікі князь у гэты час знаходзіўся ў сваім кабінеце разам з віца – прэзідэнтам Варшавы Любавіцкім і генералам Жандрам. Калі раздаўся шум у суседнім пакоі, Любавіцкі і генерал Жандр выбеглі з кабінета, каб даведацца, з якой нагоды шум, і былі забітыя паўстанцамі, але Любамірскі паспеў крыкнуць: «Князь, ратуйцеся, дрэнная справа». Стары камердынер князя вывеў яго ў суседнія пакоі і зачыніў за сабой масіўныя дзверы на засаўку, але, зрэшты, змоўшчыкі і не думалі шукаць вялікага князя, прыняўшы за яго генерала Жандра. Між тым вялікі князь выйшаў чорным ходам і ўцёк пад ахову рускага коннагвардзейскага палка.

Паўстанцы адразу захапілі 40 000 патронаў і выдалі іх сваім войскам, а потым без бою авалодалі самай важнай цвердзю ў Польшчы – Модлінам, пра якую Напалеон казаў: «Хто валодае цвердзю Модлін, той будзе валодаць і ўсёй Польшчай». У цвердзі паўстанцы знайшлі 5 000 000 патронаў і 60 гармат. Аднак становішча паўстанцаў не было устойлівым. Большая частка польскага войска не спяшалася далучыцца да іх, і яны не мелі агульнага кіраўніка. Таму многія сучаснікі лічылі, што калі б вялікі князь Канстанцін Паўлавіч адразу скарыстаўся вернымі яму войскамі і энергічна прыступіў да задушэння паўстання, то з вялікай верагоднасцю выйграў бы. Тым больш, што сярод кіраўнікоў паўстання пачаўся разлад. Але вялікі князь Канстанцін на наступны дзень, 30 лістапада, разам з усімі рускімі войскамі пакінуў Варшаву, стаў лагерам за тры вярсты ад сталіцы, у мястэчку Вержб і пачаў чакаць далейшага развіцця падзей.

Пасля сыходу расейцаў з горада ўзмацнілася арыстакратычная партыя, якая спадзявалася ўступіць у перамовы з урадам імперыі і мірным шляхам дасягнуць жаданага выніку – стварэння незалежнай дзяржавы ў межах 1772 г. пад пратэктаратам Расіі. 4 снежня была сфармавана Адміністрацыйная рада з 7 чальцоў, уключаючы Яўхіма Лелявеля, Юльяна Нямцэвіча і генерала Хлапіцкага, які стаў галоўнакамандуючым польскіх войскаў. Узначаліў раду князь Адам Чартарыйскі. Найбольш актыўных левых лідараў, Заліўскага і Высоцкага выдалілі з Варшавы, першага – для арганізацыі паўстання ў Літве, другога – капітанам ў войска. Узяўшы ўладу ў свае рукі, Адміністрацыйная рада адправіла дэпутацыю да вялікага князя з тлумачэннем прычын, выклікаўшых хваляванні, і умоў, на якіх паўстаўшыя гатовыя іх спыніць. Аднак вялікі князь лічыў, што палякі павінны быць удзячныя расейцам за тое, што для іх зроблена, таму ў перамовы ўступаць адмовіўся і разам з войскамі пакінуў тэрыторыю Царства Польскага.

18 снежня Адміністрацыйная рада была распушчана і замест яе створаны часовы ўрад на чале з Адамам Чартарыйскім, у гэтым урадзе міністрам народнай асветы стаў Лелявель. Быў скліканы сойм, на якім не ўдалося выпрацаваць агульную палітыку дзяржавы на будучыню, і ў сувязі з гэтым генерал Хлапіцкі абвясціў сябе дыктатарам. Генералу Хлапіцкаму ў час паўстання было 60 гадоў. Ён лічыўся адным з самых выдатных людзей свайго часу – меў велічную знешнасць сапраўднага генерала, быў сумленным, адкрытым і прамым чалавекам, меў харызму лідара, яго любілі жаўнеры. З ранніх гадоў Хлапіцкі служыў у войску, пры Напалеоне ён удзельнічаў у вайне ў Іспаніі, і французскі імператар цаніў яго таленты і зрабіў генералам. Шанаваў яго і рускі ўрад, пры імператары Аляксандры I ён працягваў служыць, пры Мікалаі I выйшаў у адстаўку і жыў у Варшаве як прыватная асоба, атрымліваючы ад французскага ўраду 6 000 франкаў пенсіі.

Стаўшы дыктатарам, Хлапіцкі паспрабаваў ўступіць у перамовы з рускім імператарам і з еўрапейскімі ўрадамі. Але Мікалай I адмовіўся ад перамоваў з польскім пасольствам і сустрэўся толькі з яго кіраўніком – князем Любецкім, як з міністрам фінансаў Царства Польскага. Праз яго цар перадаў палякам, каб яны неадкладна здавалі зброю і прасілі яго літасці. З гэтым адказам 25 студзеня 1831 г. дэпутацыя вярнулася ў Варшаву.

Хлапіцкі сабраў сойм і паведаміў аб рашэнні рускага цара, пасля чаго прапанаваў сойму пайсці на кампраміс, бо разумеў што ў выпадку поўнамаштабнай вайны ў Польшчы шанцаў не будзе. Але «чырвоныя» ў сойме асвісталі дыктатара і запатрабавалі канчатковага разрыву з імперыяй. «Што будзе, тое будзе», - крычалі дэпутаты. Па парадзе графа Рамана Солтыка, сойм пастанавіў пазбавіць рускую імператарскую фамілію права на польскую карону. Таму Хлапіцкі склаў з сябе званне дыктатара і камандуючага войскамі. Камандуючым арміяй сойм прызначыў Міхала Радзівіла – чалавека добрага, сумленнага, але мяккага і падатлівага і зусім не палкаводца. Польскае кіраўніц-

тва ўпрасіла Хлапіцкага заўсёды быць пры Радзівілу і дапамагаць яму ва ўсім.

Расійскі імператар ўспрыняў рашэнне сойму як асабістую абразу. 24 студзеня стотысячная руская армія з 336 гарматамі, пад камандаваннем фельдмаршала Дыбіча – Забалканскага, уступіла на тэрыторыю Польшчы. Акрамя гэтых войскаў, да межаў Польшчы рухаліся 13 казацкіх палкоў з Дону і такім чынам усё рускае войска налічвала каля 180 000 чалавек. З супрацьлеглага боку было выстаўлена 140 000 чалавек і 146 гармат.

Паўстаўшымі быў прыняты план, паводле якога галоўныя польскія сілы (каля 70 000 чалавек) размяшчаліся на поўнач ад Варшавы, кантралюючы дзве дарогі – Ковенскую і Берасцейскую. Пры набліжэнні непрыяцеля польскае войска павінна было, не дапусціўшы ворага да Варшавы, уступіць у генеральную бітву.

1 лютага рускае войска першы раз сустрэлася з польскім, пасля гэтага невялікія сутычкі адбываліся штодня, пакуль нарэшце 19 лютага каля Ваўра (у XIX ст. ў гэтым месцы была карчма на дарозе Менск – Варшава, за 7 вёрст ад тагачаснага прыгарада Варшавы – Прагі) не адбылася першая значная бітва якая працягвалася 7 гадзін, расейцы ў гэтай бітве страцілі каля 4000 чалавек. 25 лютага рускае войска ў 76 000 чалавек пры 250 гарматах падышла да паселішча Грохаў (каля Варшавы), дзе па раней прынятым плане іх ужо чакала польская армія ў 60 000 чалавек. Адбылася знакамітая Грохаўская бітва. Яна пачалася ў 9 гадзін раніцы і працягвалася да 5 гадзін вечара. Палякі зноў біліся мужна і стойка, але ўсё ж у выніку адступілі да Варшавы. У бітве быў паранены генерал Хлапіцкі. Рускі галоўнакамандуючы тры дні прастаяў на поле бітвы, чакаючы здачы Варшавы, але на чацвёрты дзень ён даведаўся, што палякі ўмацоўваюць сваю сталіцу і здавацца не думаюць. Пасля гэтага рускае войска адступіла на поўдзень ад Варшавы і пачало чакаць прыбыцця асаднага парку, каб прыступіць да аблогі горада.

Польскі сойм зняў Радзівіла з пасады камандуючага войска і прызначыў на гэтае месца Скржынецкага. Новы галоўнакамандуючы меў 45 гадоў, быў родам з Галіцыі, адукацыю атрымаў у Львове. Ва ўзросце 23 гады ён уступіў у войска Напалеона і ўдзельнічаў у паходзе на Расію 1812 г. Пасля стварэння Царства Польскага Скржынецкі жыў у Варшаве і быў камандзірам 8-га пяхотнага палка.

Скржынецкі загадаў свайму войску выйсці з Варшавы, і пачаўся шэраг больш-менш значных бітваў, у адной з іх, пры Дэмбе–Велькай рускі 6-ты корпус барона Розена быў разбіты і страціў каля 4 000 забітых і 3 000 параненых. Рускія аўтары сцвярджаюць, што параза была б яшчэ мацнейшай, каб не ўстойлівасць 47 рускага егерскага палка, якім камандаваў палкоўнік Квіцінскі – паляк па нацыянальнасці. Але 26 траўня ў бітве пад горадам Астраленкай, польскае войска якое мела 40 000 супраць 70 000 рускіх, было разбіта і адступіла да Варшавы. Аднак пасля бітвы расейскае войска таксама было не ў лепшым стане, і таму Дыбіч не пераследаваў польскае войска, а адступіў да Пултуска

**Паўстанне ў Літве**

Практычна адначасова з паўстаннем у Польшчы адбылося паўстанне ў Літве і на Валыні. Ужо 1 снежня 1830 г. расейскія ўлады ўстанавілі ваеннае становішча ў Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губернях і ў Беластоцкай акрузе. Пачаліся арышты патэнцыйных удзельнікаў паўстання і канфіскацыя зброі, але ўсяроўна, напрыканцы 1830 г. па паветах пачалася падрыхтоўка да паўстання. У канцы студзеня 1831 г. з ініцыятывы Лелявеля ў Вільні паўстаў Цэнтральны Камітэт, які быў павінен арганізаваць і ўзначаліць паўстанне на Літве. У склад камітэта ўвайшлі Антоні Гарэцкі, Станіслаў Шумскі, Людвік Забржыцкі, Эдвард Ромер, Юстын Грабніцкі, Міхал Балінскі і Леан Рагалінскі.

Кожны павет трымаў сувязь з Камітэтам праз свайго дэлегата. У Дзісненскім павеце гэта быў Аляксандр Лапацінскі, у Браслаўскім – Віктар Грынцэвіч, у Расіенкім павеце на сувязі з Камітэтам былі Юліюш Грушэўскі і Дабраслаў Каліноўскі, ва Ўпіцкім – Казімір Трускоўскі. Пачатак паўстання Ігат Дамейка сустрэў у Лідскім павеце, знаходзячыся пад наглядам паліцыі ў маёнтку Заполле. У пачатку красавіка да Дамейкі прыбыў пасланец Віленскага камітэта для каардынацыі дзеянняў. З мемуараў Дамейкі вядома аб стасунках Камітэта з Гарадзенскай губерняй. Напрыклад па рашэнні Камітэта паўстанцы павінны былі сабрацца ў трох месцах губерні: у Лідскім павеце каля Васілішак, у Слонімскім ў Харабравецкай пушчы і



***Антоні Гарэцкі, у 1831 г. сябар Віленскага цэнтральнага паўстанцкага камітэта, дзедзіч маёнтка Біскупцы Лідскага павету.***



***Ігнат Дамейка, каардынатар паўстання 1831 года ў Лідскім павеце, пазней ад'ютант 25-га пяхотнага палка паўстанцаў.***

ў Навінскіх лясах пад Наваградкам. Шчапінскі, адзін з паўстанцаў з Белавежскай пушчы, прыязджаў у Вільню ў сакавіку, каб скаардынаваць свае дзеянні. Але ў цэлым Камітэт не змог каардынаваць дзеянні паўстанцаў і пасля выбуху паўстання ў Жмудзі страціў уплыў.

На пачатку паўстання расейскіх войскаў у Літве было адносна не многа. У Вільні знаходзілася брыгада 5-й пяхотнай дывізіі (2-га корпуса) сілай каля 3 200 чалавек, у гарадах стаялі невялікія залогі (напрыклад у Менску была пакінута залога батальён Архангельскага палка з 2-мя гарматамі). Аднак праз нашу тэрыторыю ў гэты момант рухаліся ў Польшчу войскі 3-га расейскага корпуса і ў выпадку неабходнасці яны павінны былі аказаць падтрымку мясцовым залогам. У палове сакавіка расейскі ўрад на нашай тэрыторыі прызначыў рэкруцкія наборы і планаваў узяць хлеб і фураж для войска. Гэта ініцыявала паўстанне. Напрыклад, у Жмудзі пасля абвяшчэння 9 лютага расейскага ўказу пра мабілізацыю рэкрутаў шмат мужчын схавалася ў лесе, і з іх пачалі фармавацца першыя паўстанцкія аддзелы.

26 сакавіка аддзелы паўстанцаў якія складаліся са шляхты і сялян, з трох бакоў напалі на Расіены і занялі горад. Пры гэтым была абяззброена залога (60 чалавек) і захоплены скарб. Адразу была абвешчана незалежнасць Літвы. Вызваляліся рэкруты і арыштанты, рускіх чыноўнікаў бралі ў палон, людзі пачалі насіць трохкаляровыя кукарды. Было вырашана каб кожныя два дымы выставілі па аднаму ратніку, была арганізавана вытворчасць зброі, нарыхтоўка абмундзіравання і рыштунку. Блізкасць Прусіі палегчыла набыццё пораху і свінцу.

28 сакавіка былі узяты Шаўлі, Тэльшы і Паняважа. Калі ў Коўні пра гэта даведалася расейская адміністрацыя, было вырашана ўжыць жорсткія меры. Палкоўнік Барталамей, які з лейб-гвардзейскім конна–піянерным эскадронам чакаў прыбыцця пантонаў, атрымаў загад 29 сакавіка выступіць супраць інсургентаў са сваім эскадронам і дадатковымі 4-мя ротамі з 4-мя гарматамі (усяго 1 200 чалавек). У той жа дзень камандзір паўстанцаў Ігнат Станевіч сабраў некалькі тысяч чалавек і рушыў у Эйраголу насустрач Барталамею, аднак 31 сакавіка паўстанцы былі разбітыя, частка аддзела разбеглася ў розных кірунках а частка адступіла. Барталамей заняў Расіены. Аднак ён не змог доўга ўтрымацца ў Расіенах, пакінуў горад, быў прыціснуты інсургентамі да мяжы з Прусіяй і праз некаторы час са сваім атрадам інтэрнаваны ў Прусіі.

Тэльшінскія паўстанцы ўздоўж мяжы рушылі да Палангі, па дарозе абяззбройваючы памежныя заслоны. Іх мэтай было ўзяць Палангу і арганізаваць марскія пастаўкі ад знешніх сяброў. Горад ўдалося ўзяць, але неўзабаве паўстанцы былі адтуль выбітыя. У канцы сакавіка інсургенты спрабавалі злучанымі сіламі ўзяць Коўню, але былі адкінутыя ад горада.

У Літву пачалі сцягвацца рускія войскі: 1-я ўланская дывізія (3,5 т. шабель) знаходзілася на маршы, 2-я пяхотная брыгада займала Жамойць, 3-я пяхотная брыгада брала пад кантроль Гародню, Мерач, Коўню, 5-я пяхотная дывізія знаходзілася ў раёне Вільні, 6-я пяхотная дывізія ішла да Слоніма, 7-я рухалася да Берэсця. Між тым паўстанне не сціхала, а разгаралася вакол Вільні: 4 красавіка паўсталі Ашмяны, 11 красавіка - Свянцяны, а таксама Відзы, Трокі, Гальшаны. Паўстанне пачыналася і ў Гарадзенскай ды Менскай губернях.

**Ашмянская разня**

Паўстанне ў Ашмянах перапыніла сувязь Вільні з Расіяй. На чале паўстання стаў П. Важынскі і былы палкоўнік французскай арміі Караль Пшаздзецкі. Пад іх камандаванне сабралася каля 2500 інсургентаў. Паўстанцы былі разбіты на роты і эскадроны, праходзілі паскоранае вайсковае навучанне. Між тым у Вільню ў якасці падмацавання з Каўказа прыйшоў зводна–лінейны казацкі полк, спрактыкаваны ў баях з горцамі. Вайсковы губернатар Вільні Храпавіцкі 14 красавіка адправіў да Ашмян аддзел у 300 казакоў, 5000 чалавек пяхоты і 4 гарматы пад камандаваннем палкоўніка Вярзіліна.

Даведаўшыся аб прасоўванні рускіх войскаў, інсургенты вырашылі адступіць у лясы каля Вішнева, але пакінулі ў горадзе ў якасці ар'ергарду 600 чалавек, якія павінны былі адступіць пазней. Па расейскай версіі, ар'ергард выступіў насустрач непрыяцелю і прыняў бой, быў разбіты і адкінуты ў горад, і ў горадзе інсургенты разам з гараджанамі "ожесточенно" абараняліся, таму казакі зрабілі "зачыстку горада", прычым "у запале сутычкі рэдка хто атрымаў літасць" пісаў палкоўнік Пузырэўскі А.К. у сваёй кнізе «Польско – руская вайна 1831 г.» (Пузыревский А.К. Польско–русская война 1831 г. С-Петербург. 1886.).

Вось як апісвае падзеі паўстанец І. Клюкоўскі: *"Маскалі затрымаліся перад горадам... і пачалі кананаду. Было зроблена 80 артылерыйскіх стрэлаў і пабіта шмат дамоў. Каб прадухіліць абстрэл, кавалерысты... спрабавалі атакаваць, але стрэлы карцеччу знішчылі некалькі кавалерыйскіх звязаў, асуджаных на смерць... Менавіта гэтае знішчэнне слабога заслону, які імкнуўся прадухіліць разбурэнне горада артылерыяй і было паднесена Вярзіліным як штурм горада які моцна бараніцца. Пасля таго, як невялікі аддзел Сцяльніцкага быў разбіты, неўтаймаваны зброд уварваўся ў горад, быццам яго захапілі штурмам, не прапускаючы ні слабога полу, ні састарэлых. Для іх не было нічога святога. Жанчыны і дзеці, якія схаваліся пад Боскай аховай у касцёле, палі ахвярай лютасці раз'юшаных дзікуноў. І была гэта ахвяра, апырсканая крывёю бязвінных! Не прыпыняліся забойствы на вуліцах. Былі забіты два ксяндзы, жыхары Завадскі, Ган і шмат іншых. Аднак сама смерць яшчэ не знішчала ў вачах полчышч акупантаў выступлення з узняццем зброі за вольнасць. Ім патрэбны былі яшчэ пакутніцкія забойствы. У якасці трафеяў перамогі варвараў над бяззбройным народам застанецца ўспорванне нутра ў аднаго з жыхароў, калі дапытваліся ў яго пра грошы; рассяканне доктара Закржэўскага, і забойства каля двухсот простых*

*жыхароў. Іх кроў цяжарам ляжа на галаву віноўніка ўсяго гэтага – Храпавіцкага, калі людскія паводзіны на зямлі паддаюцца вышэйшай наканаванасці, наўмысна паслаўшай зборышча катаў для таго, каб спалохаць паўстанцаў!”.*

Іншы паўстанец успамінаў: *“Маскалі даведаліся, што Пшаздзецкі адвёў усе сілы на менскі тракт, пакінуўшы толькі 200 кавалерыстаў і да батальёна стральцоў і касінераў пад камандай Сцяльніцкага (Каментатар выдання піша, што такой колькасці войскаў не было – Л. Л.). Праз гадзіны тры, велькім струменем на гэтую малую жменьку надышлі маскалі... Калі мы расстралялі ўсе патроны, то кінуліся на ўцёкі, а маскалі хутка абкружыўшы цэлыя Ашмяны, кожнага чалавека, хоць і бяззбройнага забілі. Маскалі ўехалі ў горад з вялікім крыкам. Габрэі сустракалі іх з вялікай радасцю, але яны ўсё роўна пачалі ўзломваць крамы габрэяў, за што іх лаяў палкоўнік. Потым пачалі рабаваць касцёлы. Дамініканскі ўзламалі, абрабавалі, чатырох людзей, якія схаваліся ў касцёле зарэзалі. Дзверы і замок мураванага касцёла ніяк не маглі ўзламаць, дзверы высадзілі стрэлам з гарматы, потым спалілі архіў і забілі траіх чалавек. Францішканаў таксама абрабавалі... забраўшы дарагія рэчы. Абрабавалі дамы гараджан, у дамах не засталося нават ні падлог ні аконных шыбаў. Гараджаніна, якога знаходзілі ў хаце, не разбіраючыся, забівалі.... іншых..., збілі неміласэрна бізунамі і агаліўшы палову галавы, адпускалі...”.*

Сучасны расейскі гісторык Матвееў А. У. піша: *“Яшчэ 1 снежня 1830 г. быў сфармаваны зборна-лінейны полк. Камандзірам палка быў прызначаны будучы атаман Каўказскага лінейнага казацкага войска палкоўнік П. С. Вярзілін, баявы афіцэр, які меў багаты досвед вайны з горцамі і туркамі. 13 снежня 1830 года зборна-лінейны полк... выступіў з Стаўрапаля ў горад Гародню. Лінейцы былі ўключаныя ў мерапрыемствы, накіраваныя супраць паўстанцаў у Літве... Неабходны былі рашучыя меры. Асабліва буйныя сілы ракашан былі сканцэнтраваны ў раёне г. Ашмяны, дзе гаспадарыў аддзел графа Пшаздзец-кага, які налічваў 2,5 тыс. чалавек. 1 красавіка (14 па новым стылі – Л. Л.) Храпавіцкі паслаў у Ашмяны аддзел з 300 лінейцаў, 500 чалавек пяхоты пры 4-х гарматах пад агульным камандаваннем палкоўніка Вярзіліна ... бой быў непрацяглым, за некалькі гадзін справа скончана, адноўлены спакой, які абышоўся інсургентамі коштам 350 чалавек .... з тых часоў ... слова «чаркес» рабіла жахлівае дзеянне... Гэтая атака лінейцаў, як пісаў польскі мемуарыст, перайшла ў пагром: казакі не шкадавалі нікога на сваім шляху, рабавалі габрэйскія крамы, касцёлы, дамы. Многіх жыхароў Ашмян прывязалі да гармат і прывялі ў Вільню, іншым галілі галавы. На справу ў Ашмянах цар Мікалай І адрэагаваў наступным чынам: «Справы літоўскія выпраўляюцца, урок Ашмянаў быў дзейсны”* (Матвеев О.В. Под Варшавой и Вайценом. http://slavakubani.ru).

Адам Міцкевіч у кнізе польскага народа і польскага пілігрымства, у “Літаніі пілігрымскай” пісаў: *“Праз пакутніцтва жыхароў Ашмян, забітых у касцёлах і дамах Пана, Вызвалі нас, Пане”.*



***Войцах Косак. Улан супраць казака - эпізод Лістападаўскага паўстання.***

**Далейшае развіццё паўстання на Літве**

Асноўнае харчовае забеспячэнне рускай дзейнай арміі ішло з Літвы і таму паўстанне ў Літве моцна ўплывала на поспех баявых дзеянняў у Польшчы. З ліку 11 паветаў Віленскай губерні 9 кантралявалася інсургентамі, а праз нейкі час пад іх кантроль перайшлі і астатнія Свянцянскі і Брацлаўскі паветы. Пад поўным кантролем рускіх заставалася толькі 3 гарады – Вільня, Коўня і Відзы (тут аддзел палкоўніка Кахоўскага перашкаджаў пераходу горада інсургентам), але менавіта ў гэтых гарадах знаходзіліся галоўныя дзеячы паўстання.

У Менскай губерні паўстанне пачалося пазней чым у Віленскай – на пачатку красавіка з Дзісненскага і Вілейскага паветаў. Аднак пры набліжэнні 2-га Тэпцярскага казацкага палка, вілейскія інсургенты пад камандаваннем былога палкоўніка французскай арміі Радзішэўскага адышлі да Мядзеля, дзе занялі зручную пазіцыю ў лясістай і балоцістай мясцовасці. Аддзел папоўніўся і дасягнуў колькасці ў

3000 чалавек пяхоты і 300 вершнікаў. Радзішэўскі меў нават артылерыю – адна шляхетная дама падарыла яму дзве 4-х фунтовых гарматы, якія былі закапаныя ў зямлі і чакалі сваёй пары з часоў апошняга падзелу Рэчы Паспалітай.

З трох гарадоў, якія кантраляваліся расейцамі найбольшае значэнне мела Вільня. Вызваленне Вільні, акрамя сімвалічнага, мела і вялікае практычнае значэнне: у горадзе былі сканцэнтраваны вялікія запасы зброі, амуніцыі, прадуктаў харчавання. Аднак штурм горада быў вельмі складанай справай бо залога Вільні складалася з 3 000 салдат рэгулярнай арміі і тым не менш інсургенты вырашылі штурмаваць горад. Аб'яднаныя сілы ўзначаліў камандзір упіцкіх паўстанцаў Караль Залускі - чалавек, які карыстаўся усеагульнай павагай і даверам, але не меў ваеннага досведу і неабходных ведаў. Быў выпрацаваны план, згодна з якім Залускі зрабіў наступныя распараджэнні: Віленскі павет павінен засяродзіць свае ўзброеныя сілы на вількамірскай дарозе, каля Мейшаголы, у адным пераходзе ад Вільні, Свянцянскі і Брацлаўскі паветы – на такой жа адлегласці ад горада, каля Няменчына, па дынабургскай дарозе, Ашмянскі павет – па менскай дарозе, нарэшце ўзброеныя сілы Трокскага, Вількамірскага і Панявежскага паветаў павінны былі засяродзіцца каля Еўя на ковенскай дарозе. Такім чынам спадзяваліся сабраць 16-20 тысяч чалавек на адлегласці 20–30 вёрст вакол Вільні а потым дзейнічаць па абставінах. Каб засцерагчы сябе звонку, ковенскім інсургентам пад камандай Прозара было даручана назіраць за расейцамі з боку Коўні і ахоўваць рачныя пераправы, вількамірцы павінны былі ўтрымліваць расейцаў з боку Дынабурга, а паўстанцы Жамойціі – з боку Курляндыі. Кожны аддзел зрабіў запас харчавання на 14 дзён і арганізоўваў забеспячэнне ўсім неабходным.

16 красавіка Залускі з аддзеламі з Трок і Панявежы, якімі камандавалі Агінскі, Матусевіч і Білевіч, пераправіўся цераз Вілію каля Чабішак і да вечара заняў пазіцыю недалёка ад Еўя. Тут сабралася да 3000 чалавек, з іх 150 вершнікаў, аднак толькі 1 000 была ўзброена стрэльбамі а 2 000 былі касінерамі. Расейскі камандуючы Храпавіцкі, атрымаў звесткі пра тое, што вялікая колькасць інсургентаў збіраецца на левым беразе Віліі і 18 красавіка выслаў туды толькі што вярнуўшагася з Ашмянаў палкоўніка Вярзіліна з 300 казакамі, дзвюмя ротамі Белазерскага палка і дзвюмя гарматамі. Інсургенты, даведаўшыся пра набліжэнне расейцаў, вырашылі атакаваць першымі. Залускі рушыў наперад з конніцай, а Білевіч ішоў за ім з пяхотай. Казакі заўважылі кавалерыю інсургентаў і імітавалі адступленне, прывёўшы такім чынам паўстанцаў да сваёй пяхоты і артылерыі. Сустрэтыя кулямі і карцеччу інсургенты адступілі. Білевіч паспешна заняў абарону каля паселішча Аўсянішкі і адкрыў моцны ружэйны агонь па расейцах. Вярзілін, пазбягаючы страт, загадаў запаліць паселішча, пасля чаго пяхота Білевіча адступіла з селішча ў лес. Казакі праследавалі інсургентаў да лесу, пасля чаго вярнуліся ў Вільню. Пасля падыходу некалькіх свежых аддзелаў, інсургенты вырашылі ўмацавацца каля Аўсянішак, але ў гэты час ім стала вядома аб падзенні Ашмян і разгроме расейцамі паўстанцаў Прозара каля Коўні. Гэта інфармацыя прымусіла інсургентаў 24 красавіка адысці за Вілію.

У красавіку да Вільні падышлі рускія падмацаванні: 1-шы егерскі полк, 1-я і 2-я брыгады 1-шай уланскай дывізіі, Ладажскі полк. Для дзеянняў супраць інсургентаў з Пецярбурга даслалі план, сэнс якога быў у тым, каб выкарыстоўваць Вільню ў якасці базы, і дзейнічаць *«як для ачышчэння найважнейшых шляхоў, так і для праследу інсургентаў невялікімі рухомымі калонамі»*. Частка войскаў пад камандаваннем генерала Атрошчанкі павінна была ахоўваць Ашмянскі павет і дарогу на Менск і Гародню, іншая частка пад камандаваннем генерала Хілкова павінна была ўзяць пад кантроль дарогу на Пецярбург праз Відзы і Дынабург, а генерал Суліма са сваімі войскам павінен быў заняцца пацыфікацыяй Жамойці. Невялікія аддзелы планавалася выкарыстаць для "ачышчэння" наваколляў Вільні.

20-га красавіка з Вільні выступіў Атрошчанка з паўтара батальёнамі 11-га егерскага палка, эскадронам гусарскага эрцгерцага Фердынанда палка і 6-ю гарматамі, трохі пазней выйшаў генерал Шырман з аддзелам складзеным з 7-га і 8-га егерскага палка і 4 гарматамі. У кожным з гэтых аддзелаў было каля 1200 чалавек. Атрымаўшы звесткі, што інсургенты Пшаздецкага збіраюцца ў Вішнеўскіх лясах, Атрошчанка рушыў туды, і 24 красавіка інсургенты не прымаючы бой адступілі ў густыя лясы да Рума. Аддзел Атрошчанкі, узмоцнены ўланскім Вялікага князя Міхаіла Паўлавіча палком, вырашыў дзейнічаць супраць паўстанцаў ў двух кірунках: з Бакштаў і з Валожына. Для гэтага ён рушыў палкоўніка Севасцьянава з 2-мя ротамі, эскадронам уланаў і 2-мя гарматамі праз Валожын, а частка уланаў і казакоў заступілі дарогу інсургентам на Бакшты. Севасцьянаў напаў каля вёскі Рум на інсургентаў (каля 2 000 чалавек). Пасля бою, страціўшы да 100 чалавек, інсургенты рассеяліся. Пузырэўскі пісаў: *"Галоўныя дзеячы паўстання ў Ашмянах альбо былі ўзятыя ў палон, або збеглі. Паўстанню ў Ашмянах быў нанесены рашучы ўдар"*.

Генерал Шырман, сустракаючы па шляху толькі невялікія аддзелы паўстанцаў, перш рушыў на Панявежу, адкуль, аднаўляючы па дарозе рускую адміністрацыю, пайшоў на Шаўлі, каб злучыцца там з войскамі генерал-губернатара Палена, якія ішлі туды з Мітавы. Залускі спрабаваў заступіць Шырману шлях на Шаўлі, але не змог гэтага зрабіць. Барон Пален выступіў з Мітавы з войскамі складзенымі з палкоў 4-й рэзервовай дывізіі (Неўскі, Сафійскім, Нараўскі, Капорскі, 2 эскадроны і 6 гармат) ў колькасці 2 000 чалавек. Разбіўшы паўстанцаў Тышкевіча і пад Янішкамі, паўстанцаў Херубовіча і Шаміёта, Пален 8 траўня злучыўся з Шырманам ў Шаўлях.

Войскі князя Хілкова (12-ы егерскі полк, і Сібірскі ўланскі полк з 8 гарматамі) выступілі 29 красавіка з Вільні да Вількаміра, дзе 30 красавіка разбілі інсургентаў каля Мейшаголы. Пасля гэтага ён рушыў да Свянцянаў але паўстанцы Барткевіча загадзя сышлі

з горада і 7 траўня рускія войскі увайшлі у Свянцяны.

29 красавіка рускія войскі (Ладажскі пяхотны і два уланскія палкі) выйшлі з Вільні на Кейданы. На наступны дзень інсургенты Прозара разабралі мост цераз раку Нявяжу і спрабавалі не прапусціць войскі, але да вечара расейцы пераправіліся на другі бераг.

Генерал Суліма таксама выправіўся да Шаўлёў, каб прыняць у Шырмана вялікі транспарт з боеприпасамі, прыведзенымі з Дынабурга. Залускі, дазнаўшыся пра набліжэнне рускіх, загадаў Прозару адысці да Бейсаголы і назіраць за рухамі непрыяцеля, сам жа сабраў злучаныя сілы і падышоў да Панявежы. 5 траўня сутыкнуліся з расейскімі войскамі і атрымалі паразу.

Пасля гэтага паўстанцы адмовіліся ад вялікіх бітваў з рускімі войскамі, было вырашана разысціся і падобна іспанскім гверыльясам, кожнаму весці на сваёй малой радзіме, цяжкую для расейцаў партызанскую вайну. Аднак сур'ёзныя сутыкненні не спыніліся.

Палкоўнік А. Пузырэўскі так апісаў сітуацыю якая склалася ў той час у нашым краі: *«Падчас гэтых падзей у заходняй частцы краіны, г.зн. Жамойці, справы інсургентаў ва ўсходняй яе частцы, г.зн. уласна ў Літве, былі не ў лепшым становішчы. Залускі, пасля вяртання…, знайшоў ва Ўпіцкім павеце поўную анархію і павінен быў заняцца перш за ўсё ўсталяваннем там хоць якога парадку. Тое самае было і ў Вількамірскім павеце... у Віленскім, Трокскім паветах засталіся ранейшыя камандзіры, якія працягвалі весці дробную партызанскую вайну. Ашмянскі, Свянцянскі і Барацлаўскі паветы ўтрымлівалі* (расейцы – Л. Л.) *Атрошчанка, Хілкоў і Кахоўскі. У Трокскім і Вількамірскім паветах захаванню парадку садзейнічалі калоніі рускіх раскольнікаў, філіпаўцаў… якія пасяліліся ў краіне яшчэ пры Жыгімонце Аўгусту».*

У гэты час найбольшую ваенную моц мелі інсургенты Віленскага, Свянцянскага і Дзісненскага паветаў. Віленскія паўстанцы, пад кіраўніцтвам Радзішэўскага, базаваліся каля Мядзеля. Калі да іх далучыліся рэшткі ашмянцаў, раней разбітых каля Рума было вырашана зрабіць напад на Вілейку. 5 траўня інсургенты ўварваліся ў горад з двух бакоў, але там у гэты час знаходзіўся генерал Саф'янаў з двума рэзервовымі батальёнамі. Пасля бою паўстанцы адступілі да Глыбокага, каб злучыцца з паўстанцамі Дзісненскага павету.

9 траўня дзісненскія паўстанцы напалі на свой павятовы горад, руская залога пасля некалькіх стрэлаў адступіла, але праз тры дні падышоў палкоўнік Маркаў з 3-ма батальёнамі пры 2-х гарматах і зноў авалодаў Дзісной. Інсургенты вярнуліся ў Лужкі, дзе і злучыліся з Радзішэўскім. Такім чынам у гэтым месцы сканцэнтравалася каля 5–6 тыс. інсургентаў.

Між тым генерал Саф'янаў атрымаў падмацаванне – два эскадроны ўланаў, і 16 траўня яму ўдалося разбіць паўстанцаў Радзішэўскага. З-за наступу рускіх войскаў і набліжэння рэзервовай арміі графа Талстога, інсургенты вырашылі адыходзіць у Вількамірскі павет, каб быць бліжэй да мяжы. Каб падмануць рускіх, адна, лепш ўзброеная частка інсургентаў павінна была рушыць ў абраным кірунку, а другая, для дэманстрацыі - у Віцебскі павет. 19-га траўня абедзве калоны выступілі з Лужкоў. Меншая частка інсургентаў напала на Лепель, выцесніла адтуль залогу і паспрабавала падняць паўстанне ў Віцебскай губерні, але ўжо праз некалькі дзён была акружаная брыгадай 4-й гусарскай дывізіі генерала Каблукова і разбіта. Другая частка (2500 чалавек) 24 траўня падышла да Віжунаў і ўз'ядналася з вількамірскімі інсургентамі. У гэтым раёне знаходзілася мноства дробных, добра ўзброеных і самастойна дзеючых аддзелаў паўстанцаў, але аб'ядноцца пад агульным камандаваннем яны не змаглі. Вілейцамі працягваў камандаваць Радзішэўскі, у свянцянцаў і дзісненцаў Брахоцкі камандаваў пяхотай а Барткевіч кавалерыяй. Паўстанцы падзяліліся: 25 траўня Брохоцкі і Барткевіч рушылі насустрач польскаму генералу Гелгуду, і злучыліся з ім 12 чэрвеня. Паўстанцы Радзішэўскага некаторы час праследаваліся расейцамі, але здолелі злучыцца з польскімі войскамі генерала Хлапоўскага каля Чабішак. З пяхоты Радзішэўскага былі сфармаваны 26 пяхотны, а з конніцы 12 уланскі палкі, пяхота двух іншых паветаў была далучаная да 19 пяхотнага палка, а з конніцы сфармаваны 10 і 11 уланскі палкі. Так сама трокцы, вількамірцы, упітцы і іншыя былі далучаны да войскаў Гелгуда. Усе гэтыя інсургенты павялічылі рэгулярныя войскі на 10–12 тысяч чалавек.

Сярод вількамірскіх інсургентаў да войскаў генерала Хлапоўскага далучыўся і аддзел знакамітай Эміліі Плятар – Жанны д'Арк паўстання 1831 г. Менавіта ёй Адам Міцкевіч прысвяціў верш «Смерць палкоўніка».



***Войцах Косак. Эмілія Плятар у бітве пад Шаўлямі.***

Асаблівая тэма 1831 г. – віленскія студэнты. Яны доўга чакалі паўстання ў самім горадзе. Не дачакаўшыся яны самастойна ўзброіліся і выйшлі з горада для вядзення партызанскай вайны. Высланы супраць іх аддзел Крагельскага 20 траўня нанёс паразу частцы студэнтаў у Рудніцкім лесе, праз 4 дні студэнты ўдала адбілі напад роты Віленскага палка, але, недалёка ад Барбарышак, былі нагнаны палкоўнікам Севасцьянавым і рассеяны, страціўшы да 200 чалавек. Тым не менш вялікая частка студэнтаў далучылася да войскаў генерала Хлапоўскага.

Галоўнай бядой паўстанцаў была недасведчанасць камандзіраў і жаўнераў, слабое ўзаемадзеянне паміж сабой, што прыводзіла да няздольнасці супрацьстаяць рэгулярнай арміі. Аднак, палкоўнік расейскага генеральнага штаба Пузырэўскі адзначаў, што сярод паўстанцаў былі і дасведчаныя камандзіры. Напрыклад кіраўнік Расіенскага павету Станевіч сур'ёзна займаўся арганізацыяй сваіх войскаў і нарыхтоўкай баявых прыпасаў. А найбольшыя таленты ў партызанскай вайне праявіў правадыр тэльшынскіх інсургентаў Яцэвіч, ён першы зразумеў што паўстанскім войскам немагчыма дзейнічаць вялікімі масамі і даваць рашучыя бітвы, а варта абмежавацца малою вайною. Таму ён падзяліў свае войскі на невялікія, але самастойныя аддзелы і размясціў іх уздоўж курляндскай мяжы, так што параза аднаго з іх не магла шкодзіць іншым, а войскі і начальнікі мелі магчымасць альбо ўхіляцца ад бою альбо прымаць бой, у залежнасці ад таго ці спрыяльна складвалася сітуацыя.

**Паўстанне ў Белавежскай пушчы**

У Гарадзенскай губерні рэвалюцыйны рух быў слабейшы чым у Віленскай, часткова таму, што з пачаткам паўстання большая частка моладзі з'ехала ў Варшаву і ўжо прыняла ўдзел у паўстанні.

Інсургентаў на Гарадзеншчыне узначаліў Т. Краскоўскі, асабісты сакратар цывільнага губернатара, арганізатарамі былі таксама берасцейскі маршалак К. Нямцэвіч, адвакат Ю. Гацыскі, засядацель гарадзенскага суда Я. Жылінскі. Патрыёты мелі некалькі варыянтаў выступлення. Планавалася захапіць мясцовую залогу або, стварыўшы ў Белавежскай пушчы партызанскі аддзел, пашырыць яго дзеянні на ўсю губерню *(Гарбачова В. Паўстанне 1830—1831 гг. у лёсе Ігната Дамейкі // Ігнат Дамейка — светач сусветнай цывілізацыі: Матэрыялы VI Карэліцкіх чытанняў. г. п. Мір, 12 вер. 2002 г. )*. Склалася так, што базай паўстання стала Белавежская пушча, дзе галоўны ляснічы інспектар, швейцарац Я. Ронка загадзя пачаў рыхтаваць усё неабходнае. Белавежская пушча мела 160 вёрст у акружнасці, да 50 вёрст у даўжыню і каля 40 у шырыню. У пушчы былі 3 галоўныя населеныя пункты: у цэнтры – Белавежа, на паўночным усходзе – Рудня і на паўночным захадзе – Нараўка, яны ж з'яўляліся і вузламі шляхоў, якія вялі праз пушчу.

Капітан Я. Жылінскі заняўся фармаваннем паўстанцкага войска, абсталяваннем лагера, нарыхтоўкай узбраення і харчавання. Па успамінам інсургентаў, у 4 лагерах сканцэнтравалася каля 250–300 чалавек, сярод якіх знаходзіліся беластоцкія, берасцейскія, ваўкавыскія, пружанскія, лідскія паўстанцы, палкоўнік Пузырэўскі кажа пра 800 інсургентаў, падзеленых на некалькі аддзелаў, значную частку паўстанцаў склалі ляснічыя.

Рускі генерал Розэн, даведаўшыся, што мясцовая шляхта, збіраецца ў сяле Крыніцы (усходняя частка пушчы), 11 траўня выслаў туды падпалкоўніка Горскага з 2-ма эскадронамі Валынскага ўланскага палка, затым даведаўшыся, што да паўстанцаў прыходзіць усё больш мясцовай шляхты і сялян, Розэн 14 траўня выслаў для ўзмацнення Горскага яшчэ падпалкоўніка Сарабію з 3-мя ротамі Мурамскага палка, 1 гарматай і 14 казакамі. Сарабія прыбыў 17 траўня ў Белавежу і знайшоў яе пакінутай жыхарамі. Адтуль ён рушыў у Каралеўскую Альтону, дзе па атрыманых звестках, знаходзіўся галоўны зборны пункт інсургентаў. Тут Сарабія захапіў лагер з запасамі зброі, аднак у гэты час рускі транспарт з 418 фурманак, які рухаўся з Берасця ў Скідаль, быў атакаваны ў лесе каля рэчкі Гвозна і знішчаны, прычым з аховы ў 53 чалавекі ўратавалася толькі 28, таму Сарабія, лічачы сваё становішча ў лесе небяспечным, вырашыў адступіць на поўдзень да Дзмітравіч. Пераканаўшыся, што інсургенты мацней, чым ён меркаваў, Розэн 19 траўня адправіў генерала Ліндэна з Жытомірскім палком, паўэскадрон уланаў з 2 гарматамі, загадаўшы злучыцца з аддзеламі Сарабіі і Горскага, пасля чаго ачысціць лес і аднавіць сувязь Гародні і Берасця. Пад Гайнаўкай Ліндэн нечакана сутыкнуўся з Хлапоўскім. Такім быў стан спраў на момант прыходу рэгулярных польскіх войскаў генералаў Гелгуда і Хлапоўскага.

**Дзеянні войскаў Хлапоўскага ў Літве**

Хлапоўскі прыйшоў у Літву з аддзелам у 800 чалавек: 1-шы ўланскі полк (500 чалавек), 100 чалавек 1-га егерскага палка, 100 афіцэраў і унтэр-афіцэраў і дзве конныя гарматы. З ім былі адпраўленыя інструкцыі рэвалюцыйнага ўраду, згодна з якімі паўстанцы павінны былі пазбягаць баёў у адкрытым полі, пакуль не падыдуць новыя значныя сілы, заміж баёў неабходна было займацца арганізацыяй і навучаннем паўстанцаў для таго, каб быць гатовым ўзяць пад кантроль Балтыйскае ўзбярэжжа для прыёму транспартных караблёў.



*Дэзыдэры Хлапоўскі*

Палкоўнік расейскага генеральнага штаба так характарызаваў Хлапоўскага: *"Дэзыдэры Хлапоўскі, былы ад'ютант Напалеона, як сваім вайсковым да-*

*рам так і па ўласцівасцях характару цалкам быў здольны да выканання небяспечных і цяжкіх заданняў"*. Пры прасоўванні сваіх войскаў Хлапоўскі распускаў чуткі, што з'яўляецца толькі авангардам вялікай арміі, якая ідзе следам. Перайшоўшы ўначы з 22 на 23 траўня мяжу Царства Польскага ён затым праз Бельск прайшоў у Белавежскую пушчу для злучэння з інсургентамі. 24 траўня у Гайнаўцы Хлапоўскі сутыкнуўся з аддзелам расейскага генерала Ліндэна (700 чалавек пры дзвюх гарматах) і атрымаў перамогу. У выніку ў палон трапілі 150 вайскоўцаў, былі захоплены ўзбраенне і амуніцыя, якую паўстанцы выкарысталі ў далейшым. Расейцы адступілі да Белавежы, злучыліся там з аддзеламі Сарабіі і Горскага і адступілі да Шэршава. Хлапоўскі рушыў на Свіслач, па дарозе да яго далучылася некалькі аддзелаў інсургентаў, паўсюдна яго палымяна віталі. У Нараўцы з навакольных вёсак прыходзілі людзі і прыносілі паўстанцам харчаванне. У Масеве да фармавання Хлапоўскага далучыўся з 200 байцамі Ронка. 26 траўня пачалося фармаванне з прыбываючых ліцвінаў 25-га пяхотнага палка, які ўзначаліў С. Мацэвіч. 27 траўня фармаванне Хлапоўскага ўвайшло на тэрыторыю Ваўкавыскага павету, у Мсцібаве яно налічвала болей за 4 000 чалавек. Каб увесці ў зман расейцаў, ён прадэманстраваў намер рухацца да Слоніма, дзе знаходзіўся цэсарэвіч Канстанцін Паўлавіч, а потым пайшоў на Масты, дзе 30 траўня пераправіўся цераз Нёман. Затым з мэтай дэманстрацыі рушыў на Гародню, але развярнуўся і ідучы дзень і ноч каля Шчучына, праз Жалудок і Арланку, 31 траўня падышоў да Ліды. Капітан Камарніцкі, які знаходзіўся ў Лідзе з дзвюма ротамі Віленскага рэзервовага батальёна пры двух гарматах, з набліжэннем Хлапоўскага адступіў па Віленскай дарозе, але быў затрыманы ў адкрытым полі конніцай Хлапоўскага і пасля невялікага супраціву склаў зброю. У гэты час з Жырмунаў да Ліды выступіў аддзел палкоўніка Гаферланда, які прыбыў туды напярэдадні. Хлапоўскі, знішчыўшы аддзел Камарніцкага, атакаваў Гаферланда, расейцы ўмацаваліся на краі лесу і адбілі атаку толькі што сфармаванага літоўскага батальёна. Хлапоўскі, не губляючы тэмпу павярнуў і рушыў праз Мыто на Араны.

31 траўня кур'еры аддзела заехалі ў Заполле, дзе Дамейка аказаў ім неабходную дапамогу і праз Жыбуртоўшчыну таксама накіраваўся ў Ліду *(Domeyko I. Pamatniki. Krakow, 1908.)*. Пасля паўстання, "адстаўны капітан-інжынер" Тодар Нарбут абвінавачваўся расійскімі ўладамі ў тым, што падчас побыту Хлапоўскага ў Лідскім павеце напісаў *"пасквіль супраць Расеі"*. Вядома гэтак жа, што пазней, перад планаваным штурмам горада Нарбут чарціў планы Вільні для генерала Гелгуда, таксама засталіся ўспаміны паўстанцаў, што адстаўны капітан Нарбут арганізаваў ліццё гармат у Варнях *(Rabinowiczowna Sara. Wilno w powstaniu roku 1830/31. Wilno. 1932.)*.

З усей Літвы на злучэнне з Хлапоўскім спяшаліся аддзелы паўстанцаў: з Ізабелінскага лесу прыйшоў аддзел у 40 чалавек, з-пад Слоніма аддзел графа А. Солтана і памешчыка Мікульскага, да фармавання Хлапоўскага пачала далучацца дробная шляхта. У гэты ж час І. Дамейка быў прызначаны ад'ютантам 25-га пяхотнага палка, у размове з Хлапоўскім ён тлумачыў генералу, што не ведае вайсковай службы, аднак польскі генерал, высока ацэньваючы навуковыя здольнасці і шляхетны характар апошняга, загадаў: *"Павінен навучыцца, бо толькі салдатаў павінен тут мець" (Гарбачова В. Паўстанне 1830—1831 гг. у лёсе Ігната Дамейкі // Ігнат Дамейка — светач сусветнай цывілізацыі: Матэрыялы VI Карэліцкіх чытанняў. г. п. Мір, 12 вер. 2002 г. ).*

Між тым Храпавіцкі, не маючы дакладнай інфармацыі аб сілах Хлапоўскага, прымаў меры абароны Вільні, ён быў гатовы пакінуць горад з ненадзейным насельніцтвам і абараняцца ў гарадскім арсенале акружаным валам. Былі пасланыя загады генералу Суліме прыбыць з Вількаміра ў Вільню, а Атрошчанку з Ашмянаў адыйсці ў Салешнікі і сабраўшы там расейскія аддзелы ўтрымліваць горад. Неўзабаве было атрымана данясенне Гаферланда, пра сапраўдны лік паўстанцаў, таму Атрошчанку было загадана знайсці і разбіць Хлапоўскага. Атрошчанка сабраў больш за 1000 чалавек пяхоты, эскадрон уланаў, 400 казакоў і 9 гармат і рушыў праз Яшуны на Ганушышкі, але польскі генерал рухаўся хутчэй і перахапіць яго не ўдалося. Ліцвіны, падбадзёраныя прыходам войскаў Хлапоўскага зноў паўсталі і Хлапоўскі рухаўся да Кітавішак для сустрэчы з аддзелам Агінскага. 7 чэрвеня каля Кітавішак Агінскі далучыў да аддзела Хлапоўскага 1000 інсургентаў і аддзел віленскіх студэнтаў, які налічваў да 350 чалавек. Неўзабаве ў аддзеле Хлапоўскага было ўжо 5 000 чалавек, што дало яму магчымасць сфармаваць 2 пяхотныя і 4 кавалерыйскія палкі і артылерыйскую батарэю з 5 гармат. Мясцовае насельніцтва забяспечвала паўстанцаў ўсім неабходным і дастаўляла выведвальную інфармацыю. Хлапоўскі прыводзіў свае войскі ў парадак у Жыжморах, адкуль пагражаў, як Вільні, так і Коўні. Аднак ён планаваў абыйсці Вільню і рушыць праз Менск на Мазыр, да балот Прыпяці, дзе паўстанне ўжо было падрыхтавана. У гэты час ён даведаўся аб прыбыцці атрада Гелгуда.

Генерал Гелгуд быў прызначаны камандзірам і над Хлапоўскім. Хлапоўскі прапаноўваў Гелгуду хутка рухацца да Вільні, каб злучанымі сіламі авалодаць старажытнай сталіцай Літвы. Аднак Гелгуд пераправіўся цераз Нёман далёка ад Вільні (каля Гелгуцішак) і запатрабаваў каб Хлапоўскі са сваімі войскамі ішоў да яго.

**Паход Гелгуда**

27 траўня, на другі дзень пасля бітвы пад Астраленкай, генерал А. Гелгуд рухаўся на злучэнне з галоўнымі сіламі польскай арміі, калі Дэмбінскі прыбыў да яго з кавалерыйскім эскадронам і перадаў славесныя інструкцыі аб далейшых дзеяннях. Гелгуд, на думку сучаснікаў не самы лепшы генерал польскай арміі, такім чынам стаў на чале важнай экспедыцыі ў Літву. Польскія войскі пад ягоным кіраўніцтвам ру-

шылі спачатку ў Аўгустоўскае ваяводства, 29 траўня яны дасягнулі Граева, дзе Дэмбінскі сустрэў свой аддзел і зноў узначаліў яго. Аддзелы Гелгуда і Дэмбінскага дасягалі колькасці 12 000 чалавек пры 26 гарматах. Па дарозе, недалёка ад Граева, польскія войскі разграмілі аддзел расейскага генерала Сакена, (расейцы страцілі 1 500 чалавек). Далей, праз Аўгустоў, польская армія рушыла на Марыямпаль дзе было прынята рашэнне перапраўляцца цераз Нёман каля Гелдуцішак (7 вёрст вышэй па плыні ад Юрбурга), пры гэтым спадзяваліся дапамагчы паўстанню ў Жамойціі і сустрэць у Паланзе англійскі карабель са зброяй. Гелгуцішкі былі радзінным местам генерала Гелгуда, і ён хацеў праславіць гэтай пераправай сваіх продкаў. Для дэманстрацыі быў высланы да Коўні авангард Дэмбінскага, які павінен быў замаскаваць рух на Гелгуцішкі. 4 чэрвеня Дэмбінскі прыбыў у Аляксоцін, насупраць Коўні і пачаў абстрэльваць горад з супрацьлеглага берага, аднак пераправіцца на другі бераг і ўзяць горад не адважыўся, таму што хадзілі чуткі пра набліжэнне вялікай масы рускіх войскаў. 7 чэрвеня войскі Гелгуда з далучыўшымся авангардам Дэмбінскага, ужо былі на правым беразе Нёмана. 10 чэрвеня адбылося аб'яднанне войскаў Гелгуда і Хлапоўскага. Асноўныя сілы аддзела Хлапоўскага маршам праз Кейданы пайшлі да Рыконтаў і пачалі рыхтавацца да наступлення на Вільню, у той час як два ўланскія і 25-ы пяхотны палкі ў адпаведнасці з загадам Гелгуда былі накіраваны да Коўні.

10–11 чэрвеня ў Зеймах было абвешчана пра заснаванне так званага Часовага паўстанцкага ўраду для беларуска-літоўскіх зямель. Узначаліў урад генерал граф Т. Тышкевіч. Паўнамоцтвы новага ўраду распаўсюджваліся толькі на землі Віленскай губерні, у тым ліку і на Браслаўскі, Свянцянскі і Ашмянскі паветы. Адным з першых крокаў Цэнтральнага паўстанцкага ўраду стала распрацоўка 11 чэрвеня 1831 г. прынцыпаў фармавання "паспалітага рушэння" і фармаванне апалчэння.

Рух войскаў Гелгуда на Вільню выклікаў энтузіязм жыхароў горада. Святары ў поўным уборы дабраслаўлялі войскі, насельніцтва абсыпала іх шлях кветкамі. Узяцце старажытнай сталіцы мела б каласальнае маральнае значэнне для развіцця паўстання, сталіца мела і велізарнае ваеннае значэнне – ў ёй былі вялікія арсеналы са зброяй, запасамі вайсковай маёмасці і 200 гармат. Аднак канцэнтрацыя паўстанцаў каля Вільні ішла павольна, і рускія паспелі сцягнуць да сталіцы амаль усе свае войскі з Літвы.

У чаканні інсургентаў, войскі пад камандаваннем Сакена размясціліся на Панарскіх гарах пад Вільняй. Толькі 19 чэрвеня Гелгулд падышоў да Вільні, і пачалася бітва, якая працягвалася каля 8-мі гадзін і скончылася паразай войскаў паўстанцаў. З 21 чэрвеня да Вільні пачала падыходзіць рэзервовая армія графа Талстога (44 000 чалавек) і магчымасці паўтарыць штурм больш не было *(Брянцев П.Д. Восстание поляков в 1830 и 1831 гг. Вильна. 1896.)*.

Войскі на чале з Гелгудам пачалі рухацца ў кірунку Жамойціі, разам з імі былі і сябры Часовага Літоўскага ўраду. Аддзел Хлапоўскага атрымаў загад галоўнакамандуючага накіравацца ў Коўню і аб'яднацца з аддзеламі, якія прыбылі туды раней. 21 чэрвеня Хлапоўскі быў на месцы, аднак 22 чэрвеня быў атрыманы новы загад, паводле якога ў Коўне неабходна было пакінуць 25-ы пяхотны полк Мацэвіча, а асноўным сілам адыйсці на Кейданы. Гэты аддзел (у яго складзе знаходзіўся Дамейка), планавалася выкарыстаць для прыкрыцця адступаючай арміі. Пасля Кейдан паўстанцы пачалі адыходзіць да Шаўлёў дзе стаяў аддзел генерала Крукава ў (2 500 чалавек). Выбіць расейцаў з горада не атрымалася і прыйшлося адступіць да Куршанаў. У Куршанах ад паўстанцаў засталося не болей за 11000 чалавек. Тут была склікана ваенная рада. Пасля доўгіх спрэчак, вырашылі падзяліць войска на 3 аддзелы: Дэмбінскага, Роланда і Хлапоўскага. Гелгуд быў адхілены ад камандавання і далучыўся да аддзела Хлапоўскага. Сярод паўстанцаў павялічвалася нервовасць, і польскі афіцэр Скульскі стрэлам ва ўпор забіў генерала Гелгуда. Рускія войскі працягвалі ціснуць з усіх бакоў, і аддзелы паўстанцаў Роланда і Хлапоўскага перайшлі ля Палангі прускую мяжу склаўшы зброю. 13 ліпеня ў складзе 25-га пяхотнага палка ў Прусіі апынуўся і Дамейка.

Аддзел Дэмбінскага здолеў вырвацца. На сваім шляху ён разграміў некалькі рускіх атрадаў, пераправіўся цераз Нёман ля Збойска (каля Іўя) і 22 ліпеня прыбыў у Варшаву. Па дарозе да Дэмбінскага далучыліся некалькі соцен паўстанцаў з Наваградчыны. Пры ўступленні ў горад аддзел меў самы стракаты выгляд: паўстанцы былі апранутыя ў польскія і рускія мундзіры, у студэнцкія сурдуты і сялянскую вопратку, былі абарваныя і босыя, але шмат хто ўзброены дарагой зброяй. Кавалерысты сядзелі на вялікіх і маленькіх конях: жамойцкіх, рускіх, казацкіх з рознымі сёдламі. Сагнутая і ржавая зброя, худыя і змучаныя коні, падраная збруя – усё паказвала на тыя цяжкасці, якія перанесла армія, сярод якой можна было сустрэць жанчын і дзяцей.

Апошнім уздымам паўстання было ўзброенае выступленне Мазырскага, Рэчыцкага і Пінскага паветаў у чэрвені і ліпені. На усходзе, у Віцебскай і Магілёўскай губернях паўстанне мела форму непрацяглых хваляванняў шляхты. На пачатку жніўня паўстанне закончылася, і ўвосень па лясах хаваліся ужо толькі рэшкі разбітых паўстанцаў *(Латышонак А., Міраловіч Я. Гісторыя Беларусі ад сярэдзіны XVIII ст. да пачатку XXI ст. Вільня. 2010.)*.

Так скончылася паўстанне на Літве.

Паўстанне на Валыні таксама пацярпела паразу.

**Заканчэнне паўстання**

Між тым, галоўная руская армія, пасля бітвы пад Астраленкай адступіла да Пултуска і ў канцы траўня (праз два тыдні) была папоўнена. Вайна зацягвалася, а руская армія так і не магла дасягнуць вырашальнага выніку. У Расеі распаўсюджваліся самыя нявыгадныя чуткі пра фельдмаршала, яго нават абвіна-

вачвалі ў здрадзе.

Фельдмаршал Дыбіч вырашыў у чэрвені прыступіць да аблогі Варшавы, але 29 траўня ён памёр ад халеры. Пасля смерці Дыбіча, рускую армію ўзначаліў начальнік штаба Дыбіча генерал Толь. Але хутка на змену Толю (25 чэрвеня) прыехаў Паскевіч–Эрыванскі які раней добра зарэкамендаваў сябе ў вайне з туркамі. Па прыбыцці ў Пултуск ён загадаў сцягнуць да горада максімальную колькасць войскаў і потым рушыў на Варшаву. 5 ліпеня руская армія чатырма калонамі выступіла да Варшавы. З-за дажджоў і бездаражы шлях да польскай сталіцы заняў больш за месяц.

Польскі камандуючы Скрыжынецкі не супрацьдзейнічаў прасоўванню рускіх войскаў да Варшавы, таму яго бяздзейнасць выклікала незадаволенасць. Скрыжынецкі вымушаны быў пайсці ў адстаўку, і на яго месца быў прызначаны генерал Дэмбінскі, які толькі што прывёў свой аддзел з Літвы. У гэты час збунтаваліся нізы Варшавы, у выніку рэвалюцыйных пертурбацый дыктатарам Варшавы стаў генерал Крукавецкі. Ён зняў з пасады Дэмбінскага і ўвязніў яго ў турму, а Адама Чартарыйскага і Лелявеля прысудзіў да шыбеніцы, і ім абодвум прыйшлося ратавацца ўцёкамі за мяжу. Новы дыктатар прызначыў камандуючага войскамі свайго сябра генерала Малахоўскага.

Між тым рускія войскі (60 000 чалавек і 200 гармат) набліжаліся да Варшавы. Каб не дапусціць іх пераправы на левы бераг Віслы, Малахоўскі адправіў супраць рускіх войска ў 20 000 чалавек пад камандаваннем генерала Рамарына. Супраць Рамарына Паскевіч высунуў войскі двух рускіх генералаў: Красоўскага і Розэна. У серыі сутычак рускія войскі прыціснулі аддзел Рамарына да аўстрыйскай мяжы. Польская армія ў 14 000 чалавек з 42 гарматамі перайшла мяжу і была інтэрнавана.

Напрыканцы жніўня – у пачатку верасня Паскевіч аблажыў Варшаву. Пасля чатырох дзён блакады ён склікаў ваенную раду, на якой вырашылі штурмаваць горад. У гэты час быў атрыманы зварот цара з патрабаваннем да паўстанцаў скласці зброю і змірыцца. Зварот быў перададзена палякам з прапановай пачаць перамовы. Для перамоваў з Варшавы прыехаў генерал Прандзінскі якому і было ўручана пасланне цара. На наступны дзень расейцам перадалі ліст ад дыктатара Крукавецкага, якое заканчвалася словамі: *«Палякі ўзнялі зброю за незалежнасць Айчыны ў тых межах, якія спрадвеку аддзялялі яе ад Расеі, народны ўрад чакае адказу ў якой меры Яго Імператарская Вялікасць можа выканаць гэтае жаданне»*. Паскевіч загадаў рыхтавацца да штурму.

У 5 гадзін 6 верасня рускія войскі, калонамі, пад гукі музыкі, маючы наперадзе 92 гарматы рушылі на штурм. Даўжэй за ўсіх супраціўлялася Воля, камандзір якой, генерал Савінскі, на прапанову здацца адказаў: *«Адно з вашых ядраў адарвала мне нагу пад Барадзіным, і я зараз не магу зрабіць ні кроку назад»*. Ён быў забіты пры штурме. Паскевіч зладзіў сваю стаўку ў Волі, на працягу ночы з 6 на 7 верасня расейцы бамбардавалі другую лінію; польская артылерыя адказвала слаба, за недахопам зарадаў. Раніцай 7 верасня Паскевіч аднавіў штурм. Але па просьбе польскага боку да 3 гадзін дня было абвешчана перамір'е. Паколькі пасля заканчэнне гэтага тэрміну паўстанцы не здаліся, штурм быў адноўлены. Падчас бою Паскевіч быў кантужаны, і рускую армію ўзначаліў генерал Толь. Да вечара амаль усе ўмацаванні Варшавы былі ўзятыя. На наступны дзень паміж бакамі была складзена ўмова, паводле якой Варшава здаецца непрыяцелю, а польскія войскі адыходзяць да Плоцка і чакаюць далейшых рашэнняў.

Апоўдні 8 верасня рускія войскі ўвайшлі ў Варшаву.

Польскай ўрад пераехаў ў Закрочын, і пачаў пасяджэнне пад кіраўніцтвам Немаеўскага. На гэтым пасяджэнні быў дэзавуяваны акт аб падначаленні рускім, галоўнакамандуючым быў прызначаны генерал Рыбінскі. Ён сабраў разрозненыя аддзелы ў адно войска ў 30 000 чалавек спрабаваў аднавіць ваенныя дзеянні, але сур'ёзна ваяваць польская армія ўжо не магла. Таму на пачатку кастрычніка, пад ціскам расейцаў, апошнія польскія войскі перайшлі прускую мяжу і былі інтэрнаваны.

26 лютага 1832 г. з'явіўся «арганічны статут», паводле якога Польскае Царства аб'яўлялася часткай Расеі, скасоўваўся сойм, і заміж сойма засноўваўся дзяржаўны савет, члены якога прызначаліся самім імператарам, скасоўвадася польскае войска. Старое адміністрацыйнае дзяленне на ваяводствы было заменена дзяленнем на губерні. Намеснікам Царства Польскага быў прызначаны граф Паскевіч, які атрымаў тытул князя Варшаўскага. Фактычна гэта азначала прыняцце курсу на ператварэнне Царства Польскага ў рускую правінцыю – на польскую тэрыторыю распаўсюджваліся расейская манетная сістэма і сістэма мер і вагаў.

На тэрыторыі гістарычнай Літвы быў ліквідаваны Віленскі ўніверсітэт. Было вырашана, каб ва ўсіх навучальных установах кіраўнікамі былі толькі расейцы, павялічана колькасць гадзін вывучэння рускай мовы, а выкладчык рускай мовы заміж малодшага выкладчыка стаў старэйшым, гісторыя і статыстыка сталі выкладацца на рускай мове. Віленская навучальная акруга была паменшана, вялікая яе частка адышла да Кіеўскай і Беларускай навучальных акругаў. Была ліквідавана ўніяцкая царква.

Для паслаблення ўплыву каталіцкага духавенства, рускі ўрад пастанавіў:

• Каб ад змешаных шлюбаў каталікоў і праваслаўных (былых уніятаў) дзеці былі праваслаўныя.

• Кандыдаты на епіскапскія пасады выбіраліся ўрадам.

• Каталіцкія духоўныя асобы без згоды свецкай улады "не мелі права кроку зрабіць з свайго месцазнаходжання".

Рымскія папы, спачатку Рыгор XIV а потым Пій IX дасылалі свае пратэсты, але ў Расеі не звярнулі на іх ніякай увагі і, *«як непатрэбны дакумент здалі ў архіў»*.

У 1840 г. на ўсёй тэрыторыі Беларусі было скасавана дзеянне Статута 1588 г.

***Кірыл Сыцько***

# МЕТРЫЧНЫЯ КНІГІ ІШЧАЛНСКАЙ ПАРАФІІ ЯК КРЫНІЦА ВЕДАЎ ПА ГІСТОРЫІ ЛІДЧЫНЫ

### МЕТРЫЧНЫЯ КНІГІ І ДАСЛЕДВАННЕ ІХ ГІСТОРЫІ

З развіццём права прыродная біялагічная з'ява нараджэння чалавека ставіла яго ў залежнае ад дзяржавы становішча. Ад нараджэння чалавек меў правы і абавязкі, што былі прадугледжаныя пэўнай дзяржавай, а каб гэтыя правы і абавязкі набылі моц, індывіда трэба ўлічыць у афіцыйных дакументах. Метрычныя кнігі - гэта кнігі запісу актаў аб нараджэнні, шлюбе, смерці, яны запаўняліся святарамі непасрэдна да таго часу, пакуль традыцыю браць шлюб у царкве замянілі на распісванне ў аддзелах ЗАГСу і аналагічных ім. Таму можна сказаць, што метрычныя кнігі ёсць адной з першых статыстычных крыніцаў.

Асаблівасць метрычных кнігаў заключаецца ў тым, што яны фіксавалі культавую падзею, якая адначасова станавілася і юрыдычным фактам.

Разгледзім, напрыклад, шлюб. Запіс аб шлюбе нідзе больш не вёўся, але сям'я стваралася "Божай воляй", значыцца і раз'яднацца яна магла толькі з "Божай волі". Ніякіх юрыдычных інстытутаў, якія замацоўвалі зносіны паміж соцыюмам на гэтым узроўні не існавала. А гэта абазначае, што метрычныя кнігі, будучы культавымі актамі, адначасова станавіліся і актамі юрыдычнымі, а святар канфесіі - асобай з юрыдычнымі правамі кантролю і ўліку грамадзянаў на месцы. На царкву перакладалася частка функцый дзяржаўнай цывільнай улады. Гэта сталася неабходным з-за пастаяннага прыросту насельніцтва і патрэбы планавання дзяржаўных сістэмаў падаткаабкладання і вытворчасці прадукцыі. Вядома, што на месцах для ўліку павінен быў быць чалавек адукаваны, а ў эпоху татальнага непісьменства толькі святары хоць колькі адпавядалі гэтаму патрабаванню.

У Рэчы Паспалітай (і ВКЛ непасрэдна) і Расейскай Імперыі культ хрысціянства меў такую ж сілу, як і юрыдычнае права. У касцёлах ВКЛ метрычныя кнігі з'явіліся ў 16-м стагоддзі з ініцыятывы каралевы Боны Сфорцы. У праваслаўных цэрквах - некалькі пазней. Так, Л.В. Елпацьеўскі адзначыў, што найбольш старажытнымі дакументамі гэтага парадку з'яўляюцца кнігі, што захоўваюцца ў архівах БССР у Менску і датуюцца пачаткам XVII стагоддзя. Аднак метрычных кніг з 16-га і першай паловы 17-га стагоддзя захавалася вельмі мала - былі знішчаныя або пахаваныя і не знойдзеныя падчас "Патопу" (вайны паміж Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай 1654-67 гг.). Так найстарэйшая кніга, якая захавалася ў Лідскім фарным касцёле "Кніга нарадзіўшыхся з 1664, траўня 11 па 1690, траўня 21". Ва ўніяцкіх цэрквах ВКЛ метрычныя кнігі з'явіліся ў пачатку 18 стагоддзя (больш раннія не знойдзены). Грунтоўнае даследванне па гісторыі касцельных і царкоўных метрычных кніг ВКЛ пакуль па факту не зроблена.

Парадокс метрычных кнігаў заключаецца ў тым, што прававая моц і актуальнасць інфармацыі, якая змяшчаецца ў іх, не згубілі сваю сілу і на сённяшні дзень. Пры складанні радаводу індывіда звяртаюцца да запісаў у метрычных кнігах. Гэта абазначае, што запісы маюць прававую моц.

Увогуле, метрычныя кнігі - гэта комплекс дакументаў, якія змяшчаюць запісы аб грамадзянскім стане насельніцтва пэўнага рэлігійнага прыходу за некаторы час. Па сутнасці метрычныя кнігі - гэта папярэднікі актаў грамадзянскага стану. Але не трэба ставіць паміж імі знак роўнасці, бо калі метрычныя кнігі - гэта грамадзянска-рэлігійныя акты, якія вяліся па сваіх канонах у межах канфесіяў, то акты грамадзянскага стану набылі ўсеагульны характар у сувязі з негатыўнымі адносінамі грамадзянскіх уладаў (дакладна вядома, што ў Францыі метрычныя кнігі былі замененыя актамі грамадзянскага стану ў 1791 г.) у тым ліку і рэжыму бальшавікоў да рэлігійнага культу. Метрычныя кнігі ёсць адна з самых устойлівых дакументных сістэмаў.

Звесткі, якія змяшчаюцца ў метрычных кнігах - гэта адлюстраванне ўзаемадзеяння чалавека з прадстаўнікамі рэлігійнага культу і грамадствам непасрэдна. Усе навукі гуманітарнага цыклу займаюцца вывучэннем чалавека ў яго ўзаемадзеянні з сацыяльным асяродкам, а гэта значыць, што метрычныя кнігі ёсць вельмі важнай крыніцай даследванняў гістарычнай навукі непасрэдна, бо яны змяшчаюць як персанальныя дадзеныя, так і дадзеныя малых і вялікіх групаў. Упор на метрычныя кнігі робіцца ў такіх спецыяльных гістарычных дысцыплінах, як, напрыклад, генеалогія, гісторыя ментальнасці. Апроч таго, некаторыя метрычныя кнігі ўтрымоўваюць запісы аб гісторыі прыходу, што дае нам важныя звесткі для вывучэння гісторыі ў лакальным яе зрэзе.

Прычым некаторыя даследчыкі лічаць, што адным з асноўных кірункаў душапастырскай дзейнасці цэркваў (касцёлаў, кірхаў і г.д.) Беларусі была рэгістрацыя актаў грамадзянскага стану.

Першы акт датычны метрычных кнігаў на тэрыторыях Рэчы Паспалітай быў напісаны Кіеўскім і Галіцкім мітрапалітам Пятром Магілай у 1646 годзе

на метрапалітанскім саборы, рашэннем якога было зацверджана, што кожны святар мае абавязак весці метрычныя кнігі. Але, у той жа час, складальнікі энцыклапедычнага слоўніка падкрэсліваюць, што гэта была спроба "ведения правильных приходских книг". Значыцца, да 1646 існавалі таксама "не правільныя" прыходскія кнігі. Калі быць больш дакладным, гэта абазначае - да 1646 году на тэрыторыях Рэчы Паспалітай вяліся метрычныя кнігі, але вяліся яны нерэгулярна і несістэматычна. Нажаль, такіх ранніх кнігаў нам не ўдалося знайсці ні ў вопісах Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь, ні ў вопісах Гістарычнага архіву Беларусі ў Гародні.

Першы акт, датычны метрычных кнігаў Расіі, датаваны 1667 годам - калі пастановай Ніканаўскага царкоўнага сабору святарам было прапанавана весці метрычныя кнігі.

Першы заканадаўчы акт аб метрычных кнігах на этнічных тэрыторыях Беларусі быў прыняты толькі ў 1667 годзе і адносіўся ён да уніяцкай царквы - гэта быў час кіравання мітрапаліта Цыпрыяна Жахоўскага. Вядома, што ўніяцкая царква злучала ў сабе традыцыі і каталіцкай, і грэцкай цэркваў, таму цалкам натуральным выглядае той факт, што заканадаўчыя акты адносна метрычных кнігаў каталіцкіх касцёлаў і праваслаўных цэркваў былі прынятыя прыкладна ў той жа час. Раней яны з'явіцца не маглі, бо гэтыя дадзеныя патрэбныя перш за ўсё дзяржаве, але не культу, а дзяржава была адна. Вядома, што пасля Брэст-Літоўскай уніі 1596 году, пачалося масавае пераахрышчванне сялянства ў новую плынь хрысціянства. Некатораму ціску былі падвергнутыя праваслаўныя. Чаму так? Бо тагачасная Вільня, роўна як і Масква, і Кіеў, прэтэндавала на статус збіральніка славянскіх земляў і пагроза з боку прамаскоўскі арыентаванага праваслаўнага кліру была значная. Факт злучэння рэлігійных плыняў у адну можна разглядаць з боку ўніфікацыі культавай дакументасістэмы, што вядзе да ўдасканалення метадаў і сродкаў культавага справаводства, выпрацоўцы новых канцэпцый вядзення дакументаў, пераймання ўсіх лепшых метадаў з першародных рэлігійных плыняў.

Заўважым, што ў Расейскай імперыі такі закон паўторна быў прыняты з боку цывільнай улады - у 1722 годзе Пётр I загадаў весці метрычныя кнігі ў імперыі. Гэта вынікае з даследвання Д.Н. Антонава, І.А. Антонава "Метрические книги России 18-начала 20 века". Калі быць больш дакладным, абавязак весці метрычныя кнігі быў замацаваны за святарамі Пятром I дадаткам да Указу аб "Прибавлении к духовному регламенту".У Рэчы Паспалітай, як мы бачым, працэс увядзення абавязковай метрыфікацыі грамадзянскай супольнасці абдываўся быццам бы толькі праз пастановы культавых органаў (аднак не будзем забываць каралеву Бону Сфорцу), але гэтыя пастановы не выконваліся належным чынам, што падкрэслівае меншую залежнасць царквы ад цывільнай улады гэтага перыяду і цывільнай улады ад царквы часоў кіравання папярэдніх кіраўнікоў.

Высокі статус метрычных кнігаў падкрэсліваецца тым, што ў Расейскай імперыі вядзенне метрычных кнігаў кантралявалася кансісторскаю ўладай, а пасля нават і паліцыяй.

Паводле пастановаў Замойскага сабору ў 1722 годзе ў друкарні Супрасльскага базыльянскага кляштара на старабеларускай мове была выдадзена кніга "Собрание припадков краткое и духовным особам потребное", у якой замацоўваліся правілы запаўнення метрычных кнігаў хрышчэння і шлюбаў.

Прыкладна ў гэты ж час адбылася спроба замацаваць трывалы фармуляр запаўнення кнігаў.

Фармуляр метрычнай кнігі канца 18 стагоддзя можна ўмоўна падзяліць на некалькі істотных раздзелаў:

- Храналагічны раздзел;
- Геаграфічны раздзел (у межы парафіі, як правіла, уваходзіла шмат населенных пунктаў);
- Раздзел з інфармацыяй аб асобе-аб'екце запісу.

Калі браць ва ўлік усю метрычную кнігу з запоўненым фармулярам, а не асобную старонку, то гэтыя раздзелы аб'ядноўваюцца па меры запаўнення інфармацыяй у інфармацыйныя блокі.

Чым большая запоўненнасць раздзелаў фармуляра метрыкі інфармацыяй, тым больш гэтая інфармацыя ўзаемазвязаная.

Так, першапачаткова геаграфічны раздзел у метрычных кнігах як правіла не вёўся, але пазней, з павелічэннем колькасці насельніцтва і неабходнасцю статыстычнага ўліку з мэтай падлікаў, пачаў весціся.

Асабліва цеснай становіцца ўзаемасувязь "храналогія-асоба", якая дае магчымасці праглядаць элементы сацыяльнай гісторыі. Так, напрыклад, узаемасувязь "храналогія-асоба" адсочвае змену дамінавання персанальных характарыстыкаў асобы для розных гістарычных перыядаў.

Па меры развіцця сацыяльных зносінаў унутры грамадства ў метрычнай кнізе з'яўляюцца новыя запісы ў блоку з інфармацыяй аб асобе, як то нацыянальнасць, прафессія. Знікаюць запісы аб саслоўнасці і канфесіі. Па меры паступовага ўраўнаважання гендэрных правоў, мы можам пабачыць узрастаючую ролю жанчыны ў жыцці грамадства.

У 18 стагоддзі, ужо пад уладай Расейскай імперыі была ўніфікаваная форма запаўнення метрык, рэгламентаваныя абавязкі святароў і наладжаны сталы кантроль за вядзеннем гэтых дакументаў. На глебе сінодскага, а значыць асабістага імператарскага ўказу 1775 году, метрыкі атрымалі статус актаў стану.

Прынамсі, закон, які адносіўся да метрычных кнігаў парафіяў каталіцкага веравызнання, а Ішчалнаменавіта каталіцкая парафія, быў прыняты ў 1826 г.

Пад фармулярам мы разумеем бланк, мадэль збудавання дакумента, якая рэгламентавала яго выкарыстанне.

Цягам усяго 18 стагоддзя ўжыванню сістэматычнага дакументавання метрычных кнігаў надзялялася шмат увагі, сістэматычнае дакументаванне ішло разам з развіццём фармуляра кнігі. Метрычныя кнігі мелі досыць статычны фармуляр, што склаўся пасля

сабору 1724 года і меў дзве сур'ёзныя змены: ў 1779 годзе і ў 30-ых гадах XIX ст. Падкрэслім, што ў выніку далучэння тэрыторыяў Беларусі да земляў Расейскай імперыі, дакументы прыходаў і парафіяў розных веравызнанняў уніфікаваліся і сістэматызаваліся. Мы не знайшлі ніводнага дакумента, датычнага Рэчы Паспалітай, які б адзначыў уніфікацыю і стандартызацыю дакументакомплексу, які мы даследуем.

Варта заўважыць, што працэсы ўніфікацыі і стандартызацыі праходзілі досыць марудна і павольна. Метрычныя кнігі не заўсёды аднолькава вяліся нават у межах аднаго павету.

Так, разглядаючы фотакопію запісу аб нараджэнні аднаго з генералаў Парыжскай камуны Валера Антонія Урублеўскага ад 22.12.1836 году, зробленную ў метрычнай кнізе Жалудокскага парафіяльнага касцёла [11, с. 30] мы пабачылі, што тэкст запісу прапячатаны трыма пячаткамі - першая, верхняя пячатка з выявай імперскага арла. Такая пячатка была ўласцівая ўсім метрычным кнігам і, наколькі вынікае з нашага даследвання, ставілася ў канцылярыі. Так, да прыкладу, мы можам спаслацца на метрычную кнігу ад 1873 году Ішчалнскага прыходу

Але дзве іншыя пячаткі нам не ўдалося разгледзець з прычыны дрэннае якасці фоткакопіі. Метрычную кнігу Жалудокскай парафіі за 1836 год нам таксама не ўдалося знайсці. Але ні ў якой іншай кнізе мы падобнага не знайшлі. Таму лічым, што першая з пячатак - гэта ўласна парафіяльны знак, другая - пячатка шляхецкага роду Урублеўскіх.

Гэта абазначае, што ў перыяд да 1826 (а ў некаторых парафіях - і пазней) метрычныя кнігі вяліся ў вольнай форме, бо правілы іх вядзення былі ўведзеныя пазней, а ўніфікацыя і стандартызацыя вялася вельмі павольна і марудна.

Выява гербавага дзяржаўнага арла Расейскай імперыі падкрэслівае прававы статус метрычных кнігаў.

Кніга "Метрические книги России XVIII - начала XX" расейскіх даследчыкаў Д.Н.Антонава, І.А Антонова, а таксама іх іншыя працы прысвечаныя праблеме па сутнасці з'яўляецца фундаментальным матэрыялам у вобласці даследвання метрычных кніг Расейскай імперыі. Падобных працаў не існуе ў Беларусі як і на ўсёй тэрыторыі СНД. Гэтая манаграфія нам цікавая тым, што ў абазначаны ў назве кнігі час тэрыторыі Беларусі ўваходзілі ў склад Імперыі, а значыцца там падаюцца абагульненыя звесткі, якія ў прынцыпе прымяняльныя да беларускіх метрыкаў.

Артыкул Лісейчыкава Д.В. "Метрычныя кнігі ўніяцкіх цэркваў Беларусі XVIII ст.: асаблівасці складання і захавання" распавядае аб метрыках грэка-каталікоў і цікавы нам у тым аспекце, што гэта бадай адзіная беларуская праца, якая ставіць у цэнтр даследвання метрычныя кнігі, няхай і з архівазнаўчага погляду.

Артыкул "Метрычныя кнігі" ў энцаклапедычным слоўніку Брокгаўза і Ефрона, дае кароткі агульны нарыс аб метрыках на тэрыторыях Расейскай імперыі і замежжа. Усе астатнія манаграфіі, артыкулы і крыніцы, на якія абапіраецца праца, носяць дапаможны характар.

На сённяшні момант метрычныя кнігі Беларусі з'яўляюцца адной з самых масавых гістарычных крыніцаў, бо кожны павет, кожная парафія захавала іх у належным стане. Вядома, хрысціянскія святары беражна адносіліся да кожнага дакументу ва ўлонні хрысціянства. Але, адначасова, гэта і самая недаследванная крыніца па гісторыі Беларусі. Прынамсі, мы не знайшлі ніводнай працы, якая б цалкам і непасрэдна апісвала метрычныя кнігі. Збольшага яны ўзгадваюцца фрагментальна.

## ПРАБЛЕМА АРХІЎНАГА ЗАХАВАННЯ МЕТРЫЧНЫХ КНІГ НА ПРЫКЛАДЗЕ ДАКУМЕНТАЎ ІШЧАЛНСКАЙ ПАРАФІІ

Кожны дакумент, з'яўляючыся прадуктам прычынна-выніковых сувязяў, захоўвае сваё генетычнае адзінства з гістарычнай рэальнасцю, якая яго стварыла. Сэнс жыцця дакумента ў архіве заключаецца ў патэнцыйнай магчымасці гістарычнай рэканструкцыі падзеяў і фактаў, якія сталі прычынай яго з'яўлення. Менавіта з гэтай прычыны важна захаваць дакумент у кантэксце рэаліяў мінулага, паблізу ад тэрыторый яго паходжання. Неабгрунтаванае штучнае аддаленне дакумента ад гістарычнай тэрыторыі разрывае сувязь з дакументным кантэкстам, зніжае яго патэнцыял, прыбядняе культурны фонд тэрыторыі.

З аддзяленнем царквы ад дзяржавы функцыя епархіяльнага кіравання перайшла ў вядзенне епархіяльных саветаў. Святары давалі падпіску аб невядзенні метрычных кнігаў. Такім чынам метрыкі перайшлі ў разрад скончаных справаў, якія належаць перадачы на далейшае захаванне. (Тым не менш кнігі вяліся ў большасці касцёлаў бесперапынна, толькі падчас не ўсе запісы рабіліся. На сёння поўнамаштабнае вядзенне метрычных кніг адноўлена, хаця статыстычныя і ўліковыя фукцыі яны практычна выконваць перасталі.)

Найменне заканамернасці непазбежнай страты дакументам першапачатковай прававой функцыі, дзеля якой ён ствараўся ва ўмовах гістарычнай рэчаіснасці, дазваляе аддзяліць дакумент ад архіўнага дакумента як патэнцыяльнай гістарычнай крыніцы з усімі наступствамі, якія звязаныя з набыццём ім уласцівасцяў публічнасці.

То бок, метрычныя кнігі як прававыя дакументы былі неабходныя ў той час, калі ва ўстановы, якія захоўваюць паданы комплекс дакументаў, паступалі запыты з мэтай абароны грамадзянскіх правоў насельніцтва Беларусі і Ішчалны ў прыватнасці. Такім чынам на дадзены момант, калі разважаць лагічна, метрыкі ператварыліся з дакументаў прававых ва ўласна гістарычную крыніцу, якая становіцца аб'ектам даследвання гісторыка.

Цыркуляр НКУС ад 18.11.1919 патрабаваў ад усіх акружных аддзелаў органаў запісаў актаў грамадзянскага стану з архіваў былых духоўных кансісторыяў забраць у сваё вядзенне ўсе метрычныя кнігі і дакументы, якія іх суправаджаюць за перыяд з 1863 году і пазней. Фармальна гэты цыркуляр пачаў дзейнічаць на тэрыторыі Заходняй Беларусі з канца 1939 года

Такім чынам атрымоўваецца, што пачынаючы з 1919 года раздзяліліся месцы захавання кнігаў. Сыходзячы са стану краіны, якая знаходзілася ў становішчы грамадзянскай вайны з 1917 па 1923 гг., мы можам сказаць, што гэта фактычна прывяло да стратаў найкаштоўнейшага комплексу дакументаў па генеалогіі і дэмаграфіі. Немагчымасць стабілізаваць сітуацыю ў вышэйшых колах кіравання і эканомікі прывяла да немагчымасці стабілізацыі сітуацыі ў архіўнай справе.

Наогул даследчыкамі былі пазначаныя наступныя памылкі, якія нярэдка дапускаліся супрацоўнікамі ведамасных архіваў пры захаванні метрычных кнігаў: раз'яднанне прыхадскога экзэмпляру метрычных кніг пагадова, аб'яднанне экзэмпляраў метрычных кнігаў у адзін. Знішчэнне пераплёту вокладкі.

На дадзены момант у структурах ЗАГСаў знаходзяцца на захаванні дакументы з 1940 году, то бок метрычныя кнігі, у тым ліку і кнігі Ішчалнскай парафіі, былі перададзеныя ў архіўныя ўстановы ў выпадку, калі яны знаходзіліся на захаванні. Адбылося драбленне гістарычнага комплексу, які набывае сваю каштоўнасць толькі пры ўмовах цэласнасці.

Па гэтай прычыне на сённяшні момант роля метрычных кнігаў у вывучэнні сацыяльнай гісторыі прыніжаная, і іх выкарыстоўваюць толькі ў генеалагічных мэтах, найчасцей за ўсё - у непрафесійных. Такім чынам можна сказаць аб фактычнай немагчымасці даследвання метрычных кнігаў Ішчалнскай парафіі са спасылкай на 100-адсоткавую дакладнасць даследвання.

Дзе знаходзіцца згубленная частка спадчыны метрычных кнігаў? Як мы ўжо сказалі - часткова знішчаная ў вогнішчах войнаў, рэпрэсіяў, ідэалагічных чыстак. Але вядомыя іншыя прыклады - выяўлення і рэстытуцыі архіўных дакументаў на тэрыторыю Беларусі. Так, у 2010 годзе была вернутая раней невядомая метрычная кніга, дакладней- кансісторскі экзэмпляр метрычнай кнігі Ішкальдскай парафіі за 1759 - 1807 гг. З гэтага вынікае, што існуе практычная патрэба ў выяўленні і вяртанні дакументаў у Беларусь, прычым у агульным сэнсе, калі мы разглядаем сябе як цывілізаванае грамадства, якое ўсведамляе, што для аналізу сучаснасці і будучыні неабходна вывучаць мінулае. Але ў канкрэтным сэнсе падыход да праблемы бачны ўжо з зусім іншага боку: немагчыма захаваць стандартнымі спосабамі ўсе кнігі, якім пагражае вынішчэнне. З прычыны недахопу сродкаў і тэмпаў разбурэння паперы ў неправільных умовах захавання за лепшае бачыцца спроба захаваць тое, што на сённяшні момант ужо знаходзіцца ў архівах, не пачынаючы рэстытуцыю. Тым больш, паўстаюць прававыя і маральна-этнічныя аспекты міжнародных стасункаў у галіне не столькі архівазнаўства, колькі ў галіне рэлігійных інстытутаў.

Як наступства пастаянных перамяшчэнняў, рэарганізацыяў, драбленняў архіўных установаў у БССР, мы маем фактычнае знішчэнне ролі гістарычнай крыніцы па сацыяльнай гісторыі як рэальнасці гісторыі Беларусі. Адарваныя ад гістарычнай тэрыторыі кнігі Ішчалнскай парафіі фактычна маглі быць часткова знішчанымі як тыя, што не маюць гістарычнага кантэксту дакументы, то бок пасля перадачы метрык у органы ЗАГСаў яны пазбавіліся свайго гістарызму.

Па сыходзе 75 год метрычныя кнігі Ішчалнскай парафіі былі перададзеныя ў Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гародні, што фактычна і кардынальна парушае геаграфічны прынцып. Ні Лідскі павет, ні тым больш Ішчалнская воласць, прадстаўленая парафіяй, гістарычна не ўваходзілі ў Гарадзенскую вобласць, якая была ўтвораная Загадам ад 20 верасня 1944 году.

Фактычна, дакументы былі перададзеныя ў архіў па тэхнічных, а не гістарычных прынцыпах, што ператварае жывую гістарычную крыніцу ў сухі статыстычны набор звестак.

Метадалогія крытыкі метрычнай кнігі як статыстычна-дэмаграфічнай крыніцы была зацверджаная ў XIX стагоддзі працай Д.П. Жураўскага, які даў крыніцазнаўчы аналіз метрычных кнігаў, разглядаючы іх як статыстычную крыніцу.

Сухое архіўнае выкарыстанне метрычных кніг у генеалагічным плане без выкарыстання дапаможных крыніцаў у выглядзе кліравых ведамасцяў, інвентароў, гросбухаў, нарысаў і вопісаў з'яўляецца нелагічным і

неэфектыўным выкарыстаннем крыніцы. Практычна метрыка ўтрымоўвае вялікую колькасць інфармацыі, да якой прымяняльныя матэматычныя метады даследвання. Дадзеныя метрычных кнігаў у абавязковым парадку вартыя да ўвядзення іх у шырокае навуковае даследванне ў сінтэзе з іншымі крыніцамі па гісторыі Беларусі.

Але варта заўважыць, што дэмаграфічны аддзел метрычных кнігаў не ляжыць мёртвым грузам і інфармацыйная плынь "кніга-даследчык" пастаянна жыве.

Што датычна месцаў захавання метрычных кніг і дакументаў, якія іх суправаджаюць на прыкладзе Ішчалнскай парафіі, то на дадзены момант выдзяляюцца два месцы - НГАБ у г. Гародні і Ішчалнскі касцёл Святой Троіцы.

Касцёл з'яўляецца лепшым месцам захавання архіўных культавых дакументаў. Бо кантроль за станам крыніцаў вядуць асобы зацікаўленыя гэтымі дакуменамі не як аб'ектам працы, а як аб'ектыўным доказам гістарычнага дзеяння і законнасці існавання каталіцкага касцёла на Беларусі, пацверджанай актам вядзення дакументацыі такога ўзроўню. Архіву як зацверджанага комплексу дзеянняў, якія праводзяцца ў мэтай захавання дакументацыі няма. Але дакументы захоўваюцца ў досыць якасным стане.

Архіўныя ўстановы Беларусі штучна звужаюць сферы выкарыстання метрычных кнігаў, знішчаючы іх патэнцыял і зводзячы інфармацыйную складовую гістарычнай крыніцы ў непрафесійны бок.

Абароненыя інструкцыямі і палажэннямі, чыны закрываюць доступ да вывучэння самай масавай крыніцы па сацыяльнай гісторыі Беларусі, што ў агуле абмяжоўвае магчымасці даследчыкаў.

Адзіным дасяжным для вывучэння афіцыйным архіўным дакументам з'яўляецца “Адзіны міжфондавы ўказальнік метрычных кнігаў каталіцкіх паветаў”, якія знаходзяцца ў Нацыянальным Гістарычным Архіве Беларусі ў г. Гародні.

Прааналізаваўшы гэты “Адзіны міжфондавы ўказальнік метрычных кнігаў каталіцкіх паветаў”, мы можам гаварыць аб страце значнай часткі кніг фондаў Ішчалнскай парафіі.

На сённяшні момант у Нацыянальным Гістарычным Архіве Беларусі ў Гародні знаходзяцца на захаванні наступныя кнігі Ішчалнскай парафіі:

1. Аб народжанных (у рэальнасці прааналізаваўшы змест кнігаў мы можам сказаць, што ў дадзеных метрычных кнігах змяшчаюцца запісы аб ахрышчаных):

1791-1814, 1834-1842,
1844-1869, 1871,
1873, 1878-1924 гг.

2. Аб узяўшых шлюб:

1834-1842, 1844-1869,
1871, 1873,
1878-1909, 1914 гг.

3. Аб памерлых:

1834-1842, 1844-1869,
1871, 1873,
1878-1907, 1909, 1914 гг.

Даследчык метрычных кнігаў Расіі Антонаў адзначае шматлікія факты неапраўданага зліцця прыхадскога і кансісторскага экзэмпляраў у фонд кансісторыі, альбо аб'яднаны фонд цэркваў. І сапраўды, ва ўказальніку не адзначаны, якія экзэмпляры кнігаў знаходзяцца на захаванні. Канешне, прыходскі і кансісторскі экзэмпляр метрычных кнігаў утрымоўваюць у сабе паўтаральную інфармацыю, але, што важна адзначыць, яны не з'яўляюцца дублікатамі адна адной, паколькі кожны экзэмпляр мае сваю гісторыю ўзнікнення і фармавання, сутнасныя адрозненні ў кадыкалогіі, розныя інфармацыяна-пошукавыя мадэлі, крыніцазнаўчыя адрозненні, якія выяўляюць "пераварот" арыгіналу і спіску. Апроч таго, што важна, гэтыя экзэмпляры мелі розную ступень юрыдычнай значнасці

Наогул, інфармацыя, якая месціцца ў метрычных кнігаў досыць пасіўная і не мае вялікай ролі для даследчыкаў адарвана ад кантэксту, менавіта таму комплекс метрычных дакументаў не павінны складацца з адных метрычных кніг аб нараджэнні, пахаванні, шлюбе - ён павінны складацца з наступных частак, якія, згодна прынцыпаў фандзіравання павіны выдзяляцца ў асобны фонд па геаграфіі:

- Метрычныя кнігі як асноўная крыніца,
- Метрычныя выпіскі,
- Метрычныя экстракты,
- Ведамасці аб прыходзе і кліравыя ведамасці,
- Касцельныя Інвентары

Між тым, гістарычны вопіс архіву Ішчалнскай парафіі, датаваны 1936 годам, сведчыць аб тым, што існаваў архіў, "w zakrystji w szafie", які меў наступныя дакументы:

- Інвентары з году 1717 (у падвойным экзэмплары на лацінскай і польскай мовах за гады 1724, 1731, 1763, 1776, 1783, 1801, 1820, 1821; інвентары за 1844, 1856, 1862, 1872, 1875, 1884, 1888, 1893, 1895, 1897, 1899 (у двух асобніках, 1902 і 191? (лічбу не бачна);
- Метрычныя кнігі шлюбаў і хрышчэння, якія вяліся з 1713 году;
- Метрычныя кнігі пахаванняў, пачынаючы з 1794 году;
- Кнігі перадшлюбных споведзяў з 1827 году;
- Кнігі карэспандэнцыі з 1846 году;
- Спісы парафіяльныя прыхаджан з 1852 году;
- Акты розных справаў з 1880 году.

Разам прыблізна 70 розных кнігаў і каля 30 асобнікаў паадзінкавых інвентароў, пачкаў з актамі і г.д.

Улічваючы тое, што вопіс быў складзены ў 1936 годзе, 70 адзінак кніг - няпоўны камплект дакументаў, калі браць да ўвагі той факт, што першы ўспамін аб вядзенні метрычных кнігаў у дадзеным выпадку датуецца 1713 годам. Нажаль больш падрабязных вопісаў не існуе.

Цікавы той факт, што метрычныя кнігі шлюбаў і хрышчэння аб'яднаныя ў адну групу крыніцаў, а метрычныя кнігі пахаванняў выдзяляюцца ў другую групу. Магчыма, гэта выклікана тым, што на больш

ранніх стадыях станаўлення парафіяльнага справаводства кнігі метрыкаў аб пахаванні не вяліся і замяняліся інвентарамі, у якіх падавалася інфармацыя аб пахаваннях на могілках.

Між тым у кнізе “Szkic historyczny Parafii” (“Гістарычны нарыс аб парафіі”) напісана, што дакладнае складанне гістарычных звестак аб парафіі ўскладняецца тым фактам, што пераважная колькасць актаў і іншых дакументаў былі панішчаныя пажарам у 1714 годзе. Аўтары нарысу адзначаюць, што акт пажару ускладняе задачу гісторыяапісання Ішчалнскай парафіі і зводзіць колькасць гістарычных дадзеных фактычна да нуля.

Гэта часткова тлумачыць адсутнасць метрычных кнігаў за ранейшы час.

Да страты вялікіх комплексаў дакументаў маглі спрычыніцца наступныя факты.

У вопісе парафіі Ішчалнскай указана, што касцельная маёмасць і землі былі сканфіскаваныя на карысць праваслаўных ў 1844 годзе, ва ўладанні плябаніі засталося толькі 33 дзесяціны зямлі. Фактычна, у гэты час маглі быць сканфіскаваныя і знішчаныя метрычныя кнігі.

У 18 стагоддзі Ішчалнская парафія пабачыла негатыўныя вынікі паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Атрады Хлявінскага забралі касцельнае срэбра, аклад з абраза Маці Божай і некаторыя іншыя каштоўнасці. Дакументы, якія мелі філіграні, пячаткі і іншыя пазнакі подлініка, маглі быць умоўна аднесеныя да катэгорыі каштоўнасцяў і скрадзеныя жаўнерамі Хлявінскага.

У студзені (месяц напісаны невыразна) 1919 года паміж Польскім войскам і Чырвонай арміяй адбыліся сутычкі ў Ішчалне і блізпрылеглых вёсках. З даследвання М.Ф. Шумейкі, К.І. Козака вядома, што ў часы безуладдзя і войнаў архівы выкарыстоўваліся не па прызначэнні і дакументы вынішчаліся неадукаванымі жаўнерамі, таму існуе досыць вялікая верагоднасць таго, што частка метрычных кнігаў Ішчалнскай парафіі была панішчаная сіламі польскай і савецкай арміяў.

Міжфондавы ўказальнік практычна ўказвае на адсутнасць вялікай часткі метрычных кнігаў параўнальна з гістарычным вопісам. Страты метрыкаў складаюць каля 90 адсоткаў ад агульнай колькасці кнігаў, якія павінныя былі існаваць.

На сённяшні момант праблема захаванасці метрычных кнігаў беларускіх паветаў даследчыкамі не падымалася, таму казаць абагульнена аб захаванасці метрычных кнігаў Беларусі, тым больш падаваць вышэй указаную лічбу як характэрную немагчыма.

На прыкладзе метрычных кнігаў Ішчалнскай парафіі мы бачым, што на практыцы забыты апавядальны раздзел метрыкаў, што і з'яўляецца прычынай прыніжэння іх ролі. Апавядальны раздзел быў абагульнены ў "Нарыс аб Парафіі Ішчалнскай" - рукапіс на польскай мове, зроблены скорапісам у 1936 годзе, не захоўваецца ў архівах, быў знойдзены ў касцёле Святой Троіцы вёскі Ішчална.

Навогуле, з'ява так званых "нарысаў" у католікаў і "царкоўных летапісаў" у праваслаўных узнікла адносна позна ў сярэдзіне XIX ст. З'яўленне "Нарысу аб Парафіі Ішчалнскай" у 1936 годзе не было выклікана нейкімі сацыяльнымі патрэбамі, бо фактычна гэта проста перапісаны ў скарочаным выглядзе матэрыял з Ішчалнскіх метрычных кнігаў. Пацверджанне таму мы знаходзім у шматлікіх спасылках у тэксце на метрычныя кнігі і інвентары. Лагічнай сацыяльна-гістарычнай падставы знайсці не ўдалося. Калі з'яўленне такіх дакументаў на глебе метрычных кнігаў з'яўлялася цалкам лагічным у пачатку ХХ стагоддзя для касцёлаў і цэркваў усходу Беларусі з прычынаў адносінаў бальшавікоў да рэлігіі, культу і культавых дакументаў, якія маглі быць у любы момант сканфіскаванымі, то ў сітуацыі з Ішчалнай усё больш чым незразумела - парафія на момант стварэння знаходзілася ў Заходняй Беларусі пад патранатам каталізаванай і рэлігійнай Польшчы.

Наогул, у першыя гады ўлады бальшавікоў гэты від дакументаў нідзе не быў пазначаны як важны для захавання ў архівах, таму ў большасці, трэба думаць, нарысы былі знішчанымі, і ў нашыя рукі патрапіў сапраўды карысны дакумент.

Калі мы звернем увагу на структуру "Нарысу аб парафіі Ішчалнскай", то пабачым, што ён складаецца з наступных частак:

- Opis Parafii Iszczolnskiej;
- Szkic historyczny Parafii;
- Opis Kosciola:
  - strona zewnetrzna,
  - cmentarze grzebalne,
  - urzadzenie kosciola,
  - urzadzenie newnetrzne kosciola,
  - zabytki - rzezby,
  - zabytki - malarstwa,
  - malawidla scienne,
  - archiwum,
- Wykaz miejscowosci parafji Iszczolnskiej dane z roku 1930.

Пры гэтым пры даследванні нарысу становіцца бачным, што прыходскія святары фіксавалі пажары, няшчасныя выпадкі, надзвычайныя здарэнні, эпідэміі хваробаў. Апісваецца эпідэмія "гішпанкі", неадменнай для Беларускіх земляў.

Звесткі падаюцца ў сугуба навуковым кантэксце - з дапамогай фіксацыі гістарычных фактаў, абсалютна выключаючы любыя магчымасці дадаць да апісання ўласныя роздумы.

Гэта цалкам адпавядае апісанню царкоўных летапісаў Смаленскай епархіі, зробленных Антонавым, што дае нам падставу гаварыць аб існаванні ўніфікаванай сістэмы гістарычнага летапісання каталіцкіх і праваслаўных прыходаў у XIX - XX стст.

З прычыны страты вялікіх аб'ёмаў метрычных кнігаў важнымі дакументамі становяцца інвентары, пахавальныя каштарысы і кліравыя ведамасці, якія сканфіскаванымі і перададзенымі ў архіў не былі. У інвентарах падаюцца важныя звесткі аб пахаваннях на парафіяльных могілках пры касцёле. То бок, яны часткова дублююць інфармацыю, якая месціцца ў кнігах пахавання.

Першыя ўспаміны аб Ішчалнскіх могілках

падае нам інвентар за 1782 год. З даўнейшых метрыкаў вынікае, што гэтыя могілкі знаходзіліся паблізу вёскі Масёўцы (заканчэнне назвы напісанае невыразна). Дакументы за 1800 год сведчаць аб існаванні Ішчалнскіх могілак за 600 метраў ад касцёла і за 100 метраў ад Шчучынскага тракту.

На сённяшні момант інвентары, гросбухі, кліравыя ведамасці за XIX - пачатак XX стст. захоўваюцца ў парафіі Святой Троіцы, в. Ішчална, што цалкам адпавядае пасылу аб тым, што культавыя дакументы павінны знаходзіцца ва ўлонні культу, які іх спарадзіў. Толькі ў гэтым выпадку не парушаецца прынцып гістарызму і не знішчаецца крыніцазнаўчая каштоўнасць дадзеных комплексаў дакументаў. Але паўстае пытанне аб неправільных умовах захаваня. Найбольш правільным у гэтым выпадку будзе інвеставанне грошай у стварэнне прафесійных архіўных установаў пры касцёлах, цэрквах, кірхах.

Такім чынам, даследваўшы дакументы, якія датычныя метрычных кнігаў Ішчалнскай парафіі, мы можам сказаць аб неабходнасці коплекснага вывучэння гэтых крыніцаў, а таксама аб патрэбе ва ўключэнні ў фонды метрык нарысаў, кліравых ведамасцяў, інвентароў.

## ВЫЗНАЧЭННЕ МЕТРЫЧНАЙ КНІГІ ЯК КОМПЛЕКСНАЙ КРЫНІЦЫ ПА ГІСТОРЫІ ЛІДЧЫНЫ

Метрычныя кнігі - масавая, складаная, комплексная крыніца, датычная гісторыі Беларусі. Таму ў дадзеным раздзеле мы паспрабуем даць прававую ацэнку запісаў гэтага комплексу дакументаў, адсочым гісторыю яго ўніфікацыі і стандартызацыі.

Перш за ўсё, трэба адзначыць, што метрычныя кнігі Беларусі на сённяшні дзень у асноўным выкарыстоўваюцца для складання радаводаў, бо ў іх змяшчаецца інфармацыя аб насельніцтве, якое кампактна пражывала ў межах парафіі. Радаводы і звесткі аб насельніцтве - гэта вобласць вывучэння генеалогіі і дэмаграфіі, якія можна аднесці да спецыяльныях гістарычных дысцыплінаў, што складаюць сістэму крыніцазнаўства.

Пры вывучэнні любой гістарычнай крыніцы ўзнікаюць дзве галоўныя праблемы пазнання: "рэчаіснасць-крыніца" як адэкватнасць адлюстравання гістарычнай рэчаіснасці і ўмоваў фармавання крыніцы, а таксама "гісторык і крыніца" - як выпрацоўка найбольш эфектыўных метадаў вывучэння крыніцы.

Для таго, каб аб'ектыўна падыйсці да інфармацыі, якая змяшчаецца ў метрычных кнігах, варта зразумець умовы іх фармавання. Бо, як мы падкрэслівалі, метрычная кніга, якая па сутнасці з'яўляецца актам, што замацоўвае факт культавага дзеяння, адначасова становіцца таксама і юрыдычным актам. Прычым трэба разумець, што метрычныя кнігі вяліся зацікаўленымі асобамі - святарамі, якія фанатычна належалі да таго, ці іншага культу, таму склалася сітуацыя, калі юрыдычны акт залежаў ад маральных якасцяў клерыка, адказнага за вядзенне метрыкі, хаця, як мы ўжо сказалі, гэтая асоба была неаб'ектыўнай і фанатычна адданай культу.

Улічваючы небагатую і пасіўную інфармацыю, якая змяшчаецца ў адной асобнай метрычнай кнізе, дадзеныя дакументы варта вывучаць у комплексе, вызначаючы ў вобласць навуковых інтарэсаў метрыкі за некалькі стагоддзяў. Бо дынаміку зменаў у соцыюме, вывучаючы пасіўную крыніцу, можна разгледзець толькі на працяглым адрэзку часу. Гэтыя сацыяльныя зрухі, адсочаныя па метрычных кнігах, можна разглядаць з пункту гледжання сацыяльнай гісторыі, якая паўстала як вынік унутраннага развіцця гістарычнай думкі, збліжэння гісторыі з сацыялогіяй і эканамічнай навукай. Але сацыяльнае пытанне перад даследчыкам гэтага перыяду покуль яшчэ не выразна выдзяляецца з рэлігіі і палітыкі.

Як з'явіліся метрычныя кнігі? Для з'яўлення дадзенага віду дакументаў на тэрыторыях Беларусі стала неабходным наяўнасць наступных умоваў:

- Набыццё асобай дастатковых уласцівасцей гістарычнасці, услед за чым узнікае неабходнасць у персаніфікаваным уліку насельніцтва;
- Узнікненне эканамічнай неабходнасці дзяржавы ў падліку руху насельніцтва;
- Фіскальныя патрэбы;
- Развіццё дзяржаўна-клерыкальнай структуры да досыць эфектыўнага механізму кіравання;
- Пэўны ўзровень пісьменнасці грамады ў цэлым, перадусім - існаванне падрыхтаванага сацыяльнага класу святароў як пісьменных прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці, здольных рэгулярна, сістэматычна і пісьменна весці дадзеныя запісы.

Метрычныя кнігі - гэта публічныя кнігі, карыстаныя з мэтай рэестравых запісаў актаў грамадзянскага стану ў рэлігійных прыходах. У шырокім сэнсе слова метрычныя кнігі - гэта ўвесь комплекс першадакументаў культавай рэгістрацыі і вытворчых ад іх актаў даведкавага тыпу (даведкі, выпіскі, падушныя спісы парафіі, кліравыя ведамасці). У вузкім сэнсе слова - гэта акт дакументавання культавай падзеі адносна прыхаджаніна\групы прыхаджан.

Адсюль вытворнае слова "метрыфікацыя", якое абазначае комплекс мераў па вядзенні актаў грамадзянскага стану ў межах парафіі.

Кожная з метрычных кнігаў падзяляецца на 3 часткі:

- Аб нараджэнні. Уніфікаваны канчатковы фармуляр гэтай кнігі складаўся з графаў: *№, дата нараджэння і хрышчэння, імя і прозвішча, месца жыхарства, канфесія бацькоў і хрышчоных бацькоў, законнасць нараджэння.*
- Аб шлюбе. Уніфікаваны канчатковы фармуляр гэтай кнігі змяшчаў *імя, прозвішча, месца жыхарства, нацыянальнасць, канфесію жаніха і нявесты, у якім узросце бяруць шлюб, дата вянчання, прозвішчы і імёны сведкаў.*
- Аб смерці *(імя, прозвішча, месца жыхарства, узрост памерлага, дата і прычына смерці, месца пахавання)*.

Метрычная кніга заўжды ўяўляе сабою цэласны

комплексны акт, альбо комплекс актаў, таму варта разгледзець яе з боку дыпламатыкі. Дыпламатыка - спецыяльная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае пераважна акты. Метрычныя кнігі, канстатуючы факт нараджэння, шлюбу альбо смерці, надавалі гэтаму факту, як мы ўжо казалі ва ўводзінах, юрыдычны характар, а значыцца з'яўляліся актамі.

Сярод актаў, калі згадзіцца з класіфікацыяй Л.В. Чарапніна, выдзяляюць акты царкоўнага права.

Выконваючы функцыю ўплыву на тыя, альбо іншыя сферы грамадскіх зносінаў, крыніца прымае форму "чыстага", альбо "змяшанага" віду.

У гэтым выпадку мы разглядаем метрычную кнігу як крыніцу змешанага віду, бо з'яўляючыся дакументам царкоўна-прыходскога характару, яна адначасова з'яўлялася і даведкава-статыстычным дакументам. Блізкія па сваёй прыродзе зносіны супольна могуць змешвацца ў дакументазнаўстве ў адзін від дакументаў, што падкрэслівае высокую ролю, ускладзенную дзяржавай на культ.

Варта заўважыць, што царкоўныя кіраўнічыя органы выдавалі ў казённыя палаты спісы памёрлых сялян, што належалі выключэнню з падушнага акладу, ва ўстановы аховы здароўя - спісы дзяцей для прымянення вакцыны супроць воспы. Прычым, як правіла, групавыя спісы фіксавалі толькі мужчынскае насельніцтва - прызыўнікоў, альбо ўласнікаў маёмасці.

Такім чынам, факт вядзення метрычных кнігаў паказвае трансфармацыю дзяржаўна-рэлігійнага светапогляду ў бок удасканалення зносінаў у сістэме дзяржава-культ на карысць дзяржавы.

Між тым, нестабільная палітычная сітуацыя, падзелы Рэчы Паспалітай, частая змена адміністратыўных межаў епархій і месцазнаходжання епархіяльных архіваў прывялі да таго, што вялікая колькасць метрычных кніг была проста фізічна знішчана, а частка была расцярушана па фондах розных установаў.

На нашую думку, шмат метрычных кнігаў каталіцкіх і ўніяцкіх цэркваў былі панішчанымі пасля скасавання царкоўнай уніі, калі ў 1839 годзе па ініцыятыве біскупа Я. Сямашкі былі вынішчаныя тысячы абразоў, дакументаў, кніг, скульптураў. Нажаль, вопісы панішчанай царкоўнай маёмасці не захаваліся.

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь склаў спіс парафіяў па паветах, метрычныя кнігі якіх захоўваюцца ў архівах (адзіны міжфондавы ўказальнік па стану на 2011 год).

Варта заўважыць, што некаторыя дакументы засталіся на захаванні ў дзейных касцёлах.

Вядома, метрычная кніга магла весціся ў некалькіх асобніках.

У архівазнаўстве ёсць вельмі строгае падзяленне метрычнай кнігі на 2 экзэмпляры: уласна прыходская і кансісторская. Пад кансісторыяй мы разумеем цэнтральны орган кіравання парафіяй. Асноўным адрозненнем кансісторскага і ўласна прыхадскога экзэмпляру метрычнай кнігі з'яўляецца іх структура.

Кансісторскі экзэмпляр змяшчаў у сабе метрычныя сшыткі аб нараджэнні, шлюбе, смерці за адзін год па ўсіх прыходах парафіі і налічваў прыкладна 1000 аркушоў. Прыходскі экзэмпляр меў структуру іншую і змяшчаў запісы аб нараджэнні, шлюбе, смерці (кожны з гэтых пунктаў вёўся ў асобны сшытак) пэўнага прыходу за некалькі год.

Даследуючы гістарычную крыніцу, варта вызначыць яе сутнасць.

Метрычная кніга - гэта факт, які зацверджае дзейнасць рэлігійнага культу ў межах юрыдычна-прававой сістэмы дзяржавы. Гэты від дакументаў ужо з'яўляецца сутнасцю дзейнасці культу ва ўмовах павышэння ролі дзяржаўнай арганізацыі.

То бок, атрымоўваецца тафталогія - сутнасць з'яўляецца сутнасцю. Але з іншага боку можна пабачыць сутнасць метрычнай кнігі як сістэму, якая замацоўвае нарэшце юрыдычнае на карысць дзяржаўных інтарэсаў, але не культурніцкі-традыцыйнае права хрысціянскай царквы на існаванне ў межах дзяржавы, у якой у сувязі з павышэннем узроўню палітычнай, сацыяльнай, эканамічнай культуры ўзнікае патрэба ў гэтым замацаванні.

Падрабязна вывучыўшы дакументы, змешчаныя ў метрычных кнігах Ішчалнскай парафіі, мы прыйшлі да вываду, што метрычныя кнігі варта вывучаць у комплексе, а не паасобку, бо яны з'яўляюцца комплекснай масавай крыніцай па гісторыі Беларусі і складаюцца з некалькіх частак: у першай частцы ідуць гістарычныя данныя, датычныя парафіі. У нашым выпадку гісторыя пачынаецца 1515 годам. Апошні раз гістарычна-апавядальная частка метрычных кнігаў Ішчалнскай парафіі была перапісаная ў 1936 годзе, але гэта ўдалося вызначыць толькі са словаў мясцовага ксяндза. Ніякіх іншых дадзеных няма. Вядома, гэта ўсё перапісвалася касцельнымі служкамі, найчасцей самім ксендзам, а не гісторыкамі, таму, магчыма, з кожным перапісам з'яўлялася ўсё больш гістарычных памылак і неаб'ектыўнасцей.

Наступнай часткай комплексу з'яўляюцца непасрэдна запісы аб смерці, шлюбе, нараджэнні. Гэтыя кнігі не перапісваліся, таму можна лічыць, што яны змяшчаюць аб'ектыўную інфармацыю. Тым больш, як мы казалі ўжо вышэй, гэтыя запісы, з'яўляючыся культавымі, адначасова станавіліся і юрыдычнымі, таму мы вывучаем афіцыйны юрыдычны дакумент, які не страціў сваёй актуальнасці і на сённяшні дзень. Пад актуальнасцю інфармацыі мы разумеем яе адпаведнасць сацыяльна-культурным працэссам на дадзены момант.

Трэцяй часткай комплексу метрычных кніг з'яўляецца статыстыка па вёсках прыходу аб колькасці душ насельніцтва, дамоў і г.д. Не абавязкова гэтай статыстыцы надаваць афіцыйны, актуальны характар, бо вялася яна, наколькі гэта становіцца зразумела з даследаваннага матэрыялу, на падставе запісаў аб шлюбе, смерці, нараджэнні. З аднаго боку - святары не былі абавязаныя хадзіць па вёсках і перапісваць насельніцтва, але з іншага боку, як мы пісалі вышэй - царкоўныя кіраўнічыя органы выдавалі ў казённыя палаты спісы памёрлых сялян, што належалі выключэнню з падушнага падатку, ва ўстановы аховы здароўя - спісы дзяцей для прымянення вакцыны супроць воспы.

На падставе вышэйнапісанага яшчэ раз пад-

крэслім, што лічым неабходным разглядаць метрычныя кнігі як комплекс гістарычных крыніцаў змешанага віду, які ў рэтраспектыве выконваў адначасова юрыдычную, статыстычную, рэлігійна-прыходскую функцыі.

Але, што асабліва цікава - афіцыйны юрыдычны дакумент зміяшчаў запісы толькі аб культавых абрадах, а не непасрэдна аб факце нараджэння, стварэння сям'і ці аб шлюбе. Значыцца, калі дзіцё нараджалася памёрлым- яно не было ўнесенае ў кнігу. Маюцца факты ахрышчвання дарослых, запісаныя ў метрычных кнігах аб народжаных. Натуральна будзе дадумаць: калі дзіцё нараджалася і памірала да ахрышчвання, яно не патрапляла ў метрыку, бо не знаходзілася ва ўлонні хрысціянскай царквы.

Але ў той жа час нагадаем, што метрычныя кнігі вяліся святаром, і вельмі вялікую ролю ў змесце гэтых дакументаў займае асоба святара, таму зрабіць глабальны вывад аб сукупнасці імфармацыі, якая змяшчаецца ў метрычных кнігах Беларусі, немагчыма.

Так, калі мы будзем разглядаць самую, здаецца пасіўную частку комплексу метрычных кніг - запісы аб нараджэнні, шлюбе, смерці, то, з аднаго боку падаецца, што крыніца недынамічная, аднавобразная, манатонна-рытмічная. Але вывучэнне рытмаў, заканамернасцей, спосабаў гэтых працэсаў на вялікіх перыядах аказваецца ў глыбокай сувязі са значнымі рытмамі гісторыі.

Такім чынам, працяглы запіс статычных дадзеных, якія павольна адлюстроўваюць гістарычныя змены ў вызначанай лакацыі, на вялікім адрэзку часу паказваюць глабальныя зрушэнні, якія зацвярджваюць гістарычныя змены.

Але дадзеныя метрычных кнігаў, а непасрэдна часткі, якая датычыцца нараджэння-шлюбу-смерці, трэба выкарыстоўваць у комплексе з іншымі гістарычнымі крыніцамі для таго, каб атрымаць дакладную інфармацыю па лакальнай гісторыі, а таксама па сацыяльнай гісторыі.

Так, для таго каб абгрунтаваць нашую думку, мы звяртаем ўвагу на зусім незначны факт, які цесна звязаны з хрысціянскім канфесіяналізмам у гісторыі Беларусі. У зборніку матэрыялаў "Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі: гісторыя і сучаснасць", прысвечанай 70-годдзю НГАБ, быў надрукаваны артыкул спадара Д.В. Лісейчыкава "Метрычныя кнігі ўніяцкіх цэркваў Беларусі 18 ст.: асаблівасці складання і захавання". З артыкула выцякаюць наступныя высновы: уніяцкія святары вольна валодалі беларускай (старабеларускай) мовай, бо пэўны час вялі метрычныя кнігі толькі па-старабеларуску, прычым імёны народжаных пісаліся на беларускі манер: Паўлюк, Змітрок, Пятрусь і г.д. І толькі пасля ўвядзення санкцый з боку ўраду Расейскай імперыі, службоўцы ўніяцкага культу пачалі весці метрыкі на польскай\расейскай мовах.

Вядома, што небяспечнай перашкодай на шляху расеізацыі беларусаў з'яўлялася Ўніяцкая царква, якая вылучала іх сярод палякаў і расейцаў. Грэка-каталікі складалі каля 80% беларускіх хрысціянаў.

Расейскі ўзор праваслаўя ўсталёўваўся на Беларусі праз знішчэнне ўніяцтва [15, с. 90], а, па сутнасці - праз вынішчэнне ўсяго беларускага.

Варта прыгадаць цытаты Віленскага генерал-губернатара М.М. Мураўёва, больш вядомага па мянушках "вешальнік" і "людаед": *"Что не доделал русский штык - доделает русская школа"*.

*"В Северо-Западном крае так называемую мову необходимо свести на ничто, потому что если этого не сделать, она постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этничную самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя..."*

Улічваючы тое, што вядзенне метрычных кнігаў і правілы вядзення было замацаванае за святарамі законамі цывільнага, а не рэлігійнага ўраду, можам яшчэ раз падкрэсліць моцныя беларусафобскія настроі ў Расейскай імперыі.

Нават у такой досыць апалітычнай плыні, як рэлігія, Расейскай імперыя мусіла не дапусціць распаўсюду прабеларушчыны, бо беларушчына вяла беларускі народ да незалежнасці.

Магчыма, гэты невялікі набор інфармацыі, выцягнуты з метрычных кнігаў, дапоўнены іншымі крыніцамі па гісторыі Беларусі падаецца вельмі тэндэнцыйным, але з іншага боку - права на жыццё гэтай тэндэнцыі даказаная гістарычнымі даследваннямі і шматлікімі фактамі.

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ ІШЧАЛНСКАЙ ПАРАФІІ ПАВОДЛЕ МЕТРЫЧНЫХ КНІГАЎ

Дадзеныя, ранейшыя за 1714 год аб Ішчалне вельмі ўмоўныя з прычынаў пажару, які панішчыў большую частку дакументаў, у тым ліку метрычных кніг, інвентароў, нарысаў. Большая частка рэестраў, дакументаў па Ішчалнскай парафіі па стане на 1936 год знаходзілася ў архіве ўніверсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. Месцазнаходжанне рэестраў на дадзены момант невядомае.

У XVI стагоддзі Ішчалнскія землі належалі роду Давойнаў, якія прадалі іх у пачатку XVII стагоддзя Лімантам. У XVIII ст. маёнтак перайшоў да Валоў.

Парафія Ішчалнская паўстала ў 1515 годзе з пабудовы драўлянага касцёла Святой Троіцы на грошы, выдзеленыя Андрэем Давойнай, Шчучынскім старастам. Гэтыя дадзеныя мы можам атрымаць з рэестру 18 стагоддзя, таму іх дакладнасць праверыць цяжка. У 1708 годзе Якуб Пракаповіч, пробашч Ішчалнскі, адбудоўвае касцёл нанова ў камені. Цалкам ён быў адрэстаўраваны ў перыяд з 1755 па 1761 гг. Пад скляпеннямі касцёла захаваліся гербы фундатараў, якія з'яўляюцца карысным матэрыялам для вывучэння генеалогіі. Вопіс касцёла датуе змяшчэнне гербаў пад скляпеннямі 1758 годам.

У Ішчалнскім касцёле на сённяшні момант добра захаваліся гіпсавыя фігуры і барэльефы, датаваныя XVIII стагоддзем.

Значная частка дробнай шляхты Ішчалнскай парафіі паходзіць з Мазовіі і Падлесся, перасеrange на гэтыя тэрыторыі па Люблінскай уніі ў пошуку тан-

най малазаселенай зямлі з мэтай пашырыць свае тэрыторыі. На справе ж дзяленне зямлі на роўныя долі паміж усімі дзецьмі шляхціца вяло да працэсу адваротнага.

На тэрыторыі Ішчлнскай парафіі Лідскага павету распаўсюджвалася ўлада наступных маршалкаў павятовых:

1. Аляксандар Остык-Нарбут (1798 - 1816);
2. Ігнацы Скіндэр (1816 - 1819);
3. Антоні Скіндэр (1819 - 1824);
4. Ігнацы Скіндэр (1824 - 1827)
5. Рамуальд Кастравіцкі (1827 - 1830, 1839 - 1844);
6. Антоні Скарбэк-Важынскі (1831 - 1834);
7. Граф Путкамер (1847 - 1849);
8. Юзаф Марачэўскі (1850 - 1855);
9. Стэфан Буткевіч (1855 - 1874);
10. Чапялеўскі (1877 - 1891);
11. Людвік Грабоўскі (1914 - 1915).

Пачатковай школы ў парафіі не было ажно да XX стагоддзя. У гэтым выпадку важную функцыі выконваў касцёл, пры якім былі арганізаваныя абавязковыя курсы чытання і пісання для шляхецкіх дзяцей. Але справа навучання была непапулярнай, таму навукі пры касцёле перасталі вывучаць яшчэ перад упадкам Рэчы Паспалітай. Пасля Першай Сусветнай вайны была арганізавана вучэльня з 3-гадовым тэрмінам навучання.

З 1515 года Ішчалнскі двор збіраў па ... жыта з валокі на карысць касцёла.

Граматай 1573 году жыхары Ішчалнскай парафіі былі абкладзеныя падаткам у 20 грошаў ад валокі, жыта і аўсу па курсе адзіным і 20 яек. Узамен за гэтае пробашч касцельны меўся адспяваць за іх 3 імшы на тыдзень - першая за адпушчэнне ўласных грахоў, другая за адпушчэнне грахоў сваякоў, трэцяя ў хвалу Бога.

У 1637 годзе каталіцкі касцёл яшчэ больш узмацніў свой уплыў на прыход і атрымаў 4 валокі ўрадлівай зямлі каля Ішчалны.

Але паступова ў канцы 18 стагоддзя дакумент быў скасаваны, і мясцовыя жыхары перасталі плаціць царкоўную дзесяціну. Прычыны гэтага не называюцца.

Справы фундацыі былі ўрэгуляваныя палюбоўна ў 1788 годзе. Ішчалнскі двор быў абавязаны цяпер плаціць на карысць касцёла 150 злотых і 20 пудоў воску, а таксама прадставіць вольны памол на Ішчалнскім млыне ў дзень святога Юрыя.

Захаваліся інвентары 1763 і 1780 года, паводле якіх былі вызначаныя межы Ішчалнскай парафіі:

1. Двор Ішчалнскі з мястэчкам Ішчална, вёскамі Жырмуны, Вялікія і Малыя Баяры, Масёўцы, якія былі падначаленыя Юзафу Валу.
2. Двор Вялікае Мажэйкава, які належаў Хадкевічу, старасце жмудскаму, з вёскамі.
3. Двор Малое Мажэйкава, падначалены Кастравіцкім з прылеглымі вёскамі.
4. Двор Косцянковічы Станіслава Александровіча з вёскамі Вялікая Весь, Каробкі, Красно, Лелюкоўцы, Свірыды і фальваркам Станіслававa.
5. Двор Гернікі Юзафа Юбялевіча, чашніка павету Лідскага з вёскай Пільчукі.
6. Двор Зайкаўшчына з вёскай Зайкаўшчына.
7. Шарнаўшчына з прылеглымі вёскамі.
8. Вёскі Сцяпанава, Казарэзы, Гернікі, Лагодныя Мыты.
9. Вёскі Юцікоўцы, Ялашоўцы, Мацёўцы.

На гэты момант налічваецца прыблізна 1350 душаў лацінскага веравызнання.

Агульная колькасць жыхароў парафіі па стане на 1780 год налічвала 1500 чалавек.

Паступова парафія страціла частку земляў і прыходу.

Але ўжо па стане на 1930 год “Wykaz miejscowosci Parafii Isszczolnskiej” дае нам падрабязнае апісанне мясцовасці і колькасці насельніцтва. Агульнай колькасцю на 1930 год у склад Ішчалнскай парафіі ўваходзіла 64 вёскі, фальваркі, маёнткі, засценкі. Буйнейшымі з іх з'яўляліся Мацёўцы (291 чалавек), Кермяны (259 чалавек), Дамоўцы (каля 280 чалавек), Ішчална (225 чалавек), Юцёўцы (230 чалавек), Агароднікі (каля 200 чалавек).

Агулам налічвалася 22 вёскі, 2 маёнткі, 3 мястэчкі, 35 засценкаў і фальваркаў і адна ваколіца.

Адметна тое, што каталікі складалі 97,5 адсоткаў насельніцтва парафіі. Праваслаўных было 100 чалавек, альбо прыблізна 2,4 адсоткі. Незначную частку складалі габрэі.

Як вынікае з даўнейшых метрык, мясцовыя могілкі знаходзіліся ў полі паміж вёскамі. Апроч таго побач з касцёлам на валоках мясцовых жыхароў Крукоўскага і Бальцэвіча напачатку XX стагоддзя былі знойдзеныя парэшткі магільных плітаў з надпісамі, разабраць якія, па ўсёй бачнасці, не ўдалося. Апроч таго ў Старых Васілішках знаходзіцца родавы склеп …chockich - валадароў Малога Мажэйкава. Побач з самім касцёлам знойдзеная пліта Грабоўскага, склеп Варжынскіх, Былінскіх.

Што датычна мясцовых традыцый, то аўтары “Нарысу аб парафіі Ішчалнскай” адзначаюць, што захаваліся арыгінальныя пахавальныя абрады, спевы, якія, тым не менш, хутка зніклі. Апісання гэтых абрадаў і таго, чым яны адметныя, нажаль няма.

Старэйшыя Ішчалнскія метрыкі і інвентары сведчаць аб тым, што падчас Паўночнай вайны ў Ішчалне стаялі шведы. Некаторыя імёны і прозвішчы прыведзеныя ў інвентарах за 1717 год, дзе ўзгадваецца разбіццё шведаў пад Жалудкам у 1708 г. Таксама падаюцца звесткі аб тым, што ў Жалудоцкім лагеры быў сам Карл XII. Па стане на 1936 год на скрыжаванні Шчучынскага тракту і Жалудокскай дарогі знаходзілася месца, выдзеленае валам, за якім знаходзіліся шведскія магілы.

У перыяд канчатковага заняпаду Рэчы Паспалітай парафія і парафіяльны касцёл пацярпелі ад суседзяў. У 1730-1750 пад час кіравання кс. Мразоўскага быў разбураны двор Жалудокскі, які ўваходзіў у склад парафіі і належаў валадарам Ішчалны, гвалтам адабраная частка касцельных земляў.

У далейшым на парафіяльныя землі прэтэндаваў пан Юбялевіч, валадар Гернік.

У 18 стагоддзі Ішчалнская парафія пабачыла негатыўныя вынікі паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Атрады Хлявінскага забралі касцельнае срэбра, 2 срэбныя кароны і аклад з абраза Маці Божай. Наогул жа можна гаварыць аб існаванні вялікай канцэнтрацыі партызанаў пад Ішчалнай.

Паводле інвентара 1820 года ў парафіі былі сканфіскаваныя наступныя землі:

- Фальварак, абшарам 4 валок, 16 гектараў зямлі ворнай, 3 валокі лесу, 8 пашаў і іншыя землі;

- Зямлі ў Ялашоўцах 9 валокаў, у Юцёўцах 9 валокаў, у Масёўцах 5 валокаў.

У суме парафія збяднела на 29 валокаў зямлі.

Падданыя абавязаныя былі плаціць па 3 злотыя чыншу з душы, адрабляць па 3 дні ад валокі.

Падчас Напалеонаўскай вайны Ішчалнская парафія пабачыла перамогу расейскага войска над беларускімі палкамі ў Ішчалнскім лесе.

У 1844 годзе касцельны маёнтак быў сканфіскаваны Расейскім урадам.

Пасля задушэння паўстання Кастуся Каліноўскага агульнай колькасцю ў Лідскім павеце было зачынена 30 касцёлаў, Ішчалнскі пазбегнуў гэтага.

У 1905 годзе па ініцыятыве Міхала Верашчакі пачалася рэканструкцыя капліцы.

Падчас знаходжання немцаў на тэрыторыі Ішчалны ў перыяд Першай Сусветнай вайны здарыўся пажар, у якім загінула вялікая колькасць касцельнага абсталявання, а таксама палац і некалькі гаспадарчых будынкаў. Нямецкія жаўнеры кватаравалі наўпрост у сценах Ішчалнскага касцёла. У час іх знаходжання там быў знішчаны арган, усё аздабленне і шмат важных дакументаў.

Па прыходзе саветаў на тэрыторыю парафіі "bialoruszczyzna znikla, a polska mowa tak okropnie przez moskali przesladowana, zajenla swe naczelne stanowisko w domach katolickich".

А ў "Нарысе аб парафіі Ішчалнскай" наогул зазначаецца, што русіфікацыя школы пачалася да пачатку Першай Сусветнай вайны. Так, існавалі дзве "русіфікацыйныя граматы" якія дзейнічалі на школы ў Скрыбаўцах і Агародніках.

Неаднаразова на парафію находзілі эпідэміі хваробаў, аднак больш дакладныя дадзеныя знайсці ў дакументах немагчыма. Вядома, што найбольшую шкоду колькасці жыхароў нанеслі эпідэміі гішпанкі і халеры.

Галоўнымі відамі дзейнасці насельніцтва парафіі была апрацоўка лесу ў лясніцтве, а таксама абпал цэглы. Непасрэдна ў маёнтку Ішчолна рабілі негашаную вапну, таксама здабывалі чорную гліну. Хатні промысел прадстаўлены вырабам сукна і ўсемагчымых драўляных прыстасаванняў. Прычым у вопісе Ішчалнскай парафіі адзначана, што ў межах парафіі пасля Першай Сусветнай жыў толькі адзін габрэй, які займаўся гандлем. Адносіны польскага і беларускага насельніцтва з габрэямі былі напружаныя. Аб гэтым сведчыць Г. Баярунец, які прыводзіць факты вострай непрыязні габрэйскага насельніцтва да польскіх і беларускіх каталікоў пад час "Вайны з бальшавікамі" (трэба разумець - пад гэтым маецца на ўвазе польска-савецкі канфлікт). Але і з боку Баярунца ў дзённіках маюцца намёкі на антысемізм.

Са смерцю ўладальніцы Ішчалны Марыі Важырынскай, маёнтак Ішчална быў падзелены паміж прадстаўнікамі роду Ляшковічаў.

У 1932 годзе мяшканец з парафіі Ішчалнскай Ігнат Богач аднавіў крыж, які пацярпеў падчас Першай Сусветнай, у вёсцы Цвермы. Гэты факт прымячальны тым, што дэкан каталіцкай царквы ў Лідскім павеце, ксёндз Гіпаліт Баярунец у сваіх дзённіках нават прыводзіць спіс людзей, якія паводле ягоных звестак вылячыліся ад хваробы, памаліўшыся пад гэтым крыжам.

Згодна са статыстычнымі звесткамі Лідскі павет у 18-19 стагоддзях налічваў 10% шляхты ад агульнай колькасці жыхароў.

У асноўным гэтыя роды з'яўляюцца дробнай засцянковай шляхтай, якая мела ў сваім кіраванні невялікія надзелы. Усяго налічвалася 52 шляхецкія сям'і. 35 з іх мелі правa на герб, 17, адпаведна, былі бязгербавай шляхтай.

Варта нагадаць правы і вольнасці шляхты:

1. Права займаць пасады земскія.
2. Недатыкальнасць шляхецкага дому.
3. Вызваленне ад абавязку аплаты падаткаў за землі фальварковыя.
4. Вызваленне ад падаткаў.
5. Права набываць соль па зніжках.
6. Права прапінацыі.
7. Палітычныя правы.

Правы і вольнасці мелі наступныя роды: Маражынскі (гербу Мора), Нацэвіч (гербу Ліс), Малахоўскі (гербу Наліч), Марцінкевіч (гербу Лебедзь), Міхалоўскі (гербу Ясеньчык), Ляшкевіч (гербу Лескі), Лукашэвіч (гербу Лук), Мацеевіч (гербу Багорыя), Крыжынскі (гербу Радван), Кандратовіч (гербу Сыракомля), Кастравіцкі (гербу Байбуза), Кавалеўскі (гербу Прус), Казакоўскі (гербу Козел), Казырскі (гербу Любіч), Краснік (гербу Праўдзіц), Крукоўскі (гербу Грыф), Крыдэль (гербу Адсеча), Кулікоўскі (гербу Драгамір), Курыла (гербу уласнага - Курыла), Кандыба (гербу Парай), Янкоўскі (гербу Ястрабец), Юрэвіч (гербу Слепаваран), Гаўрылькевіч (гербу Буртаўт), Гаеўскі (гербу Астоя), Горскі (гербу Налеч), Грабоўскі (гербу Окша), Былінскі (гербу Ладдзя), Бердаўскі (гербу Слепаваран), Бялінскі (гербу Равіч), Жыжка (гербу Даленга), Свяцiцкі (гербу Крыўда), Сакалоўскі (гербу Кораб), Тубялевіч (гербу Буйвалава Галава), Тубілевіч (гербу Крыўда).

Як паказвае фактычны матэрыял, у асноўным гэта сацыяльна пасіўнае насельніцтва. Так, у спісах шляхты, рэпрэсаванай пасля паўстання 1863 году, маюцца толькі два прозвішчы, датычныя да Ішчалнскай парафіі:

51. Гаеўскі Вінцэнт (з маёнтка Ішчална).

263. Фалькоўскі Адам (ксёндз-пробашч, гадоў 53, з м. Ішчална, расстраляны ў Лідзе) [32, с. 51].

У Беларусі за паўстанне 1853 года былі канфіскаваныя 1794 сядзібы (да 31 студзеня 1864 года толькі ў Віленскай губерні па выраку суда былі канфіскаваны 162 маёнткі). З Ішчалнскай парафіі - фальва-

рак Гернікі за ўдзел яго ўладальніка ў паўстанні Кастуся Каліноўскага. Нажаль, імя ўладальніка не запісанае ў "Нарысе…", але з перапісу “Wykaz alfabetyczny z 1844 r. majantkow pow. Lidzkiego” вынікае, што ім мог быць Нікадзім Тубілевіч гербу Крыўда. На месцы фальварка Гернікі паўстала вёска з тым жа найменнем.

Паступова пасля адмены прыгоннага права знікла мястэчка Ішчална.

Вышэй абазначаная асоба Адама Фалькоўскага заслугоўвае асаблівай увагі. Фактычна, гэты чалавек стаў адным з сімвалаў мясцовага паўстання 1863 года, не прыняўшы ўдзелу ў баявых дзеяннях.

Фалькоўскі заклаў першае ў гісторыі Ішчалнскай парафіі брацтва з назвай "Брацтва ў гонар Святой Троіцы". Падчас паўстання Кастуся Каліноўскага расейскі рэжым ліквідаваў яго. Але яно працягвала дзейнічаць падпольна.

Вось што пісаў ксёнз Гіпаліт Баярунец у сваім дзённіку аб Фалькоўскім: *"У 1919 годзе яшчэ жылі людзі, якія памяталі гэтае крывавае здарэнне, і яны мне расказвалі, што каля шасці гадзін раніцы светлай памяці ксёндз Адам Фалькоўскі ішоў на месца пакарання засяроджаны і чытаў малітвы. Яго прывялі з Лідскай турмы да месца, дзе была выкапана яма і падрыхтавана свежая вапна ў вялікай бочцы. Яму зачыталі смяротны прыгавор, пасля чаго прывязалі да слупа і завязалі вочы. Грымнуў залп з казацкіх карабінаў... Цела ўкінулі без труны ў магілу, залілі вапнай і закапалі. Эскадрон казакаў на конях зацёр яе след.*

*Людзі, якія прысутнічалі на месцы пакутнай смерці ксяндза, пасля абклалі магілу каменнямі. Паліцыя шмат разоў раскідвала тыя камяні, але заўсёды знаходзіліся тыя, хто вяртаў іх на месца.*

*У 1919 годзе лідскія чыгуначнікі вырашылі ўшанаваць магілу ксяндза і паставіць помнік. З жалезных трубаў чыгуначнік Стэфан Лоўкіс зрабіў крыж і падрыхтаваў цэмент для яго ўстаноўкі. Патрэбна было адшукаць магілу. Сведкі далёкіх падзей сталі на тыя самыя месцы, як у 1863 годзе, і на скрыжаванні ліній магіла была знойдзена. Пры капанні ямы пад фундамент помніка натрапілі на камяні, а глыбей - на вапну, што дало падставу меркаваць: гэта месца пахавання ксяндза."*

Чыгуначнікі залілі фундамент з бетону на метр над зямлёй і ўстанавілі жалезны крыж без надпісу. 3 мая 1919 года помнік асвяціў лідскі дэкан, ксёндз Баярунец у прысутнасці дзяржаўных улад на чале з лідскім старастам Станіславам Здановічам, а ўсіх вернікаў з Ліды і ваколіц было каля 15 тысяч.

Разгледзеўшы праблемы захавання метрычных кніг на прыкладзе дакументаў Ішчалнскай парафіі, можна канчаткова заявіць аб неабходнасці вяртання гэтага комплексу крыніцаў па гісторыі Беларусі ў дзейныя культавыя ўстановы.

Кожны дакумент, з'яўляючыся прадуктам прычынна-выніковых сувязяў, захоўвае сваё генетычнае адзінства з гістарычнай рэальнасцю, якая яго стварыла. Сэнс жыцця дакумента ў архіве заключаецца ў патэнцыйнай магчымасці гістарычнай рэканструкцыі падзеяў і фактаў, якія сталі прычынай яго з'яўлення. Менавіта з гэтай прычыны важна захаваць дакумент у кантэксце рэаліяў мінулага, паблізу ад тэрыторыяў яго паходжання. Неабгрунтаванае штучнае аддаленне дакумента ад гістарычнай тэрыторыі разрывае сувязь з дакументным кантэкстам, зніжае яго патэнцыял, прыбядняе культурны фонд тэрыторыі. Касцёл з'яўляецца лепшым месцам захавання архіўных культавых дакументаў.

Сухое архіўнае выкарыстанне метрычных кніг у генеалагічным плане без выкарыстання дапаможных крыніцаў у выглядзе клíравых ведамасцяў, касцельных інвентароў, гросбухаў, нарысаў і вопісаў з'яўляецца нелагічным і неэфектыўным выкарыстаннем крыніцы. Практычна, метрыка ўтрымоўвае вялікую колькасць інфармацыі, да якой прымяняльныя матэматычныя метады даследвання. Даныя метрычных кнігаў у абавязковым парадку вартыя да ўвядзення іх у шырокае навуковае даследванне ў сінтэзе з іншымі крыніцамі па гісторыі Беларусі.

“Opis Parafii Iszczolnskiej”, арыгінал якога на дадзены момант знаходзіцца ў архіве дзейнага касцёла Святой Троіцы з'яўляецца карыснай крыніцай па лакальнай гісторыі і змяшчае ў сабе інфармацыйныя блокі, выцягнутыя з метрычных кнігаў, касцельных інвентароў, клíравых ведамасцяў, рэестраў. Фактычна, гэты матэрыял абагульняе і сістэматызуе дадзеныя аб парафіі за 5 стагоддзяў. Сінтэзуючы гэты матэрыял з такім мемуарным творам, як “Zapisy o Krzyzy i Kaplicy w Cwiermah” Гіпаліта Баярунца, мы атрымоўваем карысныя звесткі па краязнаўстве і лакальнай культавай гісторыі.

Такім чынам, даследваўшы дакументы, якія датычныя метрычных кнігаў Ішчалнскай парафіі, мы можам сказаць аб неабходнасці коплекснага вывучэння гэтых крыніцаў, а таксама аб патрэбе ва ўключэнні ў фонды метрык нарысаў, клíравых ведамасцяў, інвентароў такім чынам, якім яны ўключаныя ў "Нарыс аб парафіі Ішчалнскай".

**СПІС КРЫНІЦ І ЛІТАРАТУРЫ:**

1. Антонов Д.Н., Антонова И.А. Метрические книги России XVIII - начала XX / Д.Н. Антонов, И.А. Антонова. - М.: РГГУ, 2006. - 194 с.

2. Антонов Д. Н. Метрические книги: историко-архивоведческий взгляд // Вестник архивиста. 1993. № 6 (18). с. 92-96

3. Антонов Д.Н., Антонова И.А. Метрические книги: время собирать камни // Отечественные архивы. 1996, № 4. с. 15-28

4. Метрические книги // Энциклопедический словарь изд. Ф.А. Броугауз, И.А. Ефрон : В 86 т. / Под ред. И.Е.Андреевского. - СПб. : Фирма "Полрадис" : АООТ "Иван Федоров", 1993, т. 26- с. 413-416.

5. Паноў С. В. Матэрыялы па гісторыі Беларусі; пад навук. рэд. М. С. Сташкевіча, Г. Я. Галенчанкі. - Мн.: "Аверсэв", 2003. 140 с.

6. Гісторыя Беларусі (у кантэксце сусветных

цывілізацый). Вучэбн. дапаможнік / В. І. Галубовіч, З. В. Шыбека, Д. М. Чаркасаў і інш.; Пад рэд. В. І. Галубовіча і Ю. М. Бохана. - Мн.: Экаперспектыва, 2005. с. 257

7. Белазаровіч В. А. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі: вучэб. дапаможнік; Установа Адукацыі "Гродзенскі Дзярж. Ун-т імя Я.Купалы". - Гродна : ГрДУ, 2006. 133 с.

8. Мікола Каліновіч. Генацыд пачынаецца з вынішчэння мовы Літаратурная Беларусь, № 6(44) 25 чэрвеня 2010, стар. 9

9. Лісейчыкаў Д. В. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839 гг. / Д.В. Лісейчыкаў - Мн., Медисонт 2011.

10. Лісейчыкаў Д.В. Метрычныя кнігі уніяцкіх цэркваў Беларусі XVIII ст.: асаблівасці складання і захавання // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі : гісторыя і сучаснасць: матэрыялы юбілейнай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 70-годдзю Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (Мінск, 8 ліпеня 2008 г.), Мн., 2008, с. 173-181

11. Суднік Станіслаў. Валеры Антоні Урублеўскі - генерал Парыжскай Камуны 1871 г. // Лідскі летапісец №1 (37) 2007, стар. 30-39.

12. Метрические книги с. Введенское Челябинского уезда 1873 год [Электронный ресурс] - с. Введенское Челябинского уезда, 1873, URL: http://www.libinfo.org/index.php?dir1=07&dir2=&dir3= (дата обращения 29.03.2012).

13. Беларусы. Этнагеаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі пад рэд. Бандарчык В.К., Пейхвассэр В.М., Саўчэня А.В., Свірская К.В. / Фонд дакументальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь, Беларускі фонд Сораса, Праграма "Абнаўленне гуманітарнай адукацыі", Мн. 1996 - 32 стар.

14. Рэлігія і царква на Беларусі пад рэд. Пашкова Г.П. / БелЭн, Мн., 2001 - 368 стар.

15. Найясьнейшая Рэч Паспалітая пад рэд. Дзярновіча А. / Кнігарня Наша Ніва, Менск, 2007, 346 стр.

16. Malewski Czeslaw. Wykaz alfabetyczny z 1844 majatkow pow. Lidzkiego // Ziemia Lidzka № 2 (60) Kwiecien 2004, s. 31 - 46.

17. Каштанов С.М. Русская дипломатика / С.М. Каштанов - М.: Высшая школа, 1988 - 232 с.

18. Латышева, В. А. Переписи населения 1897 и 1926 гг.: признаки национального самоопределения белорусов / В. А. Латышева // Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны: навук. зб. Вып. 5 / Рэдкал. У. Н. Сідарцоў (адк. рэд.), С.М. Ходзін (нам.адк. рэд.) [і інш.] - Мн: БГУ, 2009. - с. 134-142

19. Panucevic Vaclau. Sviaty Jazafat / V. Panucevic - Chicago, 1963 - 232 s.

20. Kronika Kosciola Katolickiego na Litwie [Wydano staraniem E.G.] - Bialystok, Nowy Swiat, 170 s.

21. Sosna Grzegorz, Fionik Doroteusz Orla na Podlasiu. Dzieje Cerkwi, miasta i okolic / G. Sosna, D. Fionik - Bielsk Podlaski - Ryboly - Bialystok, Bialoruskie Towarzystwo Historyczne - 196 s.

22. Opis Parafii Iszczolnskiej / Архіў касцёла Святой Троіцы, в. Ішчална, 64 с.

23. Boyarunets Hippolyte. Zapisy o Krzyzy i Kaplicy w Cwiermah / H. Boyarunets - Lida, Архіў касцёла Святой Троіцы, в. Ішчална, 50 с.

24. Указ от 20 сентября 1944 года “Об образовании Бобруйской, Гродненской и Полоцкой областей в составе Белорусской ССР” // Сборник законов СССР и указов Президиума Верховного Совета СССР. 1938 г. - июль 1956 г / под ред. к. ю. н. Мандельштам Ю. И. - Москва: Государственное издательство юридической литературы, 1956. - с. 56

25. Насевіч В., Міхальчанка А. Вяртанне архіўных дакументаў на гістарычную Радзіму ў сучасных умовах // Рэстытуцыя культурных каштоўнасцей: праблемы вяртання і сумеснага выкарыстання (юрыдычныя, навуковыя і маральныя аспекты): Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, якая адбылася ў Мінску 19-20 чэрвеня 1997 г., Мінск, 1997, стар. 71 - 78.

26. Елпатьевский, А.В. К истории документирования актов гражданского состояния в России и СССР (с XVIII в. по настоящее время) / А.В. Елпатьевский // Актовое источниковедение: сб. статей / АН СССР. Ин-т истории. - М.: Наука, 1979. - с. 55 - 84.

27. Единый межфондовый указатель метрических книг костёлов, хранящихся в Национальном историческом архиве Беларуси в г. Гродно [Электронный ресурс], URL: http://archives.gov.by/index.phplid=360168 (дата обращения 29.03.2012)

28. Шумейко М.Ф., Козак К.И., Селеменев В.Д. Архивоведение Беларуси. Учебное пособие для студентов исторических факультетов вузов. В 2 ч. Мн.: Изд. Центр РИВШ, 1998.-Ч.1-История и организация архивного дела. - 216 с.

29. Метрычныя кнігі Ішчалнскага касцёлу Святой Троіцы за 1714 год - архіў касцёла Святой Троіцы в. Ішчална.

30. Метрычныя кнігі Ішчалнскага касцёлу Святой Троіцы за 1827 год - архіў касцёла Святой Троіцы в. Ішчална.

31. Lawrysz Leon. Kosciol greko-katolicki w Lidzie i Ziemi Lidzkiej // Zemia Lidzka № 1(44) Styczen 2001 r., s. 54 - 59.

32. Malewski Czeslaw. Wykaz osob wiezionych, przesladowanych i zeslanych z powiatu lidzkiego // Zemia Lidzka № 3 (55) Lipec 2003, s. 37 - 75.

33. Ciechanowicz Lech Rozwoj liczby ludnosci miasta Lidy // Zemia Lidzka № 3 (46) Sierpien 2001, s. 64 - 67.

34. Malewski Czeslaw. Rody szlacheckie w powiecie lidzkim na Litwie w XIX wieku // Zemia Lidzka №№ 3 (61) Cierwiec 2004, 2 (90) Czerwiec 2009, 1 (89) Marzec 2009, 4 (74) Sierpien 2006, 3 (73) Czerwiec 2006, 2 (72) Kwiecien 2006, 1 (71) Luty 2006, 6 (70) Grudzien 2005, 5 (69) Pazdziernik 2005, 4 (68) Sierpien 2005, 3 (67) Czerwiec 2005, 1 (65) Luty 2005, 5 (63) Pazdziernik 2004, 4(62) Sierpien 2004, 5 (87) Pazdziernik 2008, 2 (84) Kwiecien 2008, 6 (88) Grudzien 2008, 4 (86) Sierpien 2008, 3(85) Czerwiec 2008, 1 (83) Luty 2008.

***Аляксандр Мацулевіч***

# Ён быў першым кіраўніком вызваленай Ліды

*У кнізе-хроніцы "Памяць. Лідскі раён" можна знайсці Акт надзвычайнай камісіі па расследаванні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў на Лідчыне, складзены якраз пасля вызвалення Лідчыны ад акупантаў. Сярод тых, хто падпісаў гэты акт, – першы сакратар Лідскага гаркаму партыі Рыгор Аляксандравіч Сідарок. Што ведаем мы аб першым кіраўніку вызваленай Ліды? У той жа кнізе "Памяць" звестак пра яго няма, ды і працаваў Рыгор Сідарок у Лідзе ўсяго паўгода. Аднак працоўны шлях гэтага чалавека варты таго, каб лідзяне больш ведалі пра яго. Гэты матэрыял дае чытачу магчымасць падрабязна пазнаёміцца з біяграфіяй Рыгора Аляксандравіча Сідарка, чыя пляменніца – Алеся Аляксандраўна Бурак – жыве ў нашым горадзе (адрыўкі з успамінаў Алесі Аляксандраўны аб сваім дзядзьку выкарыстаны пры падрыхтоўцы гэтага матэрыялу, побач з дакументальнымі звесткамі і газетнымі публікацыямі).*

Рыгор Аляксандравіч Сідарок родам з Усходняй Беларусі. Нарадзіўся 16 лістапада 1902 года ў вёсцы Варацец Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Рыгор быў адным са старэйшых дзяцей у шматдзетнай сялянскай сям'і Сідаркоў (у сям'і было дванаццаць дзяцей, Рыгор быў трэцім). Маці Рыгора Сідарка, Ульяна, пражыла амаль сто гадоў, пахавана ў Варатцы (зараз гэта Чарнобыльская зона адсялення).

Свой працоўны шлях Рыгор Сідарок пачаў з дзіцячых гадоў пастухом. Да рэвалюцыі і ў першыя гады савецкай улады батрачыў на кулакоў. З траўня 1924 па лістапад 1926 года праходзіў службу ў радах Чырвонай Арміі. У 1925 годзе скончыў палкавую школу і стаў камандзірам аддзялення 98-га стралковага палка 33-й стралковай дывізіі, якая размяшчалася ў горадзе Стары Быхаў. Пасля заканчэння службы ў Чырвонай Арміі Рыгор Аляксандравіч Сідарок заняты на розных участках савецкай і гаспадарчай работы.

Некаторы час працаваў у роднай вёсцы Варацец загадчыкам хаты-чытальні. Паўтары гады быў міліцыянерам у горадзе Рэчыца Гомельскай вобласці. На працягу трох гадоў у тым жа горадзе Рэчыцы працаваў на лесапільным заводзе памочнікам рамшчыка. Са жніўня 1931 года Рыгор Сідарок – член КПСС, з 1932 года знаходзіцца на партыйнай рабоце. Паўтары гады з'яўляўся студэнтам і сакратаром парткаму саўпартшколы горада Гомеля.

Пастух, парабак, чырвонаармеец, міліцыянер, рабочы, студэнт. Такімі былі першыя ступені працоўнага шляху Рыгора Аляксандравіча Сідарка, сялянскага сына з хойніцкай вёскі Варацец, якія паспрыялі яго далейшаму кар'ернаму росту, сталі для яго школай гарту.

* * *

Пасля заканчэння ў 1934 годзе Гомельскай саўпартшколы Рыгор Сідарок знаходзіцца на партыйнай рабоце ў горадзе Дрыса Віцебскай вобласці: з'яўляецца загадчыкам парткабінета Дрысенскага РК КПБ, у 1935-1937 гадах – палітруком і старшынём райсавета Асаавіяхіма, у 1938 годзе – інструктарам Дрысенскага РК КПБ. У 1929, 1933, 1935 і 1937 гадах прызываўся на 45-дзённыя зборы ў якасці палітрука. З верасня 1938 па люты 1939 года Рыгор Сідарок – слухач курсаў вышэйшай школы ЦК КПБ у Менску. Пасля курсаў некалькі месяцаў працуе загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі РК КПБ горада Ветрына Віцебскай вобласці, а з ліпеня 1939 года з'яўляецца інструктарам ваеннага аддзела ЦК КПБ у Менску.

***З успамінаў лідзянкі Алесі Аляксандраўны Бурак пра свайго дзядзьку Рыгора Аляксандравіча Сідарка***

*Я вельмі добра памятаю свайго дзядзьку, старэйшага брата маёй маці, Сідарка Рыгора Аляксандравіча. Ён часта са сваёй жонкай Аляксандрай (першая жонка Рыгора Сідарка, загінула ў першы год Вялікай Айчыннай вайны – заўв. аўтара) прыязджаў да нас у Дукору з Менска (гэта 40-45 км ад сталіцы), дзе працаваў інструктарам ЦК КП(б)Б. Прыгожы, валатоўскага складу, ён заўсёды добразычліва адносіўся да нашай сям'і, асабліва любіў дзяцей, якіх у маіх бацькоў было чацвёра. Вясёлы, жартаўлівы. Ні то жартам, ні то ўсур'ёз гаварыў: "Аддайце нам старэйшую, навошта вам гэтулькі дзяўчат!" Старэйшай дзяўчынкай у сям'і была я. Дзядзька Рыгор з жонкай не мелі дзяцей, хаця пражылі разам нямала.*

*Бывала, дзядзька разам з маім бацькам вып'юць па чарцы і заспяваюць сваю любімую: "Ты не вейся, черный ворон, над моею головой. Ты добычи не добьешься, черный ворон, я не твой". Спявалі напярэдадні вайны, а ў 1941 годзе, у першыя дні вайны, бацька загінуў. Яго звалі Алесь Сцяпанавіч. У 1941 годзе ён быў старшым палітруком на зборах ля Берасця.*

У 1939 годзе Рыгор Сідарок зноў быў прызваны ў Чырвоную Армію, дзе быў адказным сакратаром партбюро асобнага зенітнага артылерыйскага дывізіёна. Прымаў удзел у вызваленні ў верасні 1939 года Заходняй Беларусі. З тае пары яго лёс на доўгія гады быў звязаны з заходнебеларускай зямлёй. У 1940 годзе загадам народнага камітэта абароны Рыгору Аляксандравічу Сідарку было прысвоена вайсковае званне "старшы палітрук".

Са студзеня 1940 па чэрвень 1941 года Рыгор

Сідарок займае пасаду першага сакратара Івянецкага райкаму КПБ (мястэчка Івянец Баранавіцкай вобласці). У студзені-лютым 1941 года 45-дзённы збор вайсковай падрыхтоўкі кіраўнічых работнікаў партыйных камітэтаў. У Івянцы, на пасадзе першага сакратара райкаму партыі, і застала Рыгора Аляксандравіча Вялікая Айчынная вайна. У складаных умовах вераломнага нашэсця нямецкіх акупантаў сакратар райкаму многае зрабіў, каб папярэдзіць паніку сярод людзей, адправіць сем'і савецкіх службоўцаў і важныя дакументы на Усход, падрыхтаваць насельніцтва да руху супраціўлення. І праз некаторы час нямецка-фашысцкія захопнікі адчулі ўдары патрыётаў.

* * *

Летам 1941 года Рыгор Аляксандравіч Сідарок быў упаўнаважаным ЦК КПБ на Цэнтральным фронце. На фронце, пад горадам Клімавічы, у жніўні 1941 года быў лёгка паранены ў бок і цяжка паранены ў левую нагу. Некалькі месяцаў знаходзіўся на лячэнні ў шпіталі горада Жалезнаводска.

У 1942 годзе Рыгор Сідарок знаходзіцца ў распараджэнні ЦК КПБ у Маскве. Вярнуўшыся на часова акупаваную нямецка-фашысцкімі войскамі тэрыторыю Беларусі, вядзе адказную партыйную работу. 15 снежня 1942 года ЦК КП(б)Б зацвердзіў Рыгора Аляксандравіча Сідарка адным з памочнікаў упаўнаважанага ЦК КП(б)Б па Баранавіцкай вобласці (цяпер гэта ў асноўным Гарадзенская вобласць). Адпраўка ўпаўнаважанага і яго памочнікаў у тыл ворага, аднак, затрымалася да сакавіка 1943 года. У 1943-1944 гадах Рыгор Сідарок – памочнік упаўнаважанага ЦК КПБ і Беларускага штаба партызанскага руху (БШПР), сакратар падпольнага райкаму КПБ, камандзір злучэння партызанскіх брыгад і атрадаў па Баранавіцкай вобласці і выканавец абавязкаў сакратара падпольнага абкаму партыі. Падпольная мянушка Рыгора Аляксандравіча Сідарка – Дубаў.

У сакавіку 1943 года сакратар абкама КП(б)Б В. Я. Чарнышоў і члены абкама партыі Я. Д. Гапееў (пазней – ганаровы грамадзянін горада Ліды), Р. А. Сідарок і С. П. Шупеня самалётам былі накіраваны ў тыл праціўніка ў Баранавіцкую вобласць. Прыбыўшы на месца, у Налібоцкую пушчу, дзе знаходзіўся штаб партызанскага руху вобласці, яны пачалі дзейнічаць як падпольны абкам КП(б)Б. 19 сакавіка 1943 года ЦК КП(б)Б зацвердзіў замест бюро склад Баранавіцкага абкаму КП(б)Б. Адным з членаў абкама быў зацверджаны Р. А. Сідарок (былы сакратар Івянецкага райкама партыі). Друкаваным органам Баранавіцкага падпольнага абкаму КП(б)Б была газета “Чырвоная звязда”.

Адначасова ЦК КП(б)Б прыняў прапанову аддзела кадраў ЦК КП(б)Б, Баранавіцкага абкаму партыі і Беларускага штаба партызанскага руху аб арганізацыі ў Баранавіцкай вобласці васьмі міжраённых партыйных цэнтраў, якія павінны былі ўяўляць сабою органы па кіраўніцтву падпольнай партыйнай работай і партызанскім рухам у замацаваных за імі раёнах вобласці. Узначальваць міжрайпартцэнтры павінны былі ўпаўнаважаныя ЦК КП(б)Б і БШПР па гэтых групах раёнаў. Івянецкі міжрайпартцэнтр, які прыступіў да працы 14 красавіка 1943 года, узначаліў Рыгор Аляксандравіч Сідарок. У зону яго дзейнасці па кіраўніцтву партыйнай работай і партызанскім рухам уваходзілі Валожынскі, Івянецкі, Ляхавіцкі (па жнівень 1943 года), Мірскі і Стаўбцоўскі (па 2 кастрычніка 1943 года) раёны Баранавіцкай вобласці.

У красавіку 1943 года члены падпольнага абкаму КП(б)Б Я. Д. Гапееў, Р. А. Сідарок і С. П. Шупеня прыступілі да выканання абавязкаў кіраўнікоў Лідскага, Івянецкага і Шчучынскага міжрайпартцэнтраў. Паплечнікамі Рыгора Аляксандравіча Сідарка па падпольнай рабоце былі таксама Р. Ф. Фамічоў (пазней – сакратар Лідскага гаркаму партыі), А. Г. Глухараў (пазней – старшыня Лідскага гарвыканкаму). Адметна, што Рыгор Аляксандравіч Сідарок змагаўся супраць акупантаў у адным шэрагу з вядомым на Лідчыне важаком народных мсціўцаў Яфімам Данілавічам Гапеевым. Першы ўзначальваў Івянецкае партызанскае злучэнне, другі – Лідскае. Абодва гэтыя фармаванні знаходзіліся ў Налібоцкай пушчы, часта ўзаемадзейнічалі ў падрыхтоўцы баявых аперацый.

Дарэчы, у Налібоцкай пушчы Рыгор Сідарок пазнаёміўся са сваёй будучай другой жонкай – партызанскай радысткай Нінай Васільеўнай Ізергіной. Радыстка Ніна разам з Рыгорам Сідарком была закінута ў тыл ворага ў Налібоцкую пушчу.

Пушчанскія салдаты Івянецкага партызанскага злучэння разам з народнымі мсціўцамі Лідскай і Стаўбцоўскай зон цесна ўзаемадзейнічалі ў змаганні супраць акупантаў, знішчаючы іх жывую сілу і тэхніку. Івянецкае партызанскае злучэнне ўваходзіла ў зону дзейнасці Івянецкага міжрайпартцэнтра, які па даручэнні ЦК Кампартыі Беларусі ўзначальваў Рыгор Аляксандравіч Сідарок. Да кастрычніка 1943 года злучэнне дзейнічала на тэрыторыі чатырох памежных паўночна-ўсходніх раёнаў Баранавіцкай вобласці (Івянецкага, Стаўбцоўскага, Карэліцкага і Мірскага), а таксама Валожынскага раёна, базавалася ў Налібоцкай пушчы. У склад гэтага фармавання ўваходзілі чатыры партызанскія брыгады (імя Сталіна, імя Чкалава, імя Жукава, імя Фрунзе) і асобны атрад № 106, падпарадкаваны ўтворанаму Стаўбцоўскаму міжраённаму падпольнаму камітэту КП(б)Б (усяго каля чатырох з паловай тысяч лясных салдат).



***Рыгор Сідарок***

У барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі яскрава праявіўся арганізатарскі талент Рыгора Сідарка як камандзіра злучэння. З



***Баранавіцкі падпольны абкам партыі. Другі злева – выканавец абавязкаў сакратара абкаму партыі Р. А. Сідарок. Раён вёскі Клецішча (паблізу Налібоцкай пушчы). Чэрвень 1944 г.***

Аб высокім аўтарытэце і арганізатарскім таленце Рыгора Аляксандравіча сведчыць і наступны факт. Калі ў траўні 1944 года першы сакратар Баранавіцкага падпольнага абкаму партыі Васіль Чарнышоў па выкліку ЦК партыі выбыў з Налібоцкай пушчы, яго абавязкі па кіраўніцтву падпольнай работай і партызанскім рухам у Баранавіцкай вобласці былі ўскладзены на Рыгора Сідарка. І Рыгор Аляксандравіч годна справіўся з гэтым адказным даручэннем.

5 ліпеня 1944 года партызаны Налібоцкай пушчы сустрэліся з наступаючымі часткамі Чырвонай Арміі.

красавіка 1943 па ліпень 1944 года партызаны злучэння падарвалі 452 вайсковыя цягнікі праціўніка, звыш пяці тысяч чыгуначных рэек, разбілі дзесяткі гарнізонаў і валасных упраў.

8 чэрвеня 1943 года Баранавіцкім падпольным абкамам КП(б)Б зацверджаны Івянецкі падпольны райкам КП(б)Б. Першым сакратаром райкаму партыі стаў член Баранавіцкага падпольнага абкаму КП(б)Б, кіраўнік Івянецкага міжрайпартцэнтра Р. А. Сідарок. Райкам КП(б)Б базаваўся ў зоне дыслакацыі партызанскіх брыгад імя І. В. Сталіна, імя П. К. Панамарэнкі, імя Н. А. Шчорса і партызанскага атрада № 106. Друкаваны орган падпольнага райкама КП(б)Б – газета “Народны мсцівец” (з 26 жніўня 1943 года (№ 14) – “Народный мститель”).

19 снежня 1943 года рашэннем Баранавіцкага падпольнага абкаму КП(б)Б міжрайпартцэнтр як прамежкавы партыйны орган паміж абкамам і райкамамі КП(б)Б быў скасаваны. Падпольныя райкамы партыі ўвайшлі ў непасрэднае падпарадкаванне падпольнаму абкаму КП(б)Б. За Р. А. Сідарком заставалася партыйна-палітычнае і ваенна-аператыўнае кіраўніцтва партызанскімі дзеяннямі ў гэтай зоне па ліпень 1944 года.

* * *

Летам 1944 года Беларусь стала свабоднай. На другі дзень пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх



***Злева направа: прадстаўнік 2-га Тацынскага гвардзейскага танкавага корпуса (прозвішча невядома), камандзір брыгады імя Сталіна П. І. Гулевіч, выканавец абавязкаў камандзіра Баранавіцкага партызанскага злучэння Р. А. Сідарок, камісар брыгады А. Г. Мурашоў і намеснік камандзіра брыгады Н. П. Ражкаван абмяркоўваюць план сумесных дзеянняў супраць нямецка-фашысцкіх войскаў.***

захопнікаў горада Ліды (у канцы першай дэкады ліпеня 1944 года) Рыгор Аляксандравіч Сідарок узначаліў Лідскі гаркам партыі, паўгода быў першым сакратаром Лідскага гарадскога камітэта КПБ. На гэтай адказнай пасадзе ён, першы кіраўнік вызваленай Ліды, разам са сваімі паплечнікамі многае зрабіў для наладжвання ў нашым горадзе мірнага жыцця.

Чаму Рыгор Сідарок аказаўся на кіраўнічай пасадзе ў Лідзе? Тут трэба мець на ўвазе, што наш горад у той час (да восені 1944 года) уваходзіў у склад Баранавіцкай вобласці. Рыгор Аляксандравіч да вайны, у 1940-1941 гадах, узначальваў Івянецкі райкам партыі і меў немалы досвед арганізатарскай работы.

Лёс Рыгора Аляксандравіча Сідарка быў звязаны з горадам Лідай, калі старажытны горад, скалечаны ў час нямецкай акупацыі, аднаўляўся і чым мог дапамагаў фронту. Вялікі груз клопатаў і абавязкаў, звязаных з толькі што вызваленай Лідай, быў ускладзены на ўчарашняга важака партызан. Пад кіраўніцтвам Рыгора Аляксандравіча Сідарка працавала надзвычайная камісія па расследаванні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў на Лідчыне. Акт гэтай камісіі, падпісаны сакратаром гаркаму Р. А. Сідарком, змешчаны ў кнізе-хроніцы “Памяць. Лідскі раён” (стар. 200-203). Ён быў складзены якраз пасля вызвалення Лідчыны ад акупантаў. Камісія пачала сваю работу 31 ліпеня 1944 года і закончыла яе 18 жніўня таго ж года.

Рыгор Сідарок і яго паплечнікі наладжвалі ў нашым горадзе мірнае жыццё. Паступова аднаўлялася і набірала сілу вытворчасць на лідскіх прадпрыемствах. Жыхары горада, чым маглі, дапамагалі фронту. У той жа час перад мясцовай уладай стаяла задача забяспечыць гаражанам нармальнае жыццё. Вялікая ўвага ўдзялялася адукацыі, культуры, медыцыне. Для падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў у горадзе пачало працаваць педагагічная вучэльня. Аб цяжкасцях таго часу ведаюць лідзяне-старажылы. Тады складана было набыць самае неабходнае – хлеб і соль.

У той час, калі Рыгор Аляксандравіч Сідарок працаваў першым сакратаром Лідскага гаркаму партыі, на яго некалькі разоў нападалі бандыты, якіх было многа ў блізкіх лясах. Аб адным з такіх нападзенняў, якое адбылося 17 лістапада 1944 года, пісала польская газета “Ziemia Lidzka” (“Лідская зямля”, № 1, люты 2003 года). У газеце паведамлялася, што 17 лістапада 1944 года на дарозе Гародня-Ліда (за 7 км ад Шчучына) машыну Р. Сідарка абстралялі бандыты. Яны забілі двух яго таварышаў, а ў яго толькі прастрэлілі шапку, хаця забіць хацелі ў першую чаргу сакратара Лідскага гаркаму партыі. (Пазней Рыгора Сідарка перавялі працаваць у Літву, дзе крымінагенная абстаноўка была яшчэ больш небяспечная.)

У пачатку 1945 года Рыгор Аляксандравіч Сідарок пакінуў пасаду першага сакратара Лідскага гарадскога камітэта КПБ і быў накіраваны на вучобу ў Маскву. На працягу двух гадоў быў слухачом ВШПА (вышэйшай школы партарганізатараў) пры ЦК КПСС.

***З успамінаў лідчанкі Алесі Аляксандраўны Бурак***

*...Ад яго доўга не было звестак, і толькі ў 1946 годзе ён зноў у Лідзе... Я ўпершыню прыехала ў гэты горад. Памятаю, што сям’я дзядзькі і радня яго жонкі Ніны жылі ў доме, дзе сёння знаходзіцца аддзел ЗАГС. Вакол была пустэча (а цяпер – прыгожы парк). Сярод шматлікіх родных быў брат Ніны Васільеўны, жонкі майго дзядзькі, Ізергін Анатоль Васільевіч з сям’ёю, які быў інвалідам вайны: без рукі, без аднаго вока, дрэнна чуў. Былы лётчык (яго прозвішча ўнесена ў кнігу “Памяць. Лідскі раён”, стар. 272).*

*У сям’і Сідаркоў была ўжо дачушка Вера. Яны збіраліся пераязджаць на месца жыхарства ў Літву.*

*Дзядзька Рыгор расказваў не столькі пра сваю работу ў Лідскім гаркаме партыі, колькі пра сутычкі з ляснымі бандамі, якія былі ў лясах на Лідчыне. І збіраўся ён ехаць у Літву, дзе было не менш небяспечна.*

* * *

У Літве Рыгор Аляксандравіч Сідарок працаваў звыш пяці гадоў – спачатку першым сакратаром Швянчонскага (Свянцянскага) павятовага камітэту КПЛ, а з ліпеня 1950 года – загадчыкам планава-фінансава-гандлёвага аддзела Віленскага абкаму партыі. У Літве жыла і яго жонка Ніна Васільеўна (ён жаніўся ў 1944 годзе), якая нарадзіла яму дзвюх дачок. Старэйшая дачка, Вера, нарадзілася ў 1945 годзе ў Лідзе. Малодшая дачка, Ліля, нарадзілася ў 1947 годзе ў Літве.

У пачатку 1952 года Рыгор Сідарок вярнуўся ў родную Беларусь. Амаль чатыры гады быў другім сакратаром Баранавіцкага гаркаму партыі.

***З успамінаў лідзянкі Алесі Аляксандраўны Бурак***

*У 1953 годзе мяне вызвалі ў калідор інстытуцкага інтэрната (у нашым пакоі жыло 20 чалавек), там стаяў дзядзька Рыгор. Я запрасіла яго ў пакой, дзе на вешалцы сохла мая сукенка (іх у мяне было дзве, адну я насіла, другую мыла). Ён запрасіў мяне ў магазін і купіў мне матэрыял на спаднічку і блюзачку, ведаючы, што я магу сама пашыць. Пазней я сабе пашыла і праз год у гэтай спадніцы выходзіла замуж, а блюзачку мне пазычыла на наша студэнцкае вяселле мая сяброўка Каралёва Іна. Затым мы зайшлі ў прадуктовы магазін, і ён накупіў мне шмат усялякіх прысмакаў і прадуктаў і запытаў у мяне: “Што яшчэ табе купіць?” “Солі”, – адказала я. Пасля ён аб гэтым расказваў ці то жартам, ці то са шкадаваннем. А мне было сорамна за такую просьбу. У мяне часта не было самага неабходнага, і на той час не было нават солі.*

*У гэты час дзядзька працаваў у Баранавіцкім абкаме партыі. Летам пасля трэцяга курса я не паехала, як звычайна, працаваць у піянерскі лагер, а наведала сям’ю дзядзькі ў Баранавічах. Памятаю прасторны драўляны аднапавярховы дом, у якім жылі ён, яго жонка Ніна Васільеўна і дзве дачушкі. Памятаю, што дом стаяў у вялікім садзе, дзе было многа яблыкаў. Да сённяшняга дня, сядаючы абедаць або снедаць, успамінаю дзядзькава павучанне: “З’ядаць са сваёй талеркі патрэбна ўсё, пакідаць ежу на талерцы некультурна”. І яшчэ ён сказаў: “Тая дзяўчына, якая*



***Рыгор Сідарок***

*есць хутка і з’ядае ўсё, будзе добрай гаспадыняй, так казалі нашыя продкі”. Стараюся быць такой, якой бы хацеў бачыць мяне мой дзядзька.*

* * *

З 1955 па 1961 год Рыгор Аляксандравіч Сідарок з’яўляўся адказным сакратаром Берасцейскага абласнога аддзялення таварыства па распаўсюджанні палітычных і навуковых ведаў. З лютага 1961 года Рыгор Аляксандравіч – персанальны пенсіянер. Партызанская вайна ў тыле ворага, самаахвярная работа ў пасляваенныя гады падарвалі яго здароўе.

***З успамінаў лідзянкі Алесі Аляксандраўны Бурак***

*Дзядзька Рыгор з сям’ёй жыў у Берасці, дзе працаваў у абкаме партыі. Ён быў членам ЦК КП(б)Б. У 1960 годзе ён сябе дрэнна адчуў, турбавалі раны, нанесеныя вайной, і яму прыйшлося звярнуцца ў лячэбную камісію (урадавая лячэбная ўстанова). І тут у кабінеце доктара яго паралізавала. Даведаўшыся аб тым, што ён ляжыць у Менску ў гэтай установе, я паехала да яго наведаць. Ён вельмі абрадаваўся; у размове з суседам па палаце (іх было ў палаце двое) назваў мяне любімай пляменніцай, хваліўся, што, нягледзячы на цяжкасці, я скончыла інстытут, і не прамінуў пажартаваць наконт таго, як я яго некалі папрасіла купіць “яшчэ солі”.*

*Цяжка і доўга хварэў Рыгор Аляксандравіч. Памёр на 61-м годзе жыцця 14 чэрвеня 1963 года. Пахаваны ён на Маскоўскіх могілках (зараз Усходнія могілкі) у Менску. Была на яго магіле двойчы...*

*У чэрвені 1967 года я павезла сваіх вучняў на экскурсію ў Менск. Пабывалі мы ў музеі Вялікай Айчыннай вайны. Сустрэліся з Гапеевым Яфімам Данілавічам, разам паехалі ў Малы Трасцянец – лагер смерці, пачулі аповед Рудзінскай – відавочца трагічных падзей, – узялі зямлю з месца пахавання ахвяр Трасцянецкага лагера смерці і прывезлі на Лідскі Курган Неўміручасці. З Яфімам Данілавічам многа гаварылі пра яго паплечніка па барацьбе з ворагамі, майго дзядзьку Сідарка Рыгора Аляксандравіча.*

*Кожны раз, наведваючы з вучнямі музей Вялікай Айчыннай вайны, я ім паказвала стэнд, на якім змешчаны фотаздымак майго дзядзькі Рыгора, яго дакументы і ўзнагароды.*

* * *

Вялікі і слаўны жыццёвы шлях прайшоў Рыгор Аляксандравіч Сідарок. Сын беларускай зямлі заўсёды заставаўся верным Айчыне і яе людзям. Баявыя і мірныя справы Рыгора Сідарка адзначаны многімі ордэнамі, медалямі і іншымі дзяржаўнымі ўзнагародамі. Сярод іх – ордэн Суворава II ступені, ордэн Працоўнага Чырвонага сцяга, медалі “Партызану Айчыннай вайны” I ступені, “За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг.”, “За доблесную працу ў 1941-1945 гг.”, Падзячная грамата Усесаюзнага таварыства ведаў, Падзячная грамата рэспубліканскага таварыства ведаў.

***З успамінаў лідзянкі Алесі Аляксандраўны Бурак***

*...І на працягу свайго жыцця дапамагалі мне дзядзькава аптымістычная вера пры пераадоленні цяжкасцей, цяга да ведаў, імкненне дасягаць намечаных мэты, здольнасць не адчуваць страху перад начальствам і перад пошукамі праўды, не баяцца ў жыцці перашкод, імкненне да таго, каб людзям, якія побач з табой, жылося лепш, імкненне верна служыць сваёй справе, любоў да дзяцей і выхаванне ў іх любові да Радзімы.*

*P. S. Жонка Рыгора Аляксандравіча Сідарка, Ніна Васільеўна, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, яго дочкі Вера і Лілея жывуць у Менску. У Лідзе жыве пляменніца Рыгора Аляксандравіча – Алеся Аляксандраўна Бурак, ветэран педагагічнай працы, паэтэса (маці Алесі Аляксандраўны была роднай сястрой Рыгора Сідарка). Пасля заканчэння Менскага педінстытута Алеся Аляксандраўна да самай пенсіі працавала на Гарадзеншчыне. Яе ўспаміны, а таксама дакументальныя звесткі ляглі ў аснову гэтага матэрыялу. Пры падрыхтоўцы матэрыялу, акрамя таго, былі выкарыстаны публікацыі аб Рыгору Сідарку ветэрана журналісцкай справы, колішняга рэдактара газеты “Уперад” (цяпер – “Лідская газета”) Аляксандра Васільевіча Жалкоўскага, якога, на жаль, ужо няма з намі.*

***Святлана Цішук,***
***лаўрэат Міжнароднага конкурсу***

# НА ВАСТРЫНІ ГІСТОРЫІ

## п'е с а

## Лірычна-эпічная гісторыя са старажытных часоў

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:**

**КНЯЗЬ**, сталага ўзросту,
**МАЦЕЙ**, 25 гадоў,
**ПАЛОНЯ**, за 22 гады,
**ЮЛІЯ**, 16 гадоў,
**АЛЯКСАНДР**, каля 30 гадоў,
**МАМКА**, сярэдняга ўзросту,
**БЛАЗАН**, каля 40 гадоў,
**ПРЫСЛУЖНІК**,
**ПРЫСЛУЖНІКІ, ВАЯРЫ,**
**ФАНАГРАМЫ** гукаў, галасоў, музыкі, саборных званоў,
**СВЯТЛО**.

*Падзеі адбываюцца напрыканцы 70-х гадоў 16 стагоддзя.*

*На сцэне: двор княжага замка.*
*Некалькі пар у ваярскім убранстве б'юцца мячамі, бердышамі, сякерамі, прыкрываючыся тарчамі.*

**ВАЯРЫ** *(молада, задзірліва)*: Гэй! Атрымай! Вось гэтак! Кось-кось! І табе ад мяне! Выбачай! О-то-то! Ліха цябе забяры! Не-не! Гуураа!!! Перамагу цябе...

*Чуваць па бруку цокат конскіх капытоў і грукат колаў цяжкога вазка. Паволі ўваходзяць Князь, абапіраючыся на кіёк, і Мацей у падарожным адзенні.*

**МАЦЕЙ:** Бачу, Ваша міласць, тутака ў вас усё без зменаў! Збройныя гульні...
**КНЯЗЬ** *(прыпыняецца)*: Мусім трымацца разумных звычак! Моладзь мусіць гартаваць сваю моц, каб выжыць, каб падоўжыць свой век паміж драпежных ваярскіх зграяў!
**МАЦЕЙ** *(спыняецца)*: І быць забітым у незлічоных крывавых бойках?! Як і ў цяперашней гінуць...
**КНЯЗЬ:** Гінуць! Гінуць дарагія нашаму сэрцу няўрымслівыя хлопцы! Хаця і ім можна з пашанай пакласці сваё маладое жыццё на крыж любай Айчыны!
**МАЦЕЙ:** За Айчыну можна!
**КНЯЗЬ:** Загінуць гэтак жа, як мае любыя сынкі, не паспеўшыя зведаць смаку доўгага чалавечага жыцця, не паспеўшыя пасталець...
**МАЦЕЙ:** Мае сябры-браты! Мае аднадумцы! Я з імі...
**КНЯЗЬ:** Загінуць гэтак жа,як і мае аднагодкі-прыяцелі ў мае далёкія маладыя гады, бурлівыя гарачымі недаравальнымі спрэчкамі і ваярскімі крывавымі бойкамі за свае землі...

*Невысокага росту Ваяр спыніў двубой з сябрам, перадаў яму зброю і пайшоў да Князя.*

**ВАЯР** *(спыняецца)*: Татачка, што гэта за чарговая чужаземная птушка да нас заляцела? Ці з Італіі? Ці з Турцыі? Ці з Масковіі? Ці з...
**КНЯЗЬ:** А ты ўглядзіся! Можа пазнаеш?
**МАЦЕЙ:** Не пазнае!
**КНЯЗЬ:** Не дзіва! Ты не аказваўся ў нас на працягу доўгіх пяці гадоў!
**МАЦЕЙ:** Я, будучы падоўгу ў далёкіх краінах, рэгулярна пісаў і дасылаў вам з аказіяў свае падарожныя назіранні і ўражанні! І я цікавіўся вашымі хатнімі...
**ВАЯР:** Ага! Вядома!
**КНЯЗЬ:** І я ў сваіх адказах на твае змястоўныя, найцікавейшыя для мяне апісальныя падарожныя, заўсёды шчыра запрашаў цябе да нас! Каб ты не мінаў...
**ВАЯР:** Мы ўсе з цікавасцю чыталі вашыя падарожныя і шмат даведваліся...
**КНЯЗЬ:** Я хацеў бачыць цябе, як роднага сына! Асабліва пасля таго, як мае сынкі... абодва... *(Выцірае слязу.)*
**ВАЯР** *(туліцца да Князя)*: Татачка! Не трэба...
**КНЯЗЬ** *(адхіляе Ваяра)*: То ўжо йдзі павітайся з ім!
**ВАЯР** *(здымае шышак, устрэсвае доўгія валасы)*: Я сардэчна вітаю вас на нашым падворку, шаноўны спадар Мацей!
**МАЦЕЙ:** Юлія?! Ужо не маленькая дзяўчынка, якая бегала за намі...
**ЮЛІЯ:** Ага! Я бегала за табой, за вамі, як смешнае ўлюбёнае шчаня за...
**КНЯЗЬ:** Калі гэта было? Тады трое маладых дзёрзскіх дзецюкоў, студэнтаў знакамітай навучальні, весела праводзілі вакацыі ў гэтым доме! А цяпер? Цяпер у мяне толькі адна Юлюшка...

*Вяяры, бавячыся зброяй, выходзяць. Адзін Ваяр, аддае зброю сябру, а сам застаецца на месцы, здымае шышак.*

**ЮЛІЯ:** Дарослая! Я ўжо не адзінаццацігадовая дурненькая дзяўчынка! Я ўжо...

**КНЯЗЬ:** Бачыш,якой яна ў мяне стала? А я, бы стары дуб, імкнуся сваімі слабеючымі сіламі прыкрыць малады, кволы дубок ад віруючых вакол яго маланак, навальніц... Ін спэ! З надзеяй на яе найлепшае будучае!

**ЮЛІЯ:** Я не кволая кветка! Я маю сілы, каб перамагчы кожнага, хто паспрабуе зняважыць мяне! *(Надзявае шышак.)*

*Уваходзяць некалькі Прыслужнікаў, несучы ў руках і на плячах цяжкія размаляваныя скрыні і куфры.*

**КНЯЗЬ:** Усё гэтае дабро нашага дарагога, доўгачаканага госця нясіце ў палаты! Яны прыгатаваныя для яго... Ды вы там асцярожней з паклажай!

**ПРЫСЛУЖНІКІ:** Слухаемся, Вашмосць! Але ж і цяжкая ношка! Чы малады пан з усіх земляў паназбіраў камянёў-круглякоў? І панакладаў у куфры...

**КНЯЗЬ:** Пагаварыце ў мяне! Нясіце! Ды лепш не спатыкайцеся!

**ПРЫСЛУЖНІКІ** *(выходзяць)*: Цяжкая ноошкаа...

**МАЦЕЙ:** Не сярдуйце на іх! Вашыя паслугоўцы кажуць справядліва! Я не сумняваюся! Ды ўсё ж мушу іх папярэдзіць... Дарэчы, а ў маім багажы, сапраўды, нялёгкі цяжар!

**ЮЛІЯ:** Цікава, што вы прывезлі да нас?!

**МАЦЕЙ:** Я прывёз да вас і да Літвы шматлікія іншаземныя кніжкі, цікавыя прадметы з Грэцыі, з Венгрыі, з Балгарыі, з Турцыі і, канешне, з Італіі! Я сам асабіста быў на раскопах і пазнаходзіў там...

**ЮЛІЯ:** Гуураа!!! Будзе чымсьці новым, цікавым заняцца! Дзякуй вам, Мацей!

**МАЦЕЙ:** Я разлічваў на вашу цікаўнасць! Я вам усім хацеў зрабіць прыемнае...

**КНЯЗЬ**: Я неверагодна ўдзячны табе, Мацей!

**ЮЛІЯ:** Дзякуй! Дзякуй Вам ад усіх нас, Мацей!

**МАЦЕЙ:** Яшчэ ў Кракаўскім універсітэце мы з маімі лепшымі сябрамі, з Вашымі, Ваша міласць, Піліпам і Лукашам, марылі аб навучальных вандроўках па розных, аддаленых ад нас, землях!

**КНЯЗЬ:** Я ведаў пра запаветныя мары маіх... сыноў!

**МАЦЕЙ:** Мы марылі аб далучэнні да іншаземных ведаў і, схаванай у дрымучых пушчах, Літвы! Нашыя вандроўкі былі б карыснымі...

**КНЯЗЬ** *(ціха плача)*: Ты, Мацей, застаўся жыць і за маіх сыноў! Ты застаўся адзін на яве здзейсніць і іхнюю мару! Я рады...

**МАЦЕЙ**: Сваімі далёкімі вандроўкамі па замежным краінам я, сапраўды, слугую і памяці маіх дарагіх, незабыўных ...

**КНЯЗЬ** *(слёзы ў вачах)*: А мае любыя сынкі падарожнічаюць цяпер... толькі ў глыбокай цемрадзі... Эрэбавага царства! А ты, Мацей...

**ЮЛІЯ** *(здымае шышак)*: Татачка, Вы далі мне слова, што не будзеце...

**КНЯЗЬ** *(выцірае вочы)*: Слова! Яго можна і стрымаць у сабе, прыціскаючы цяжкім каменем, які ляжыць на гаротным бацькавым сэрцы! Дзе толькі ўзяць сілаў?

**МАЦЕЙ:** Ваша міласць, і я гарую разам з Вамі!

**КНЯЗЬ:** Нялёгка...

**МАЦЕЙ:** Я з далячыні прасіў прабачэння ў маіх сяброў-браткоў! Я не быў поплеч з імі ў іхнім смяротным баі за Айчыну! Несканчоная Лівонская вайна!

**ВАЯР** *(падыходзіць да Князя)*: Князь, я прагну пазнаёміцца з Вашым новым госцем!

**КНЯЗЬ:** Канешне! Знаёмцеся! Мацей, гэта во княжыч Аляксандр! Ён гасцюе ў нас.

**АЛЯКСАНДР:** Вы, Мацей са Стрыкава! І мне давялося чуць пра вашыя далёкія падарожныя вандроўкі! І пра, хвалюючыя грамадства, напісаныя вамі Трактаты! Вітаю вас тут! Банжур! Гутэн таг! Хаў ду ю ду, вам!

*Мацей і Аляксандр рукаюцца.*

**ЮЛІЯ:** Гэта княжыч Аляксандр у нас госць? Ды ён тут атабарыўся...

**АЛЯКСАНДР** *(падыходзіць да Юліі)*: Юлюшка, Вы хочаце пакрыўдзіць мяне? А я...

**КНЯЗЬ:** Я думаў, што мая дачка ўжо дарослая! Гасцінныя гаспадары не гоняць госця з двара, ці ён прыбыў на кароткі дзень, ці на доўгія месяцы!

**ЮЛІЯ:** Але ж ён прыжыўся ў нас, як безмаёмасны прымачына! Я праўду кажу! *(Выбягае.)*

**КНЯЗЬ:** Княжыч, выбачайце ёй, калі ласка! Яна ж у мяне яшчэ неразумнае дзіця...

**АЛЯКСАНДР:** Князь, не прымайце да сэрца!

**КНЯЗЬ:** Мне сорамна за маю неразумніцу! Даруйце ёй, княжыч!

**АЛЯКСАНДР:** Я, сапраўды, пачуваю сябе ў Вашым светлым, прыветным доме лепш, чым у родным! Я прызнаюся, што ля Вас я перапоўнены лагоднымі пачуццямі, як вадою чыстая гаманлівая рэчка ля сценаў Вашага замка!

**МАЦЕЙ:** І я ўсім сэрцам далучаюся да вашых слоў, Аляксандр! Дарэчы, мясцовая рэчка нават шырэйшая за раку Маскву, на берагах якой я бываў, будучы ў стольным градзе Маскве!

**КНЯЗЬ:** Вы абодва сцяплілі маё зхаладалае сэрца... Я рады вам,так бы мовіць!

**МАЦЕЙ:** У шчаслівыя часы майго навучання я неаднойчы наязджаў сюды разам з сынамі Князя... Незабыўныя, шчаслівыя, вясёлыя часы бавілі мы тут!

**КНЯЗЬ:** Мацей, і я прывеціў цябе, як вартаснага сябра маім сынам! І я сам схіліў маё сэрца перад тваім, ужо тады бачным, неюнацкім розумам!

**МАЦЕЙ:** Потым я бываў тут, калі нёс нядоўгую службу ў Віцебскім палку! І калі ехаў з Масквы, дзе быў з пасольствам ...

**КНЯЗЬ:** Мацей цікава, дэталёва апавядаў нам

пра бачанае ім у замежных вандроўках! Пра звычкі, норавы, побыт невядомага нам люду...

**АЛЯКСАНДР:** Я ўжо заўважыў, што спадар Мацей і Вам, і Юлюшцы не чужы!

*Уваходзяць хуткім крокам Мамка і Палоня, вытанчана апранутая. Яны падыходзяць да ўсіх.*

**ПАЛОНЯ:** Дзядзя! Аляксандр! Нарэшце мы ўсе дачакаліся нашага любага падарожніка! Павітаемся? *(Цалуе Мацея ў вусны.)*

**МАЦЕЙ** *(адступае ад Палоні)*: І я вельмі рады бачыць вас усіх ...

**МАМКА:** Ай! Якім жа стаў дарослым і паважным! Хаця мінулі доўгія гады - рады, аднак твае лістывестуны не давалі нам запамятаваць пра нашага любага стрыкуна! Я малілася за цябе, Мацейка! Я жадала табе... *(Хрысціцца.)*

**МАЦЕЙ:** Дзякуй, табе, Мамка!

**МАМКА:** Мо і ты не забыўся былой ласкі ад Юлюшкінай мамкі?

**МАЦЕЙ** *(абдымае і цмокае Мамку)*: Я ніколі, нідзе не забываў: ні гэты гасцінны, утульны дом, ні вас усіх... Я ўспамінаў!

**ПАЛОНЯ:** Успамінаў? Нудзіўся? Гэта мы Вас успаміналі! Гэта мы Вас чакалі, прыслухоўваючыся да кожнага грукату колаў падарожнага вазка!

**КНЯЗЬ, МАМКА:** Ён памятаў!Мацей з маладых гадоў памятлівы сэрцам! Так бы мовіць...

**ПАЛОНЯ:** Не веру я, што ўдалячыні ад нас ён, купаючыся ў аксамітавых уражаннях, памятаў аб нашым сціплым местачковым існаванні! Хаця...

**КНЯЗЬ:** Палоня, не папікай Мацею! Ён праехаў да нас няблізкі шлях і...

**МАЦЕЙ:** Прыбываючы ў іншаземны край, я прывозіў туды маю мілосць да сваёй роднай зямлі! Для яе я дабрасумленна дбаў, выконваючы каралеўскую службу ў пасольствах!

**КНЯЗЬ:** Ён не ілжэ!

**МАЦЕЙ:** І я не цураўся мясцовага люду! Я цікавіўся мастацтвамі, літаратурай ...

**ПАЛОНЯ:** Шчаслівец! Як то добжэ... Ён бачыў, сузіраў адметны ад нашага свет! Зайздрошчу!

**АЛЯКСАНДР:** А для мяне працяглыя стамляльныя вандроўкі і, асабліва, калупанне ў людскім брудзе, у яго смуродзе - не мая стыхія! Агідна!

**МАЦЕЙ:** І ў замежных землях я быў неабыякавым сведкам вар'яцкіх адносінаў уладароў да прыгнечанага імі паспалітага люду! Хаця кожны чалавек прыходзіць у свет з роўнымі правамі...

**МАМКА** *(хрысціцца)*: Шкадую просты няшчасны люд...

**АЛЯКСАНДР:** Я не згодны з вамі, сээрр, мес'ё, дэр геерр! Мае падданыя не могуць быць са мной роўнымі ў правах!

**КНЯЗЬ:** На жаль, не ўсе ўладары ды князі клапоцяцца аб жываце сваіх падданых хаця б так, як у пушчы дзікі звер дбае аб сваім статку! Так бы мовіць...

*Убягае Юлія, апранутая ў ваяра, але без шышака. Яна падбегла да Мамкі і пашапталася з ёй.*

**МАМКА:** Я шмат удзячная табе! І я цябе шкадую! Пабегла б ты, Юлюшка, ды пераапранулася ў дзявочае ўбранне...

**ЮЛІЯ:** Адчапіся!

**МАМКА:** Зірні! Да нас такі пажаданы малады госць завітаў можа на тонкую саломінку-хвілінку, а ты яго сустракаеш ў вайсковым строі! Нягожа...

**ПАЛОНЯ:** Юлія ў нас не вытанчаная паненка, а...

**ЮЛІЯ**: А ты...А ты...

**КНЯЗЬ:** Дзяўчаты, зараз жа змоўкніце!

**ПАЛОНЯ:** Дзядзечка, гэта не я вінаватая! Гэта ваша любая дачушка не ўспрымае...

**МАМКА:** Пасаромцеся госця! Вам яго трэба сустракаць каханнем, а не...

**ЮЛІЯ** *(цмокае Мамку)*: Я пабегла пераапранацца!

**МАМКА** *(кладзе крыжы ў бок Юліі)*: Вось і добра! Бяжы, мая галубка!

**АЛЯКСАНДР:** Няўжо трэба дзявочым каханнем сустракаць гэтага запыленага з ног да галавы, змэнчанага далёкімі вандроўкамі? Не разумею...

**МАМКА:** Ды ўжо ж!

**КНЯЗЬ,ПАЛОНЯ:** Мацей варты кахання!

**МАЦЕЙ:** Дзякуй вам на добрым слове, мае даражэнькія сябры! Я...

**АЛЯКСАНДР:** Вы да яго з асаблівым замілаваннем, а ён праз дзень-другі пакіне вас, як няўдзячны...

**ПАЛОНЯ** *(бярэ Мацея пад руку)*: Няўжо хутка ад'едзеце? А мы...

**МАМКА:** А мы яму, як жарэбчыку, спутаем ногі, каб не ўскакаў ад нас! Ад дзяўчатак нашых.

**МАЦЕЙ:** На гэты раз, мае дарагія, я з'еду ад вас толькі тады, калі надакучу вам, і вы самі выпхнеце мяне!

**ПАЛОНЯ:** Не маніце?

**МАМКА:** Я ўжо патэпаю, паўзіраюся тамака на Юлюшку... Мо дапамагу ёй прыбрацца... Бывайце, спадары паны! *(Робіць паклон, выходзіць.)*

**АЛЯКСАНДР:** Гэтая Мамка заўсёды сунецца туды, дзе ёй не месца!

**КНЯЗЬ:** Мамка дабрэйшая частка нашага дому! Яна выгадавала, дагледзела, як найклапатлівейшая курка-маці ўсіх маіх дзяцей...

**ПАЛОНЯ, МАЦЕЙ:** І мяне!!!

**АЛЯКСАНДР:** Усё, усё! Я маўчу!

**КНЯЗЬ:** Мацей, ты, сапраўды, застанешся ў нас? Ці...

**МАЦЕЙ** *(адступае ад Палоні)*: Я паставіў ужо вялікі крыж на маёй вартасці для каралеўска-вялікакняскай службы!

**КНЯЗЬ**: Няўжо ты прыняў рашэнне?

**МАЦЕЙ:** Прыняў канчаткова! Бо па маім звароце з Канстанцінопаля, сам Кароль Рэчы Паспалітай забіў ува мне жаданне служыць! Феніта ла

камедыа! Я не шкадую...

**КНЯЗЬ:** Ты бона фінэ, добрасумленна, шчыра паслугаваў не толькі Каралю, але і сваёй Айчыне! Можаш ганарыцца, мой хлопчык! *(Абдымае Мацея на хвілінку.)*

**МАЦЕЙ:** Зараз у мяне дастане часу пісаць Гісторыю! Матэрыялаў у мяне...

**КНЯЗЬ:** Ты пісаў нам, што твае трактаты "Аб свабодзе Польскай і Вялікага Княства Літоўскага" і "Аб жорсткіх прыкладах нявол іншых каралеўстваў пад тыранствам Турцыі" наш Кароль успрыняў адмоўна!

**МАЦЕЙ:** Звышадмоўна! Яму не да спадобы...

**КНЯЗЬ:** Яму не спадабалася, што ты, яшчэ малады чалавек, а раіш самому, так бы мовіць...

**АЛЯКСАНДР:** Вялікім асобам не падабаецца, каб іх павучалі знізу нейкія там...

**КНЯЗЬ:** Шмат гаспадароў не прымаюць на дух слушных парадаў ад сваіх падданых!

**АЛЯКСАНДР:** А Вы, шаноўны Князь, не цураецеся ні надакучлівых разумнікаў, ні шалёных вынаходнікаў-майстроў, ні ...

**КНЯЗЬ:** Бо яны людзі з адметным розумам! Паслухаць гэткіх людзей - самому стаць багацейшым на розум!

**МАЦЕЙ:** Дзякуй Вам, дарагі Князь, за Вашу вялікую чалавечнасць! І Вы мяне...

**КНЯЗЬ:** Годзе вам! Кажуць, што кагось ухваляць - толькі псаваць!

**МАЦЕЙ:** Мы выказваем Вам нашу павагу і ўдзячнасць, бона фідэ!

**АЛЯКСАНДР, МАЦЕЙ:** Шчыра!!!

**ПАЛОНЯ:** Дзядзечка, мы Вас усе, усе любім, як найцудоўнейшага...

**КНЯЗЬ:** Я кажу вам: даволі! Вось любы нашаму сэрцу Мацей прыбыў пад наш дах і, я думаю, што ў цішы нашых ахоўных сценаў ён будзе пісаць...

**МАЦЕЙ:** Я занатую праўдзівыя падзеі вялікай Гісторыі! Я апішу...

**АЛЯКСАНДР:** Вы, як слынны грэк Ксенафонт, які напісаў дзеля наступных пакаленняў "Грэчаскую гісторыю"! Някепска! Аднак я...

**ПАЛОНЯ:** Някепска ведаць мінуўшчыну і свайго краю і іншых... Вельмі захапляльна чытаць!

**АЛЯКСАНДР.** І я не супраць пачытаць...

**ПАЛОНЯ:** А я чытала Мацеева "Апісанне Еўрапейскай Сарматыі"! Дарэчы, аўтарства якой нахабна прысвоіў сабе Мацеяў ганебны начальнік з Віцебска, падмануўшы нашага маладзенькага Мацейку!

**МАЦЕЙ:** Я даў яму рукапіс на прачытанне, а ён...

**КНЯЗЬ:** Сярод сыноў Адама хапае мярзотнікаў!

**ПАЛОНЯ:** Фу, на іх! І я, Мацей, чытала яшчэ ваш "Веснік дабрачыннасці", у якім вы даеце добрыя парады магутным уладарам, каб і яны...

**КНЯЗЬ:** Веданне гісторыі продкаў, якую даносяць да новых людзей гісторыяпісцы - гэта таксама парады для выбару новымі людзьмі жыццёвага кірунку ў свядомасць, у разумныя, а не дурныя дзеянні!

**АЛЯКСАНДР:** А ў мяне ў дадзены час адзіны кірунак - сардэчны інтарэс!

**ПАЛОНЯ:** Інтарэс да...

*Убягае, звонячы ў званочкі, Блазан.*

**БЛАЗАН** *(спыняецца ля Мацея, дастае з кішэні невялікі ручнічок, разгортвае яго і сцеле на зямлю ля ног Мацея, спявае):*

Прывітанне! Прывітанне!
Прыкаціў Мацей... Спатканне.
Мы разгортваем ручнік,
Каб Мацей ад нас не знік!
Будзь ласкавы, станавіся!
Бы анёлік прызямліся!

**МАЦЕЙ** *(узыходзіць на ручнік)*: Дзякуй табе, Блазне! Рады бачыць цябе!

**БЛАЗАН** *(бегае вакол Мацея, звоніць у званочкі):*

І я рады, рады, рады...
Сэрцам ты князю не здрадзіў!
Ты знайшоў сюды дарогу.
Дзякуй, дзякуй, дзякуй Богу!

**КНЯЗЬ, ПАЛОНЯ:** Не здраадзіў...

**МАЦЕЙ** *(сыходзіць з ручніка)*: Блазне, я памятаў і пра цябе з тваім незласлівым гумарам! У маім багажы і для цябе ёсць некалькі падарункаў з да Італьяна...

**АЛЯКСАНДР:** Пашчасціла табе, Блазне! З гэткай далячыні везці і для цябе...

**БЛАЗАН** *(спыняецца)*:

Дзякуй, дзякуй! Я шчаслівы!
Цяжка везці ганарлівасць.
Ну, а з лёгкай дабрынёй
Шлях лягчэйшы і зімой!

**КНЯЗЬ:** Справядліва кажаш, мой Блазне!

**АЛЯКСАНДР:** Можна паспрачацца...

**ПАЛОНЯ:** Кінь, княжыч! Нашага Блазна мо ніхто ў свеце не перагаворыць!

**БЛАЗАН:** У самую сярэдзіну трапіла, шаноўная! Дайце пацалаваць Вашу непараўнальную ручку! (*Мкнецца ўзяць руку Палоні.)*

**ПАЛОНЯ** *(махае рукой на Блазна)*: Адчапіся! Пайшоў ад мяне! Дзядзечка?!

**КНЯЗЬ:** Блазне, адыдзі ад Палоні! Ёй трэба ісці папільнаваць кухароў, каб...

**ПАЛОНЯ:** Дзядзечка, я прасачу, каб да абеду дзічына была добра прасмажаная, каб начынне да гусак і качак было зроблена па рэцэптах, каб тарты былі ўпрыгожаныя мігдалем, каб віны падабралі венгерскія, балгарскія...

**БЛАЗАН** *(торгае Палоню за спадніцу)*: Клапатлівіца- гаспадынька ў дзядзячкавым дамку!

**ПАЛОНЯ:** Пайшоў прэч, надакука! А вы тут, дзядзечка, не затрымлівайцеся! *(Павольна выходзіць.)*

**БЛАЗАН:** Хоць злуецца завіруха, цэлы я і маё бруха!

**КНЯЗЬ:** Сапраўды, хадземце! Мацею трэба

змыць з сябе падарожны пыл і пераапрануцца...

**БЛАЗАН** *(падымае ручнік і суне яго ў кішэню)*:
Хай ручнік ідзе дахаты...
Ён не любіць сваркі-звады...

*У багатым ружовым дзявочым убранні ўваходзіць Юлія, а за ёю Мамка.*

**МАЦЕЙ:** Юлія?! Няўжо гэтая чароўная прыгажуня - Юлія?

*Юлія і Мамка падыходзяць да ўсіх, спыняюцца і робяць паклон.*

**АЛЯКСАНДР:** Для мяне яна ніводнага разу не апранулася гэтак прыгожа...

**МАЦЕЙ:** Неверагоднае пераўвасабленне! Не чакаў...

**МАМКА:** У каго ёсць вочы, той бачыць!

**АЛЯКСАНДР:** І я бачу...

**БЛАЗАН** *(спявае)*:
Для ўлюбёнага дзяўчына
З быльнягу стане шыпшынай
І ружовай, і духмянай...
Твар каханай без заганы!

*Уваходзіць Палоня, спыняецца ля ўсіх.*

**ПАЛОНЯ:** Сталы накрытыя ў зале, а вы ніяк не разыдзецеся?! Юлія?! На каго ты падобная? Ніякага густу! І ружовы колер не пасуе табе!

**МУЖЧЫНЫ:** Ёй усё да твару!

**МАМКА:** А чорная зайздрасць не ўпрыгожвае на выгляд нават самую прывабную паненку!

**ПАЛОНЯ:** Гэта ты ў мяне сваімі нямоглымі сіламі камень шпурляеш? Ды я ведаю, што ты акрамя тваёй Юлюшкі...

**КНЯЗЬ:** Палоня, супакойся! Усё, хадземце ўжо ў дом! Мацей, цябе праводзяць да гваіх палатаў...

*Усе ідуць да выхаду.*

*Насустрач ім выбягаюць некалькі Ваяроў са зброяй .*

*Зацямненне. (Можна без зацямнення змяніць дэкарацыі.)*

**Чуваць лязгат зброі і воклічы:** Князёўна! Княжыч! Мы чакаем вас!

*Запальваецца святло. На сцэне інтэр'ер бібліятэкі: невялікая канапа, пісьмовы стол, на якім тоўстыя кніжкі, стос паперы, пісьмовыя прыналежнасці, малы столік, на якім посуд з фруктамі, ласункамі, напоямі, шахматны столік, на якім дошка з расстаўленымі шахматамі, ля шахматнага століка дзве лавачкі ці банкеткі.*

*Палоня паўляжыць на канапе, трымаючы кніжку. Мацей сядзіць за сталом, гартае кніжкі, піша.*

**ПАЛОНЯ:** Мацей! Можа зробіце перапынак? Можа звернеце ўвагу...

**МАЦЕЙ** *(піша, падымаючы калі-нікалі вочы на Палоню):* Даруйце, Палоня! Мне катастрафічна не хапае нават дваццаці чатырох гадзінаў на суткі, а Вы кажаце: адпачні!

**ПАЛОНЯ:** І адпачніце! І паўзірайцеся наўкола сябе!

**МАЦЕЙ:** Нее... Мне трэба прачытаць, цікавыя мяне, мясціінынь... Мне неабходна хутчэй занатаваць тое, што прыйшло на мае думкі...

**ПАЛОНЯ:** Бардзо мі пшыкра, што Вам не хапіла і амаль трох гадоў, на працягу якіх Вы наведваеце наш замак! Вы прыязджаеце да нас толькі дзеля нашай багатай бібліятэкі! Вы...

**МАЦЕЙ:** Не спрачаюся! Хаця я...

**ПАЛОНЯ:** Вам недастаткова, што вы з Сымонам Будным з Нясвіжа і з Воланам пераклалі з лаціны і надрукавалі ў друкарні вашых родзічаў вялікі трактат Маджэўскага "Аб выпраўленні Рэчы Паспалітай"? Вам...

**МАЦЕЙ:** Недастаткова! Мне трэба крыкам пісаць дзеля людзей! Дзеля ўзвышэння іхняй чалавечай годнасці! Дзеля іхняга самавыяўлення!

**ПАЛОНЯ:** Аах! І я люблю разумную кніжку! Як калісь напісаў Кірыла з Турава, розум кніжкі саладзейшы за мёд! Я згодная...

**МАЦЕЙ:** Чытаючы, усе дысцымус, вучацца!

**ПАЛОНЯ:** Я з асалодай чытаю і ідылічныя "Буколікі" Віргілія, і лірычныя санеты Пятраркі, і любоўныя элегіі Авідзія, і вашыя...

**МАЦЕЙ:** Я вельмі ўдзячны шаноўнаму Князю і вам, дарагая Палонія,што вы першыя мае чытачы, чуллівыя крытыкі і паважныя дарадчыкі!

**ПАЛОНЯ:** Вы ўдзячны нам?! А Вы сам... А Ваша душа...

**МАЦЕЙ:** А мая душа ціраніць, прысільвае мяне працаваць, праацааваць, не сочачы за часам, за цікаўнымі...

**ПАЛОНЯ:** Так Вы не ўгледзіце ні вачэй, ні душы, закаханай у Вас, дзяўчыны!

**МАЦЕЙ:** Шкода! Аднак я мушу збіраць па бібліятэках матэрыялы для напісання маёй "Кронікі Польскай, Літоўскай, Жмудскай і ўсёй Русі"

**ПАЛОНЯ:** І мае шматгадовыя далікатныя, пяшчотныя пачуцці нябачныя Вам...

*Убягае Юлія, апранутая ў ваярскае адзенне, але з непакрытай галавой.*

**ПАЛОНЯ** *(сцішана)*: Агідная ваярка! Яе толькі не хапала тут! *(Да Юліі.)*

Па якой гэта прычыне наша ўсімі любая князёўна спадобілася пакінуць свае недзявочыя ваярскія гульні і завітаць у высокі храм літаратуры?

**ЮЛІЯ:** Я забегла да вас,бо вы ўсё гарбееце над кніжкамі, а некаторыя і над гэтым пісьмовым сталом:

**ПАЛОНЯ:** Вядома, хто гарбее!

**ЮЛІЯ:** Я жадаю зараз жа выцягнуць вас з гэтага затхлага скляпення на чыстае, празрыстае

вераснёўскае паветра! Гайда са мной! Хопіць вам...

**МАЦЕЙ** *(устае, падыходзіць да Юліі)*: Юлія, дзякуй Вам,што вы завіталі да нас! Якраз мне трэба з Вамі...

**ПАЛОНЯ** *(устае, ідзе да стала, кладзе кніжку)*: О-о-о! Мацей? Ты, дарагая наша Юлінька... А Вы, Мацей...

**ЮЛІЯ:** Мацей, дык ідземце са мной! Нельга больш любіць кніжкі,чым...

**МАЦЕЙ:** Я люблю, аднак...

**ПАЛОНЯ:** Мацей, мне сорамна за Вас! Па першаму поклічу ...Юліі Вы, як цыркавы баран ускокваеце і стрымгалоў кідаецеся выконваць яе не вельмі ўжо і шляхетнае пажаданне! Вы ж не такі лёгкадумны, як...

**МАЦЕЙ:** Палонія, Вы несправядлівы! Наша любая князёўна Юлія не цураецца ведаў ні ў грамадзянскіх навуках, ні ў мастацтве...

**ПАЛОНЯ:** У яе ўсе веды - лёгкія матылькі на кветніку! А я...

**МАЦЕЙ:** Дарэмна Вы...

**ЮЛІЯ:** Маю стрыечную сястрычку старыць зайздрасць да мяне! Бо я...

**ПАЛОНЯ:** Ты... Ты... Ды я не старэйшая за Мацея! І ў нас з ім...

**ЮЛІЯ:** А нашаму любаму Мацею на дванаццаць гадоў болей, чым мне! Так?

**МАЦЕЙ:** Справядліва! Аднак, Юлюшка, Вы клікалі нас... І Вы пойдзеце з ёю?

**ПАЛОНЯ:** А я перад Вамі...

**ЮЛІЯ.** Уга, Палонячка! Мне шкада цябе! Хадземце ўжо, Мацей!

*Мацей і Юлія выходзяць.*

**ПАЛОНЯ** *(корпаецца ў паперах Мацея і, дастаўшы спісаны ліст, моўчкі чытае яго)*: Ааа! Неверагодна! Гэты ліст да Юліі... Мацей, мой любы Мацей напісаў ёй, ёй, гэтай зпеставанай высокім становішчам і багаццем... Ён прама кажа, што кахае яе! Яе, а не мяне! Не мяне, якая пакланяецца яму, як Богу! Ува, якія прыгожыя, узнёслыя словы ён піша... Але ж не для мяне гэты яго слоўны мёд! Стоп! У лісце Мацей не называе імені Юліі... Гэта мой шчаслівы шанец!

*Уваходзіць Мамка.*

**МАМКА:** Палонюшка! З чаго гэта ты расчырванелася больш за ружу? Няўжо ты нарэшце атрымала чаканую табой прапанову? У гэтым лісце...

**ПАЛОНЯ** *(бярэ сваю кніжку і кладзе ў яе ліст)*: А табе, Мамка, абавязкова трэба пра ўсё і пра ўсіх ведаць?! Ты, бы старажытны прывід, сноўдаешся па замку!

**МАМКА:** Ты, Палонюшка, чымсьці моцна раздражнёная... Мо...

**ПАЛОНЯ:** Можа і раздражнёная! Увогуле, цябе ды і іншых прыслужнікаў не павінна турбаваць...

**МАМКА:** Як жа гэта я не магу хваляваца за цябе? Ды ты ж для мяне...

**ПАЛОНЯ:** А мне тваё хваляванне...

**МАМКА:** Калі ты, Палонюшка, засталася няшчаснай сіроцінкай пасля смерці тваёй слабой на здароўе матулі і пасля няўдалага палявання на зубра твайго таткі, любага брата нашага Князя, то Князь не пакінуў цябе ў тваім сіроцтве...

**ПАЛОНЯ:** Хопіць мне нагадваць! Ты...

**МАМКА:** І наш добры Князь узяў цябе ў свае харомы і прыставіў мяне да цябе, Палонюшка! А потым я пры Юлюшцы... І яе матулю неспадзявана забраў да сябе Бог! Неймавернае гора было нашаму любаму Князейку...

**ПАЛОНЯ:** Я кажу табе змоўкнуць!

**МАМКА:** Вось Юлюшка ўжо вырасла, але не пагарджае сваёй Мамкай, як ты! Яна памятае...

**ПАЛОНЯ:** Усё Юлюшка ды Юлюшка! А я...

**МАМКА:** З нейкай злой прычыны ты часцей і часцей раздражняешся! Дапамажы табе, Божа, супакоіцца і... *(На адлегласці хрысціць Палоню.)*

**ПАЛОНЯ:** Я не дазваляю табе... Я для цябе цяпер высакародная паненка, а не...

**МАМКА** *(згінаецца ў паклоне)*: Высакародная паненка Палонія...

*Уваходзяць Князь і Блазан, спыняюцца.*

**БЛАЗАН:** Мамка?! Ты што гэта? Няўжо з-за сваёй любові да нашай разумніцы паненкі Палоні, ты ўжо пераўвасобілася ў мяккую лаўку для яе?

**КНЯЗЬ** *(дапамагае Мамцы разагнуцца)*: Палоня, з якой прычыны твая Мамка была перад табой у прынізлівай паставе, як звычайная прыслужніца?

**ПАЛОНЯ:** А хто яна як не паслугоўка? Надакучыылаа...

**БЛАЗАН:** Наша слічная паненка Палоня і руку пагрэбуе падаць сваёй Мамцы, каб тая разагнула здранцвелую спіну!

**МАМКА:** Нічога! Мяне не ўбудзе! І крыўда не бруд, які трэба змываць вадою! Палоня...

**КНЯЗЬ:** Палоня, ты мяне непрыемна ўразіла! Не чакаў я ўбачыць ад цябе...

**ПАЛОНЯ:** Ды я... Адчапіцеся вы ўсе ад мяне! *(Шпарка выходзіць.)*

**БЛАЗАН:** Пабегла! Здаецца, ніхто не абварыў яе крутым кіпенем!

**КНЯЗЬ:** Штосьці неверагоднае дзеецца з маёй ураўнаважанай, разумнай пляменніцай! Не разумею...

**БЛАЗАН** *(спявае)*:

Бы за пазухай у Бога,
Сіраціначка жыве.
Злосцю точыць яна рогі,
Каб пырнуць цябе, мяне!

**МАМКА** *(хрысціцца)*: Пашкадуй, Божа, сірату тваю Палоню! Дай ёй, Божа... Пайду адшукаю яе! Суцешу... Распытаю... *(Выходзіць.)*

**БЛАЗАН:** А мяне нешчаслівага ніхто не сагрэе цяпельцам шкадавання!

**КНЯЗЬ:** Незвычайная нервовасць Палоні дзівіць мяне! Не разумею...

**БЛАЗАН:** Шаноўная нездагадлівасць, Вы самі збудавалі мураванку прэцэдэнта!

**КНЯЗЬ:** Пра што ты?

**БЛАЗАН:** Нашай паненачцы Палоні ўжо набегла амаль трыццаць немалых гадкоў, а яна ў нас ні малжонка, ні матка, а аголеная ўзімку галінка здранцвелай ад зімовых маразоў яліны! Ёй сцюжна і пад гарачым сонцам, і ...

**КНЯЗЬ:** Ты, менавіта, ведаеш, што тут маёй віны няма! Яна сама нізавошта не згаджалася ісці пад вянец ні з адным самым прыстойным жаніхом!

**БЛАЗАН:** А Вам, Ваша мяккасць, трэба было ў спрыяльны момант і прысіліць яе дзявочую неразумнасць!

**КНЯЗЬ:** На жаль, я не здольны прысільваць сваёй воляй дарагіх майму сэрцу людзей! Я...

**БЛАЗАН:** Калі ляйчыны аслабляць, каня ў шаленстве не стрымаць!

**КНЯЗЬ:** Вядома...

**БЛАЗАН:** Дарэчы, Ваша асляпенства, як я пільна падглядзеў, наша паненка Палоня ўжо доўгую нізку гадкоў сохне па любаму намі спадару Мацею!

**КНЯЗЬ:** Я згодны, што іх абодвух блізіць любоў да чытання кніжак, да гісторыі...

**БЛАЗАН:** А наш шаноўны пан Мацей з сваіх блакітных вачэй пускае гарачыя стрэлы Амура зусім у іншым кірунку ад бядачай Палоніі!

**КНЯЗЬ:** У якім гэта іншым кірунку?

*Уваходзіць Прыслужнік.*

**ПРЫСЛУЖНІК** *(робіць паклон)*: Ваша міласць, ужо ўсе спадары з’ехаліся... Вас чакаюць у зале!

**КНЯЗЬ:** Хадзем! Бо справы, якія нас тычацца, не павінны доўга чакаць!

*Князь і Прыслужнік выходзяць.*

*Блазан бярэ яблык і садзіцца да шахматнага століка, есць яблык і перастаўляе шахматныя фігуры.*

**БЛАЗАН:** Справы грамадства! Складаныя справы! Але, дзякуй Богу, наш з розумам у галаве Князь добра дбае пра іх. Бог даў нашаму ўладнаму Князю справядлівае сэрца. Князь сурова патрабуе з сваіх намеснікаў, каб у яго вотчыне мелі моц законы і правы для ўсяго люду! Аднак...

*(Кладзе недаедак яблыка, п’е напой, ідзе да канапы і кладзецца на яе, заплюшчвае вочы.)*

Пакуль у гаспадароў няма патрэбы ў камедыянце - Блазне, то я ўжо сам сабе дазволю трошачкі, з верабейкаў нос, пакімарыць!

*Уваходзяць Мацей і Юлія, апранутая ў ваярскае адзенне, але з непакрытай галавой. Яны спыняюцца.*

**МАЦЕЙ:** Каханая мая, Юлюшка, паверце, што я Вам не хлушу!

**ЮЛІЯ:** Даруйце мне, неразумнай дурнічцы! Я марыла аб Вас! Я чакала! Я спадзявалася! І вось...

**МАЦЕЙ:** Я адкрыў вам сваё, вельмі закаханае вас, сэрца! Я...

**ЮЛІЯ:** А я, менавіта, чакала, што Вы іначай скажаце мне пра свае мілосныя пачуцці да мяне!

**МАЦЕЙ:** Як гэта іначай?

**ЮЛІЯ:** Па-рыцарску! Па...

**МАЦЕЙ** *(апускаецца на адно калена, цалуе руку Юліі)*: Я вельмі, вельмі моцна кахаю Вас, мая найсвятлейшая князёўна! Вы адна для мяне...

**ЮЛІЯ** *(апускаецца на адно калена, дае другую руку Мацею)*: І я... І я горача, горача кахаю толькі Вас, Мацей! Толькі Вы адзін для мяне...

*На канапе заварушыўся Блазан.*

**МАЦЕЙ, ЮЛІЯ** *(ускокваюць,раздымаюць рукі)*: Блаазаан?!

**МАЦЕЙ:** Не хвалюйцеся! Бачыце, ён моцна спіць, як пасля ўдалага продажу каня на вялікім торжышчы! Бачыце, ён і вухам не павёў!

**ЮЛІЯ:** Не чуе? Не бачыць? Ну, няхай яго, спачывае! А мы хадземце адсюль! Нам не патрэбны сведкі, хаця б і сонныя!

*Мацей і Юлія выходзяць,узяўшыся за рукі.*

**БЛАЗАН** *(расплюшчыў вочы)*: Ха-ха! Увача відку перада мной гучалі пяшчотныя галасы сапраўд нага кахання! А во! Нехтачкі ідзе сююдыы?! Няўжо каханкі вяртаюцца? *(Устае, хаваецца за спінку канапы.)*

*Уваходзяць Палоня і Аляксандр, апрануты пасвяточнаму.*

**АЛЯКСАНДР** *(падыходзіць да стала)*: Відаць, тут нехта актыўна пісаў!

**ПАЛОНЯ** *(падыходзіць да Аляксандра)*: Тут піша, занатоўвае новыя гісторыі Мацей Асастэвічус! Яго не спыніць! Хаця ён ужо і напісаў цікавейшы Слуцкі летапіс, аднак...

**АЛЯКСАНДР:** Гэты адпеты вандроўнік-гісторык яшчэ ў вас? Штосьці ён затрымаўся!

**ПАЛОНЯ:** На жаль, на працягу трох гадоў Мацей толькі час ад часу наязджае да нас...

**АЛЯКСАНДР:** І з якой такой патаемнай прычыны ён яшчэ карыстаецца ласкай, апекаваннем дабрадзейнейшага з князёў?

**ПАЛОНЯ:** Шмат прычынаў! А майму дзядзечку з Мацеем цікава разважаць аб усім на свеце! Яны разумеюць адзін аднаго! Яны думаюць анолькава! Яны...

**АЛЯКСАНДР** *(садзіцца да шахматнага століка, перабірае фігуры)*: Нехта гуляў у шахматы...

**ПАЛОНЯ** *(падыходзіць да Аляксандра)*: Мы ўсе любім гэтую складаную захапляльную гульню! Толькі вось Юлія не здольная працяглы час уседзець за імі! Яна ў нас...

**АЛЯКСАНДР:** Мінула гадавіна па смерці майго любага бацькі... І я, як толькі ўвайшоў у мае

спадчынныя правы, то без затрымкі паскакаў у любы майму сэрцу край! Да вас... Да яе...

**ПАЛОНЯ:** І Вы ўжо з Божай ласкі не шляхетны княжыч, а ўладарны князь! Ваша міласць! Я радая за вас! Бардзо мі пшыемнэ!

**АЛЯКСАНДР:** Шкада ўсё ж, што з залежных княжат робіць уладарных князёў толькі смерць іхніх любых князёў-бацькоў!

**ПАЛОНЯ:** А мо і нялюбыых...

**АЛЯКСАНДР:** Я імчаў да вас і страшыўся непапраўных зменаў у вашым замку!

**ПАЛОНЯ:** Аніякіх зменаў да лепшага ў нас няма! Замак стаіць на тым жа шырокім шляху з поўдня на поўнач, як заезны двор! З усіх бакоў едуць і едуць, не мінаючы нас...

**АЛЯКСАНДР:** Бойкае месца!

**ПАЛОНЯ:** І незлічоныя пасольствы з розных чужаземных краёў, і паспешныя каралеўскія людзі, і панагружаныя багатым таварам абозы купцоў, і знакамітыя лоўкія майстры, і шматлюдныя ваярскія атрады...

**АЛЯКСАНДР:** Я сам, калі гасцяваў у вас, дзівіўся з гэткага наплыву людзей, коней, вазоў! Хаця і маю вотчыну не мінаюць...

**ПАЛОНЯ:** Вазы, коні, гразь, смырод, бруд! І ўсіх прывячай! І да ўсіх выглядай гасціннай! Надакучыла! Абрыдла! Але мой дзядзячка-князь для ўсіх расчыняе брамы замка... Ён не шкадуе ні нас, ні сваё хворае сэрца!

**АЛЯКСАНДР:** Я ўвесь час страшыўся, што для мілай Юліі Князь знайшоў вартага яе кахання жаніха!

**ПАЛОНЯ:** Знаходзіў! Аднак гэтая дурнічка імгненна давала адмову ўсім!

**АЛЯКСАНДР:** Няма чаму дзівіцца! Гэта Вы, Палоня, падалі ёй годны прыклад!

**ПАЛОНЯ:** Я...

**АЛЯКСАНДР** *(устае)*: На гэты раз я прыімчаў да Князя, каб атрымаць згоду на мой шлюб з Юліяй... А яна сама адмовіла...

**ПАЛОНЯ:** Я прадбачыла гэта!

**АЛЯКСАНДР:** А цяпер я...

**ПАЛОНЯ:** У мяне ёсць дзейсны сродак: дапамагчы Вам у дасягненні вашай запаветнай мэты!

**АЛЯКСАНДР:** Нават мой сёняшні высокі статут не ...

**ПАЛОНЯ:** Князь, Вы потым будзеце ўдзячны мне! У маіх руках найкаштоўнейшы ліст, напісаны да... У тым лісце самыя гарачыя прызнанні ў каханні, але імя дзяўчыны не выпісана! І я...

**АЛЯКСАНДР:** Божухны! Як я жадаю...

**БЛАЗАН** *(сцішана)*: Аёячкі! Штосьці злое, нядобрае сунецца на маю любую князёўначку!

**ПАЛОНЯ:** Усё для Вас будзе вшыстка добжэ! Тэкст у лісце я папраўлю! Бо і я... А зараз хадземце адсюль, бо пан Мацей можа хутка ўвайсці!

*Палоня і Аляксандр выходзяць. З-за канапы вылазіць Блазан.*

**БЛАЗАН:** Божухны! Няўжо хтось па-вар'яцку можа раздзерці залаты пояс мілоснага кахання, які звязвае маю князёўну і пана Мацея?

*Зацямненне. (Можна без зацямнення змяніць дэкарацыі.)*

*Запальваецца святло.*
***На сцэне:*** *Інтэр'ер княжай гасцёўні.*

*Мацей у падарожным убранні і Юлія, апранутая ў ваярскае ўбранне, але з непакрытай галавой, цалуюцца.*

**МАЦЕЙ:** Юлюшка, я еду ў Супрасль на самы кароткі тэрмін! Вы нават не паспееце засумаваць! Мне неабходна...

**ЮЛІЯ:** Рэчаце адно, а самі будзеце адсутнічаць неймаверна доўга! Як у іншыя разы...

**МАЦЕЙ:** Цяпер я не затрымаюся! Абяцаю! Кахааюю...

**ЮЛІЯ:** Вам недастаткова было вандровак па кніжніцах усяго Вялікага Княства?! Па Рэчы Паспалітай?! Па...

**МАЦЕЙ:** Жэбы праўдзіва апісваць падзеі далёкія ад нас у часе ці цяперашнія, мне патрэбны сведчанні аб іх ці ад непасрэдных сведкаў бачанага,ці з пісьмовых занатаванняў са слоў сведкаў тых, цікавых для мяне, падзей! Будзьце ласкавая! Паразумейце мяне, мая любая, мая...

**ЮЛІЯ:** Мой залаценькі, каханенькі Мацейка, я вельмі, вельмі разумею, але я не ў сілах больш нудзець у чаканні Вас! Мой...

**МАЦЕЙ:** Каханая мая! Я таксама без Вас не здольны ...

**ЮЛІЯ:** Я не адмоўлюся мыць Вам ногі, як у даўнім часе ганарлівіца Рагнеда з Полацка адмовілася мыць ногі жорсткаму, нахабнаму гвалтаўніку, кіеўскаму князю Уладзіміру!

**МАЦЕЙ:** Дзякуй! Бо я не той вар'ят-князь, каторы сілком згвалтаваў Рагнеду, папярэдне, без жалю, забіўшы яе абаронцаў: родных ёй бацьку і братоў!

**ЮЛІЯ:** Ненавіджу таго вялікага князя! Паскуднік! Мярзотнік! Забойца!

**МАЦЕЙ:** Хаця князь Уладзімір і ўзяў Рагнеду за жонку! Хаця яна і нарадзіла князю і ўзгадавала годных дзяцей, але ж з гісторыі не выкінеш ніводнай добрай ці злой падзеі! Тэмпі пассаці! Мінуулаaее...

**ЮЛІЯ:** Каханенькі мой! І я ніколі, ніколі не збягу ад цябе, не схаваюся ў манастыры, як калісь збегла ад нягожага, нялюбага жаніха маладзенькая і не дурненькая цнатлівіца Прадзіслава з Полацка! Во!

**МАЦЕЙ:** А потым яна свядома выбрала сабе жыццёвы шлях да Бога! Яна стала Еўфрасінняй, дабрасардэчнай, клапатлівай ігуменняй манастыра!

**ЮЛІЯ:** А я і не падумаю пайсці ў святыя чарніцы! Абовем, я не ўмею хадзіць пакорлівай авечкай! А цяпер я шчаслівая, прышчаслівая! Мой любы...

**МАЦЕЙ:** І я найшчаслівейшы, што Вы, ты дала

згоду быць маёй жоначкай! Калі я вярнуся з Супрасля, то буду прасіць у яго міласці Князя тваёй рукі!

*Мацей і Юлія цалуюцца. Уваходзіць Прыслужнік.*

**ПРЫСЛУЖНІК** *(робіць паклон)*: Кхе-кхе!

**ЮЛІЯ** *(у абдымках Мацея)*: Мяленцій?! Ты чаго тут? Пайшоў адсюль!

**ПРЫСЛУЖНІК** *(у паклоне)*: Мяне прыслалі далажыць пану Мацею, жэ коні запрэжаныя! Коні...

**МАЦЕЙ** *(аслабаняе Юлію)*: Дзякуй табе! Скажы, што я хутка выйду!

**ЮЛІЯ:** Ідзі ўжо! Ідзі, Мяленцій! Перадай, што пан Мацей будзе праз хвіліну!

**ПРЫСЛУЖНІК** *(выходзіць сніной у паклоне)*: Далажу, мае спадары!

**ЮЛІЯ** *(здымае з шыі ланцужок з крыжыкам і надзявае яго на шыю Мацею)*: У далёкім краі памятай пра сваю нарачоную жоначку! Няхай сцеражэ цябе Бог ад бяспамяцтва і ад спакуслівага вока іншай дзяўчыны!

**МАЦЕЙ** *(цалуе крыжык,здымае з свайго пальца пярсцёнак з блакітным каменчыкам і надзявае яго Юліі на безыменны палец правай рукі)*: А табе мой пярсцёнак! Каб ты...

**ЮЛІЯ** *(цалуе пярсцёнак)*: Гэты блакітны сапфір, бы вашы блакітныя вочы! Я буду яго цалаваць цалаваць... Я буду чакаць вас, Мацей, як Пенялопа чакала Адысея!

*Мацей і Юлія цалуюцца.*
*Уваходзіць Палоня, спыняепца.*

**ПАЛОНЯ:** Мацей?! Вы ўжо развітваецеся з Юліяй? І я Вас шукала ...

**МАЦЕЙ** *(адпускае Юлію, бярэ руку Палоніі і цалуе яе)*: Давайце, развітаемся! Шчасліва Вам заставацца... Не сумаваць...

**ПАЛОНЯ:** Каб жа не сумаваць па Вас, мой дарагі суразмоўца?! Бардзо мі пшыкра. *(Абхоплівае Мацея за шыю, цалуе яго ў вусны.)*

*Уваходзіць Мамка.*

**МАМКА:** Што гэта за фартэлі пры Юлюшцы? Вам не брыдка?

**МАЦЕЙ** *(адхіляе Палоню)*: Мамка, мы развітваемся!

**МАМКА:** Мо галубок не назаўжды адлятае ад нас за дрымучыя пушчы?

**МАЦЕЙ** *(падыходзіць да Юліі)*: Не назаўжды...

**ПАЛОНЯ** *(падыходзіць да Мацея і бярэ яго пад руку)*: То хадземце ўжо?

**МАМКА** *(на адлегласці хрысціць Мацея)*: У добры шлях табе, Мацейка! І на хуткае вяртанне да нас!

**МАЦЕЙ** *(адводзіць руку Палоні)*: Я і з табой развітаюся, Мамка! *(Цмокае Мамку.)*

**МАМКА:** Божа міласцівы, упільнуй і захавай...

*Уваходзяць Князь і Блазан, спыняюцца.*

**КНЯЗЬ:** А я думаю, дзе ж гэта наш падарожнік забавіўся? А ён тут, навідавоку маіх прыгажуньдзяўчат, цалуецца з Мамкай?!

**МАМКА** *(адступае ад Мацея)*: І я калісь была зграбнай, прывабнай дзяўчынай... Калісь была...

**МАЦЕЙ:** Я ўжо развітаўся з усімі і магу ехаць!

**БЛАЗАН** *(бегае вакол Мацея, звоніць у званочкі, спявае)*:

Ен развітаўся! Развітаўся!
А сум у сэрцайку азваўся?
Кажы, Мацей! Бы слуп каменны,
Чаму стаіш ты задуменна?
Дык не знікай ты, галубочак!
Патрэбны ты дзявочым вочкам!

**МАЦЕЙ:** Вярнуся, як мага хутчэй!

**ЮЛІЯ** *(бярэ Мацея пад руку)*: Я праводжу Вас да вазка!

*Уваходзіць Аляксандр, апрануты ў паўсядзённае княжае адзенне, спыняецца.*

**БЛАЗАН** *(спыняецца)*: А вось і міласцівы князь Прыпазняльшчык з'явіўся! Мы тутака развітаемся... Жадаем нашаму пану Мацею мяккага і раўнюткага шляху...

**АЛЯКСАНДР**: А я чакаў вас удвары! Алес гутэ вам, Мацей! Шчаслівага шляху...

**МАЦЕЙ:** Дзякуй Вам, князь, за добрае пажаданне!

**МАМКА:** Усім будзе бракаваць адсутнасць намі любага пана Мацея! Асабліва...

**КНЯЗЬ:** Таму мае дзяўчаткі аніяк не хочуць адпускаць яго ад сваіх спадніц!

**ЮЛІЯ, ПАЛОНЯ** *(бярэ Мацея пад другую руку)*: Не хочам!!!

**АЛЯКСАНДР:** Зайздроошчуу...

*Уваходзіць Прыслужнік.*

**ПРЫСЛУЖНІК:** Вашмосць! Можа скажаце свайму парабку раз і назаўсёды: чы едзе пан Мацей, чы не? Калі не едзе, то трэба раз і назаўсёгды распрэгчы коней. Бо няшчасныя коні змучаліся, стоячы гэтулькі часу. Вашмосць?!

**БЛАЗАН:** Зацягнулася расстанне, бо пры ім слязіць каханне!

**ЮЛІЯ, ПАЛОНЯ** *(сцішана)*: Маёё каахааннее...

**МАЦЕЙ:** Мяленцій справядліва кажа! Мы ідзем!

**АЛЯКСАНДР:** Дзіўныя вы людзі! Князь, у Вашым доме спагадлівыя адносіны да чорнага люду парушаюць іерархічны закон грамадства...

**КНЯЗЬ:** Усе людзі перад Богам роўныя!

**БЛАЗАН** *(звоніць у званочкі)*: Роўныя людзі? Адзін вышэйшы дуб у полі - другі ніжэй за князяў посах, які, як ліпка, абязголены...

**МАМКА** (хрысціцца): Не прывядзі, Гасподзь!

**ПРЫСЛУЖНІК:** Вашмосць?!

**КНЯЗЬ:** Мы ідзём ужо, Мяленцій! Хадземце!

*Усе выходзяць, акрамя Аляксандра.*

**АЛЯКСАНДР** *(ходзіць)*: Ну і княжы дом! Нейкаму безмаёмаснаму галаце-бакалаўру тут увагі болей, чым высакароднаму... Я ездзіў сюды, лічыў час, калі Юлюшка падрасце... А Князь? Ён абяцаў за Палоняй немалы пасаг... Аднак, без кахання... Хаця багацця ніколі не бывае залішне!

*Уваходзіць Палоня.*

**ПАЛОНЯ** *(падыходзіць да клавесіна, грае невясёлую мелодыю)*: Мацей ад'ехаў! А ў нас сёння на тэатры збіраліся прадстаўляць смешную "Кароткую гутарку паміж трыма асобамі: Панам, Войтам і Плябанам" Мікалая Рэя... Гатуюцца паставіць "Дэкамерона" Джавані Бакачыа...

**АЛЯКСАНДР** *(падышоў да Палоні)*: А мне сёння не да гумару! У мяне сёння найчарнейшы з дзён!

**ПАЛОНЯ:** І мне не да камедыі... А вось нашай Юліі...

**АЛЯКСАНДР:** Не ведаю, што мне рабіць! У які бок...

**ПАЛОНЯ** *(грае бравурную мелодыю)*: А можа нам пашанцуе? Можа і ў Вас, і ў мяне будзе шчасце? Хутка пабачыым...

**АЛЯКСАНДР:** Безнадзейна! Юлія хоць і маладзенькая, аднак характар у яе - крэсіва!

**ПАЛОНЯ** *(перастае граць)*: Я ўмяшаюся! Дзяўчатам, асабліва маладзенькім, уласціва рэзкая змена кірунку ў сваіх сардэчных справах! Я...

**АЛЯКСАНДР:** Палоня, я не думаю, што нечае ўмяшанне паспрыяе... Каб абыйшлося без бяды, трэба пакінуць усё, як ёсць!

**ПАЛОНЯ:** І не падумаю адмаўляцца! Я выкарыстаю свой шанец! Мам надзею...

**АЛЯКСАНДР:** Пасля адбыцця вашага бакалаўра, усе паразыходзіліся хто куды! Дзе...

**ПАЛОНЯ** *(устае)*: Дзядзя падаўся на выган агледзець ваярскі полк! Полк сёння рушыць ваяваць! А Юлія, мабыць, з дзядзем! Дзе лязгат зброі, там шукай яе!

**АЛЯКСАНДР:** І я...

**ПАЛОНЯ:** Было б лепей, каб вы, улюбёнцы ў зброю і ў крывавыя сечы, не палявалі на падобных сабе людзей, а па пушчах заганялі ў сіло лясную дзічыну! Ці лепш палявалі б на вялікакняскіх альбо каралеўскіх балях...

**АЛЯКСАНДР:** Мы не цураемся палявання! Паляваць - лоўкасць, сілу выяўляць!

**ПАЛОНЯ:** А то ў які бок ні зірні за межы Княства, усюды стачэнні, бойкі, сечы да крыві чалавечай, да смерці няўчас! Не! Добра, што мой Мацей не ваяр...

**АЛЯКСАНДР:** А мне цяпер - у самы час... Я з сваімі людзьмі далучуся да княжага палка! На сечу! У Лівонію! Зараз жа! *(Выбягае.)*

**ПАЛОНЯ** *(стоячы, рэзка б'е па клавішах клавесіна, перастае граць)*: Слабы князь Аляксандр! Ашалеў ад непадзеленага кахання! А я буду змагацца за сваё каханне не ваярскай зброяй, а...

*Уваходзіць Юлія, апранутая ў дзявочае ўбранне.*

**ЮЛІЯ:** Палоня! Сястрычка! Я радая, радая! Я паведаю табе найвялікшы сакрамант! Я хутка, хутка стану венчанай жона...

**ПАЛОНЯ**: Для мяне не таямніца, што князь Аляксандр дамагаецца тваёй рукі!

**ЮЛІЯ** *(цалуе пярсцёнак на сваім пальцы)*: Ды не! Гэта...

**ПАЛОНЯ:** Мусіць, мой дабрэйшы дзядзечка даў дазвол?!

**ЮЛІЯ:** Палонька, ты ўсё перавярцела! Аляксандр - толькі мой лепшы сябар! А з сябрамі не заручаюцца!

**ПАЛОНЯ:** І дарэмна!

**ЮЛІЯ** *(дэманструе руку з пярсцёнкам)*: Палонюшка, толькі табе адной прызнаюся аб нашым з Мацеям вялікім каханні! Аб нашых з ім таямнічых заручынах! Гэта яго пярсцёнак!

*Чуваць моцныя навальнічныя грымоты. (Можа відаць і бляск маланак.)*

**ПАЛОНЯ:** Юлія, ты яшчэ няшмат разумееш! Слухай, нават жудасная навальніца папярэджвае цябе! Твой намер з Мацеем можа не спраўдзіцца!

**ЮЛІЯ:** Не страшуся я ніякіх прадказальных навальнічных грымотаў! Ён...

**ПАЛОНЯ** *(з ліфа сукенкі дастае і разгортвае пісьмовы ліст)*: Мацей табе абяцаў, а мне пры развітанні перадаў гэты ліст! *(Перадае ліст Юліі.)*

**ЮЛІЯ** *(чытае ліст)*: Палонюшка, калі я вазвярнуся з Супрасля, то мы з табой... пойдзем... да алтара! Мы з табой... Ааа!!! *(Кідае ліст у Палоню, здымае пярсцёнак, кідае яго на падлогу, плача.)* І ён напісаў?! Не пасаромеўся! Ліслівы ашуканец! Падманшчык! Мяне...

**ПАЛОНЯ** *(складвае ліст і хавае яго ў ліф сукенкі)*: Юлія, я спачуваю табе! Ты не адна дзяўчына на зямлі, кінутая каханкам!

*Уваходзяць Мамка і Блазан.*

**МАМКА:** Юлюшка?! Што гэта значыць? Чаму ты натапыраная, як котка?

**ЮЛІЯ** *(кідаецца на грудзі Мамкі, плача)*: Таму! Таму!! Мацей ашуканец! Ён падмануў мяне... А я... А ён казаў...

**МАМКА:** Не можа быць! Мацей праўдзівы!

**БЛАЗАН:** Калі пан Мацей казаў, што кахае цябе, то ён казаў крышталёвую праўду!

**ПАЛОНЯ:** А ты, Блазне, змоўкні! Справы гаспадароў - не твае справы!

**МАМКА** *(выцірае Юліі вочы)*: Дачушка мая!

Сонейка нашае...

**ЮЛІЯ** *(адступае ад Мамкі)*: Вы не верыце? А ён... ён кахае іншую! Я ведаю, што мне рабіць! Я... *(Выбягае.)*

**БЛАЗАН:** Наша паспешніца нікому з нас не дала веры! Я прадчуваю нядобрае...

**МАМКА** *(пасляшае за Юліяй)*: Юлюшкаа... Дзеетаачкаа ... Паслухай сваю Мамку!

**БЛАЗАН** *(схіляецца перад Паloняй)*: Міласцівая панначка, Вы ўзвалілі на сваю душу найцяжэйшы грэх, які ўсё жыццё будзе ціснуць вас да самай зямлі! Маліцеся, панначка!

**ПАЛОНЯ** *(штурхае Блазна, які падае)*: Пайшоў вон, дурань!

**БЛАЗАН:** *(паўлежачы)*:

Адчыняе Бог вачысты
рай дурным, а не нячыстым!
*(Ускоквае, звоніць у званочкі, выбягае.)*
Рай дурным, а не нячыстым!!!

**ПАЛОНЯ:** Я дамаглася! Цяпер Мацей толькі мой! Моой...

*Уваходзіць Князь, абапіраючыся на кіёк.*

**КНЯЗЬ:** Пляменнічка, ты адна? Чамусь стаміўся я сёння... *(Садзіцца ў крэсла.)*

**ПАЛОНЯ** *(падыходзіць да Князя, цалуе яго)*: Не дзіва, што Вы стамляецеся! Не кожны малады князь здолее вынесці гэткую неймаверную колькасць спраў, якімі займаецеся Вы!

**КНЯЗЬ:** Каб я асабіста не наглядаў за ўсім,то не было б у маёй вотчыне ні ткацтва, ні кавальскіх, ні ганчарскіх адметных мастацкіх вырабаў, ні...

**ПАЛОНЯ:** Усе рэчы на нашыя патрэбы дастаўлялі б нам купцы. І так вязуць з усіх зямель розныя мануфактуры, каштоўнасці, віны, ласункі, садавіну...

**КНЯЗЬ:** Дадай да свайго спісу італьянскіх, нямецкіх настаўнікаў, мастакоў, музыкаў, дойлідаў...

**КНЯЗЬ, ПАЛОНЯ:** І на ўсё гэта патрэбны грошы! Талеры...

**КНЯЗЬ:** Дынарыі, дукаты, соліды, шылінгі...

**ПАЛОНЯ:** Орты, драйпёркеры, патагоны...

**КНЯЗЬ:** Рыксдаальдары! Так бы мовіць, мы не бедствуем ў сваёй вотчыне! І мы шчодра адпраўляем ў розныя землі багатыя здабыткі нашай зямлі...

**ПАЛОНЯ:** Рыба, дзічына і...

**КНЯЗЬ:** Нешта я сёння стаміўся...

*Уваходзяць Аляксандр і Юлія, апранутыя ў ваярскае адзенне, з надзетымі на галовы шышакамі, са зброяй у руках.*

**ЮЛІЯ:** Мой любенькі, татачка! Мы з князем Аляксандрам прыйшлі развітацца...

**ПАЛОНЯ:** Дзядзечка, відаць, ваша дачушка нарэшце дала згоду князю Аляксандру! І яны зараз ад'язджаюць у яго вотчыну! Віншуюю ўсіх наас!!!

**КНЯЗЬ** *(цяжка ўстае)*: Палоня, памаўчы!

**АЛЯКСАНДР:** Ваша міласць, я і Юлія... Мы...

**ЮЛІЯ:** Мы далучаемся да нашага ваярскага палка і з ім рушым у паход!

**АЛЯКСАНДР, ЮЛІЯ:** У Лівонію! На сечу!

**КНЯЗЬ, ПАЛОНЯ:** Ааа?!

*Зацямненне.*

*Чуваць гукі рога, іржанне і цяжкі храп коней, лязгат жалезнай зброі, шматгалосныя крыкі*: "Гайда,!!! Бі іх! Напеераад!!! Усёё!!! Мы перамаглііі... Гуураа!" *асобныя мужчынскія выкрыкі:* "Князь Аляксандр?! Князёўна?! Параненыя! Забіітыыяя!!!", *і адзін мужчынскі голас:* "Ваяры, любых нашым сэрцам маладога князя і ваярку - князёўну мы з вялікай пашанай даставім у іхнія вотчыны!" *Мужчынскае шматгалоссе:* Мы з вялікай пашанай даставім іх!!!

*Паўза.*

**Голас Князя:** Каго гэта мае ваяры нясуць на насілах? Нешта я не ўгледжу...

**Голас Мамкі, яе плач:** Юлюшка мая! Твае глыбокія раны ўжо не крываточаць! Не баляць!

**Голас Князя:** Мая... любая... донюшка... не дыхае?! А яна ж гэтак марыла... папаляваць зубра... на каралеўскім паляванні...

**Праз слёзы голас Палоні:** Дзядзечка мой родненькі! Прынамсі, я не жадала гэткага зла нашай Юлюшцы! Даруйце мне, калі ласка!

**Голас Блазна:** Ягамосць?! Наш любы князейка не дыхае... Гора ўмее забіваць - людзі ўмеюць дараваць!

*Чуваць пахавальны звон саборных званоў.*
*Запальваецца святло.*

*На сцэне: высокая канторка, на канторцы кандэлябр са свечкамі, пісьмовы прыбор і тоўстая разгорнутая кніжка.*

*За канторкай стаіць і піша Мацей, апрануты ў аблачэнне каноніка.*

**МАЦЕЙ** *(перастае пісаць, кладзе пяро)*: Вось, нарэшце я з Божай дапамогай скончыў сваю "Кроніку Польскую, Літоўскую, Жмудскую і ўсеях Русі"! На календары ўжо тысяча пяцьсот восемдзесят другі год! Мінула чатыры гады з той пары, як нявінная душа маёй незабыўнай, адзінай каханай Юлюшкі адыйшла, адляцела ў вечнасць! *(Хрысціцца, бярэ кніжку з канторкі.)*

Гэтая мая "Кроніка" будзе, застанецца неўміручым напамінам чалавецтву пра жывых людзей, быўшых на вастрыні сваёй складанай Гісторыі! Аман! Амінь!

*ЗАСЛОНА.*

*Чуваць жыццясцвяржальныя гукі саборных званоў.*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Ліда, Іўе**

Паехаў, бо звар'яцеў бы. Мацеры паведаміў, што магу сядзець рэшту зімы ў Лідзе, у нашым памяшканні, зарабляць рэпетытарствам і самому рыхтавацца да светлай будучыні - навучання ва ўніверсітэце.

Лідскае жытло цяпер стала жудасным. Бацька "ўтрымліваў пры жыцці" сталоўку, дзе спаў, і кухню, дзеварыў сабе гарбату. Я мусіў “ажывіць" свой пакой: дзень у дзень паліць стаяк, прыбіраць ложка, падмятаць...

Марозы пастаянна дакучалі. Нібы павінна была ратаваць Ліда, але толькі з Банева падавалася яна шчасцем. Зблізку ж аказалася замкнёнай у сваіх драўляных дамках, прысеўшая на кукішкі пад снегам, чужая. У школу не было чаго ісці. Максімовіч пайшоў у адборную школу падхарунжых. Шрэдар быў у Вільні. Гэтыя з чарговага восьмага класа глядзелі на мяне з павагай значна меншай, чым год назад: што з тога, што меў атэстат, калі кінуў па-дурному школу падхарунжых ва ўмовах найменш абдуманых.

"Гэтыя" - то яшчэ можна было вытрымаць, але "тыя"! Хадзіў часам на прываткі, звыкла на Маргі, у тую чароўную вёску, якая ўчапілася амаль у цэнтры горада. Дзяўчаты глядзелі на мяне як на пустое месца. Нічым іх не здзіўляў: быў у кепскім "цывільным" убранні, быццам чорным, на шыі меў цвёрдую манішку, накладзеную на падцяжкі, са стаячым каўнерыкам і штучнай мушкай. Падчас забавы заўсёды нешта там вылазіла - то манішка перакручвалася, то каўнерык саскакваў са спінкі, то мушка ўцякала некуды на карк. Наогул тая вопратка д'ябальскі спрыяла крытынскаму выразу твару.

Што я мог значыць супраць пышных падхарунжых, маіх "збеглых" таварышаў! Выступалі ў цёмнасініх портках, пад шыяй мелі хлясцікі з выкрунтасамі са срэбра, нават на рукавах нешта цікавае. На карнавал прыехала ў Ліду пару студэнтаў. Ах тыя іхнія "батораўкі" з далікатна шэрага аксаміту.

Дзяўчаты не гладзелі на мяне. І тым больш я вылупліваў вочы на іх. Нейкі домік у найбяднейшым квартале. Праводзіў туды пару раз адну з найпрыгажэйшых - як мне здавалася на той час - дзяўчат свету, Ірку Раўбянку (Роўба). Нейкі час выглядала на тое, што не варожая мне. Потым вярнуўся дадому з традыцыйным нічым. Так я тым праняўся, што аж хварэў. Ад тога часу, зрэшты, я старанна пазбягаў усялякіх выпраў, на якіх мог бы яе выпадкова спаткаць. Здалося мне, не бачыў яе наступныя трыццаць гадоў. Ведаю толькі, што выйшла замуж за аднаго з герояў краіны, славутага Баяна, які ў той час адбываў службу ў тым жа лідскім 5 лётным палку.

Пад Вялікдзень я неяк супакоіўся. У лідскім асяродку была вялікая сенсацыя: пасялілася тут нейкая незвычайна элегантная сям'я з дзіўным прозвішчам Вішаватыя. Трапіў туды з нейкай аказіі. І тут была панна, яшчэ далетак, але ўжо вялікі, таксама Ірка. Яшчэ непрытомны пасля Раўбянкі адразу ў яе закахаўся. Выслужваўся перад ёю досыць доўга, дзякуючы чаму спазнаў чацвёрты бок лідскага свету.

Гляньце на карту. Ліда - гэта пункцік, у якім перасякаюцца дзве чыгуначныя лініі: поўнач - поўдзень паўднёвы захад і паўночны ўсход. Поўнач - гэта Вільня, поўдзень - гэта таксама нешта канкрэтнае: Баранавічы, потым Палессе, потым недзе там Львоў. Паўднёвы захад - гэта Варшава.

Паўночны ўсход пусты. Некалі ехалі тудой у бок Пецярбурга. Але мяжа абрэзала гэтую лінію. Ніколі туды не ездзілі. Не было чаго.

Якраз туды я і выбраўся. Праз некалькі кіламетраў ад найбліжэйшай станцыі Гаўя ляжала найвялікшае мястэчка Лідскага павету Іўе. Каля яго быў вялікі маёнтак. Там кіраваў пан Вішаваты, як адміністратар ад, не памятаю ўжо якой, зямянскай сям'і.

Быў гэта вялікі, добра ўпарадкаваны маёнтак з броварам. Я правёў там пару чароўных дзён. Чароўных, бо нікога з іх не памятаю, ні аднаго скандалу не выклікаў. Памятаю мястэчка. Было гэта велізарнае зграмаджэнне вясковых дамоў, заселеных галоўным чынам яўрэямі. Быў вялікдзень, гэта значыць усюды было чыста. На пясчаных, па вясенняму святочных вуліцах падлеткі качалі маляваныя яйкі; гэтая велікодная гульня ў праваслаўны "бойлінг" была у той час абсалютна ўсеагульнай. Білі таксама маляваныя яйкі ў іншай канкурэнцыі: на вытрываласць. І той спорт быў усеагульны. Спрытнюгі здабывалі яйкі цацарак, меншыя але выключна моцныя. Калі ўскрывалася іхняе ашуканства, вінаватых білі тым больш бязлітасна, што свята, а значыць гарэлка.

Потым вяртанне. Было сонца, першая зелень, цёплы вецер. У Іўі сядалі на смешную вузкакалейную

---

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POLWIEKU. Mlodosc.”** Czytelnik, Warszawa, 1962.

матароўку. Вішаватыя нас праводзілі. Ірка махала хустачкай. Цюхця сапла, трубіла. На паваротах і "пад'ёмах" запавольвалася. Мы выскаквалі, рвалі палявыя кветкі. Здаецца, нават, недзе там сышла з рэек. Здаецца. Бо памятаю, што было нешта вельмі весела. Бадай ці не ў наступны год Іўе пайшло з дымам. Быў гэта адзін з найвялікшых пажараў у краіне. Нават з Ліды прыязджалі пажарнікі, тое ж LOSO.

**Наваградак, Гдыня**

Гэтае лета я меў старанна запоўненае. На весну Ліда прызвычаілася ўжо да мяне нанава. Кіпан у траўні зрабіў роваравую выцечку ў Наваградак. Паведамілі, што прынялі і мяне. таксама нешта прыгожае. Трыццаць хлопцаў на ціхіх, лёгка падтрэнваючых машынах. Наперадзе Кіпан, я адразу пры ім, як найстарэйшы з падначаленых. За намі парамі астатнія.

Бітай шашой даехалі да Нёмана, на поўдзень ад Банева. Пераехалі яго па драўляным, яшчэ жоўтым, з пахам жывіцы мосце. Далей хутка мінулі падлідскія сухія сасныякі, выехалі ў цудоўны змешаны бор з велізарнымі ёлкамі, клёнамі, бярозамі, у густы, змрочны, ап'яняльна халодны. Цяпер у траўні востры кантраст паміж яснай зеленню бяроз і чорнай ёлак. На палянках грамадамі канваліі.

Абвешаныя букетамі з іх дабраліся да Наваградка.

Што гэта за чароўнае стварэнне! Малы гарадок, які не мае нават дваццаці тысяч жыхароў, здалёк ад вялікіх дарог - бо з найбліжэйшай станцыі Наваельні, трэба было ехаць хіба што трыццаць кіламетраў па пакручастай вузкакалейцы, без ніякай "індустрыялізацыі". Чаму тут разлічылі размясціць ваяводства? Бо, можа гэта прыклад непасрэднага ўплыву вялікага землеўласніцтва на гісторыю наважытнай Польшчы? Можа культ Міцкевіча? Можа таму, што Баранавічы за блізка ад мяжы.

Класічны сярэднявечны горад, бо на пагорку. На яго вяршыні рэшткі замка, пакрушаныя і знішчаныя стокроць больш, чым у Лідзе. Але від адтуль прыгожы на гэты сельскі злёгку перасечаны край, поўны кучак зелені і сельскіх домікаў. Глядзець адтуль можна было гадзінамі - такія далёкія і прыемныя былі віды.

За замкам вяршыню гары займала нешта накшталт плошчы. На ўсе бокі, як вясковыя ручайкі сплывалі з яе вуліцы. Адна ў другую поўныя зелені і схаваных у ёй па шыю дамкоў. Якраз цвіў бэз, цвілі познія паўночныя яблыні.

Вось і ўсё. Факт, што тут размяшчалася ваяводства, уплываў на горад падвойна: то тут, то там на схілах гары выраслі вялікія, некалькіпавярховыя камяніцы з кватэрамі для ўрадоўцаў. Ну і - было тут вельмі чыста.

Пашвэндаліся трохі па горадзе. Паглядзелі домік Міцкевіча. Быў такі самы, як куча суседніх, г.зн. вельмі мілы. Выехалі за горад, ціснулі на педалі пару кіламетраў: Свіцязь.

Возера плоскае, у плоскіх берагах, зарослых лесам, брыдкім, бо на балоцістым грунце. Пастаялі на беразе, паглядзелі. Без асаблівых эмоцый рушылі назад: яшчэ на мне адбіўся Неснар.

У Наваградку чакаў нас матч па баскетболу і валейболу з мясцовай гімназіяй. Баскетболу я не любіў, але, не гледзячы на гэта, мяне ўвапхнулі ў каманду. Здаецца, мы прайгралі. У валейбол перамаглі. Гэта было прыгожа ў сутнасці рэчаў. Поле каля руін замка. На лаўках некалькі дзесяткаў гледачоў, пераважна падлеткаў, сярод іх шмат дзяўчат. Падтрымлівалі "сваіх". Міла было глядзець на іх пасля перамогі.

З тых паглядаў выйшла знаёмства. Дзяўчына называлася дзіўна, бо Караліна. Правёў яе да дому. Бэз моцна пах. Яна жыла ў адным з такіх домікаў.

Д'яблы ведаюць, чаму выбраўся да яе яшчэ раз, ужо чыгункай. Адбыў гамерычнае падарожжа цюхцяй. Мы сядзелі ў нейкай цукерні. Ужо цвілі каштаны. Было вельмі добра. Усё распаўзлося не вядома як і чаму.

Але тая роваравая выправа так мне прыйшлася да густу, што калі пад канец школьнага году зрабілі паездку на Свята Мора ў Гдыню, запісаўся і я. Мы занялі некалькі вагонаў, спалі на полках, я на найвышэйшай. Якое задавальненне ў добрым крыклівым таварыстве імчацца недзе на Ваўкавыск, Сядлец, Варшаву! Потым доўгая дарога. Ноч, станцыя, якая назвай сваёй наследуе грукат разагнанага цягніка: Дзялдава.

Потым раніца. Крык ля вакон. Кідаюся, распіхваю іншых, высаджваю галаву праз акно.

Цягнік павольна цягнецца. Ззаду вялікія пагоркі, усе ў соснах. Наперадзе ж нешта ўражвальнае: шэрая алавяная застылая маса, вельмі нізка пад намі, але затое выразна ўздымаеццца ўверх далёка на гарызонце.

Такім яго ўбачыў у першы раз, шэрым, не гледзячы на сонца. Бо ранняе сонца толькі выбіралася з вады. Стаяўшае дуба мора, здаецца расло ўверх: бо бачылася зверху.

Ужо таго віду хапіла б, каб заплаціць за цяжкасці падарожжа. А наперадзе была яшчэ Гданя, чароўнае месца яшчэ ў разбудове, а ўжо з кучай сваіх уласных адметнасцяў, з прыгожым заплеччам зялёных гор, з шырокімі вуліцамі, якія збягалі да мора, з грамадай караблёў, натоўпамі людзей, марскім пляжам, малымі цукеранькамі, чыстая па-познаньску, прыемная па-галіцыйску, вясёлая па-варшаўску. Як жа моцна ўплывала яна на нашыя красовыя душы.

Вяртанне таксама вясёлае. У першую гадзіну ночы, ледзьве жывыя ад недасыпання, бо дзве папярэднія таксама амаль не спалі, высаджваемся ў Лідзе. Хуткія развітанні, і вось я маршырую дадому. Далёка да таго ваенкамата, але мне марыцца пасцель і сон, трымаю фасон, хутка буду.

Толькі на ганку дому прытомнею. Ключа няма. званю. Нікога. Бацька, напэўна, паехаў у Банева.

Роспач. Абходжу вокны. Усе зачыненыя. Можа разбіць? Можа шукаць прытулку у каго-небудзь у горадзе. Агарнула мяне злосць. На злосць самому сабе пастанавіў: ісці ў той жа час у Банева.

Быў гэта, мабыць, найпякельнейшы паход у

маім жыцці. Мінуў Ліду, выйшаў на шашу. Не стома была найгоршай, а санлівасць. Пераканаўся, што можна спаць ідучы. Цемната, светлае палатно шашы, чорныя абрысы кустоў. Думаю: як шкода, што Шрэдара няма, пераначаваў бы... Ужо бачу Шрэдара, яго іранічную ўсмешку, вось прыходзіць Маслінскі, мабыць мае для мяне нешта кепскае, не памятаю што. Кручу галавой, прачынаюся. Прайшоў нейкія пару крокаў, зноў.

Прыдумаў. Каб адагнаць соннасць, сто метраў бягу, сто метраў іду. Гэтага і сон не вытрымаў: спаць на бягу не ўдаецца. А праз наступныя сотню быў занадта задыханы, каб мне нешта прыснілася.

Конскае лячэнне дапамагло. Адолеў тыя дваццаць кіламетраў. За Мінойтамі злавіў "другое дыханне". Цудоўны пах вільготнага начнога пылу.

Над Пескамі святло. Дом. Маці дае мне шклянку халоднага малака і кавалак дамашняга сырніка.

Што за раскоша: чыстая прасціна, падушка, цішыня. І, канешне, прыступ бяссоніцы.

**Дакудава**

У той час пачаліся першыя візіты маіх гасцей у Банева. Маці прымала ўсіх вельмі гасцінна, але звычайна нешта ў некім ёй не падабалася, і развітанні былі больш халодныя. Найчасцей справа была ў манерах, вопратцы, поглядах - з прэтэнзіямі, сказаў бы, снабістычнымі.

Усе мы, зрэшты, былі ў тым пункце прачулыя. Усе - гэта значыца таксама і сабака Бурак. Адным вясковым днём з'явілася ў нас вельмі модна прыбраная кампанія аж з Ліды. Сярод іх быў на пару гадоў малодшы за мяне таварыш З. Незвычайна элегантны, у светлай вопратцы, портках-гольф і доўгіх панчохах фантастычнай афарбоўкі.

Наш заўсягдатай Жорж Германюк паказваў яму сядзібу. Пазнаёміў таксама з Буркам. Мы ўсе глядзелі цераз акно, абодва панове разгаварыліся каля будкі. Бурак глядзеў, глядзеў, падышоў да З., абнюхаў яго лыткі, а потым адвярнуўся, падняў нагу...

У тое лета я спазнаў яшчэ дзве мясціны, якія адыгралі вялікую ролю ва ўсім маім перадваенным жыцці. Ад хвілі, калі бацька наважыўся ўзяць асадніцкі ўчастак у Баневе, нас бесперапынна перасьледавалі мястэчка і вёска Дакудава. Аперавалі гэтым звычайна тыя, хто адраджваў бацьку пасяленне над Нёманам: "Але ж, пан палкоўнік (бацька атрымаў падпалкоўніка недзе ў 1929 годзе), там жа пад бокам Дакудава!"

Мела гэта быць найбольш зладзейская, бандыцкая, распіўшаяся вёска ў ваколіцы.

Была найбліжэйшая да Банева і, напэўна, бедная, бо з яе прыходзілі на работы, на ворыва, сенакосы, жніво, капанне бульбы, у той час як з суседніх, але з другога боку - Ганчароў, неяк ніхто не кваліўся.

Дзялянка наша налічвала звыш трыццаці гектараў, як бы падзеленых нёманскім адхонам. Унізе ляжалі вельмі добрыя, заліўныя што вясна лугі, далей дубовая гаі, над самым Нёманам зноў сасьнякі з астаткамі нямецкіх акопаў. Вышэй ад адхону, як ужо гаварыў, былі бедныя пяскі з пятнаццаць гектараў заморанага сасновага лесу і некалькі гектараў вельмі слабой ворнай зямлі.

Бацька, як начальнік ваенкамата, атрымоўваў каля тысячы злотых. З іх значная частка ішла на ўтрыманне дзялянкі. Па-просту не выпадала там нічога не сеяць, хоць збіралася жыта жменя, плацілі жнянцам у два разы болей, чым варты быў ураджай. Толькі бульба аплачвалася, кормячы ўвесь дом і дазваляючы гадаваць свіней для ўласнага ўжытку. Каровы і птушкі свойскія таксама мелі сэнс у тым асаблівым гаспадарчым укладзе: кармілі, хоць вымагалі розных даплат прыслузе.

У першыя банеўскія гады недахопу ў той прыслузе ніколі не было: служка "для ўсяго", у першую чаргу для кармлення "жывёлы", як там гаварылі, і для дапамогі матцы ў цяжкіх хатніх работах. На сезон з'яўляўся нейкі стары пастух, пераважна рыбак. Акрамя таго, як ужо гаварылася, кожная работа ў полі змушала шукаць дапамогі на вёсцы.

З-за гэтага мусіла дайсці да стасункаў што-раз больш травалых з Дакудавым. Прыходзілі адтуль сяляне, сядзелі, пераважна, у кухні, там дзе маці бывала найчасцей, доўга-доўга маўчалі, палілі, плялі глупства. Потым абгаворвалася міжнароднае становішча, людскія стасункі, навіны з гуты "Нёман", з Ганчароў, нарэшце з самога Дакудава. Праз пару гадзін дайходзілі да сэнсу рэчы.

Адразу складвалася ўсё даволі дзіўна. Дакудава: вёска п'яніц, зладзеяў, бандытаў. Кружнеў вершык:

"Адкудава?
З Дакудава
А чыя ты?
Даўлюдава.
А як імя?
Маруся.
А што робіш ?
..."

Дарыфмуйце самі. Даўлюдаў там было многа, яны і прадстаўлялі мясцовае "ядро цемры". Але потым прыходзілі хлопцы, працавалі дзяўчаты, усё было прыязна, без прыгод, крыкаў, лаянкі. Гаварылі: з Дакудава, але вельмі прыстойныя, дадаючы: вядома, там поўна зладзеяў, але гэта Даўлюды. Бандары і г.д. Потым прыходзіла на жніво Даўлюдаўна, вясёлая, высокая, працавітая і прыемная дзяўчына. Аказвалася, што яна з лепшай лініі Даўлюдаў, у адрозненне ад астатніх, як вядома, зладзеяў і г.д.

Маці праседжвала з дакудаўцамі цэлыя гадзіны. Слухала, сама гаварыла. Галоўным чынам у талстоўскім сэнсе. Пазней гэтыя стасункі выклікалі, напэўна, і ў яе самой зрухі ў палітычнай свядомасці. Ва ўсякім разе была нечувана дасведчаная ў справах ваколіцы. Ніколі не пакідаючы Банева, ведала пра ўсё, што робіцца на адрэзку дваццаці кіламетраў: да Ліды, Іўя, Беліцы.

Пад канец банеўскага перыяду стасункі паміж ёй і Дакудавым узмацніліся яшчэ больш. Дакудава



*Над стромай у Баневе. Наднёманскія паркавыя лугі. 1934 год.*

Што гэта ўсё значыла, мая сям'я пераканалася ў лютым 1940 года. А я яшчэ ў 1952 годзе знайшоў сляды памяці пра нас, спаткаўшы ў Лідзе на вакзале аднаго са згаданых дакудаўцаў.

**Дарога**

Нарэшце летам 1930 года я выбраўся ў Дакудава першы раз. Быў гэта яшчэ перыяд "гнязда зладзеяў і бандытаў" я меў ровар, і вось выбраўся, здаецца, на пошту.

Дарогай - сцежкай праехаў нашую і суседнюю дзялянку. Пасля чаго выехаў на вялікі грунтовы гасцінец, які вёў з Беліцы праз Ганчары да Дакудава больш-менш на адной адлегласці ад Нёмана. Адразу былі густыя кусты, налева тарфавіска з Месяцавамі гарамі на гарызонце. Потым пад горку. Кусты кончыліся. Вялікая палатніна ворнай зямлі, працятая гасцінцам з рэдкімі падстрэленымі бярозамі, нахіленымі заўсёды злева направа, з Захаду на Ўсход.

Направа: на Нёман, якога не відно, але які адчуваецца за купамі сівых вербалозаў і цёмназялёнай алешыны Налева - далёкія, голыя выдмы. Перада мной, як вокам сягнуць - палі.

Быў чэрвень, найпрыгажэйшая пара на вёсцы. Жыта ўжо красавала. Было ўжо высокае, па грудзі, але яшчэ зялёнае, дыміла пылком, насычаючы паветра ледзь адчувальным пахам, які пераказаць можна не ўражаннямі, а пачуццямі. Нешта радаснае, нешта, што прадказвае зблізку не выразную, а таму яшчэ больш цудоўную з'яву, прыгоды, перамены. Нейкае пачуццё ўласнай лёгкасці, шырока расплюшчаных вачэй, спрыту, сілы.

Жыта не ўтварала масіваў. Было параздзяляна белай грэчкай, падрастаючай батвой бульбы, нізкім аўсом, вусатым ячменем. Кожная такая палоска збягала з далёкіх выдмаў, даходзіла да дарогі, цягнулася далей направа пад наднёманскія вербалозы. Палоскі былі дзіўна вузкія, часам ледзь двухмятровыя, кожная зрэшты абрамаваная тоненькай мяжой.

Потым справа, пры дарозе могілкі, поўныя цёмных дрэў, і вёска. Цягнецца больш за кіламетр. Звыклая беларуская вёска: драўняныя хаты, саламяныя (выключна) стрэхі, перад галоўнымі вокнамі градка

наогул перастала быць зладзейскім гняздом. Нават тыя "найгоршыя" з'яўляліся да маці, сядзелі, палілі, размаўлялі. Справа набрала рысы таварысцкага звычаю, чалавек, які "не бываў" у палкоўнічыхі ў Баневе знаходзіўся напэўна ніжэй ад іншых на ўсіх ваколічных святах.

Маці з цягам часу што раз болей спецыялізавалася ў падачы парадаў. Ведаючы ўсё, што дзе робіцца, аперуючы агульнымі маральнымі нормамі талстоўскага тыпу, патрапляла ў найцяжэйшай сітуацыі нешта парадзіць, а як самае меншае суцешыць. Напэўна, не вельмі прыслухваліся да такіх парад, але заўсёды прыемна кожнаму паслухаць некага разумнага, хто гатовы задумацца над тваім лёсам.

кветак, дрэўца, ліпа, куст бэзу. Хата пераходзіць у хлевушок. Далей, у глыбіні падворка - стадола, насупраць хлевушка - абора. Сабака на ланцугу. Прызба, радзей - лавачка.

Мінаю хаты. Брук жудасны. Людзі вылупліваюць вочы на мяне. Тады і ровар рабіў ураджанне. Вёска знікае. За паўкіламетра - злева - высокія дрэвы, алея ёлак, вялікі сад. Гэта двор Дакудава. Справа невялікія ўзвышшы грунту. Купка домікаў, над імі - царква. Гэта "мястэчка".

Дзіўны свет, як я пазней пераканаўся. Такі дзіўны, што я маю пэўнае апасенне, ці нават у найсціснутым, найкароткім маім апісанні не знойдуць чытачы прыкладу хваравітай фантазіі.

Ужо само супастаўленне вёскі і мястэчка было дзіўнае: вёска налічвала ў сабе каля шасцісот жыхароў, мястэчка - ледзьве трыста.

Перад маёнткам паварот направа. Малая рачулка - як пазней аказалася: Лідзейка, дарога пад горку. Адразу за мостам драўляны, вельмі стары дом, які стаіць тарцом да вуліцы, як выцягнутая падзорная труба - бо кожны далейшы яго кавалак, пазней дабудаваны, быў на паўметра шырэйшы і вышэйшы за папярэдні. Потым яшчэ пару новых домікаў і пляцык з цэркаўкай. Адсюль тры дарогі-вуліцы. Адна прама ад моста вяла да найбольшага будынка - гмаха, сказаў бы - асады, г. зн. да гміны. Там жа пошта, Каса Стэфчыка, усякія іншыя прадстаўніцтвы дзяржаўных установ.

У мястэчку была яшчэ школа, пастарунак паліцыі, адна крама кааператыўная, адна прыватная і ўсё. Была гэта мабыць найменшае мястэчка ў краі. Але мястэчка - не вёска. Галоўна з погляду на людзей.

Сапраўды абсалютная большасць - гэта былі звычайныя сяляне. Але акрамя таго было тут некалькі сямей паліцыянтаў, пару - настаўнікі, адна, але вельмі разгалінаваная - крамнікі і рамеснікі, пад канец з'явілася нават адна кравецкая. Падбор тых людзей быў дзіўны. Як бы існавала нейкае таемнае права: сяліліся тут людзі дзіўныя, выключныя, няўдачлівыя, такія, якіх бы дзе іначай даўно б зацкавалі, якіх пэўна і зацкавалі і загналі на канец свету, або ўласна сюды.

**Янкялевічы**

Я тым разам яшчэ нічога не ведаў пра тутэйшых людзей. Па-просту адведаў нас у Баневе найстарэйшы сын тутэйшага каваля, Янкялевіча, Рубін. Меў нейкую справу, напэўна, па прызыву, да бацькі. Маю ўражанне, што гэта быў повад, па-просту справа ішла пра завязванне “дыпламатычных адносін". Запрашаў мяне горача ў Дакудава. Было вельмі нудна, і праз колькі дзён мы выбраліся туды з маім прыяцелем, малодшым за мяне на пару класаў Жоржам Германюком.

Пры ўездзе ў мястэчка мы затрымаліся каля таго дома-трубы, пытаючыся пра Янкялевічаў. Трапілі якраз як рэба: гэта быў іхні дом. Рубін недзе падзеўся. Затое нас уцягнулі з ганачка ўсярэдзіну. Быў гэта своеасаблівы салон, цёмны і халодны, які ратаваў ад спякоты дня. Нізкія старыя канапы, газавая лямпа з гафтованым абажурам, шафа, на шафе падсвечнікі, на сценах дыванкі з бусламі і ірысамі. Па чарзе прыбягалі што раз усё новыя члены сям'і, станавіліся ў дзвярах, пачыналі гаварыць кампліменты галоўным чынам у мой адрас. Адчуваў сябе вельмі дурнавата. Павінен быў абразіцца і пайці, але, дальбог, гэта было немажліва: іх зычлівасць была стыхійная, цяжкая, трэба было пературываць яе формы, наіўныя і няёмкія.

Патрыярх каваль Янкялевіч мусіў мець добра за шэсцьдзясят. Быў нізкі, моцны, сівабароды. Руку меў цвёрдую, поўную маршчын і мазалёў. Мусіў быць вельмі моцны. На другім баку вуліцы меў кузню, сядзеў там цэлы дзень, быў бурчлівы, да заняткаў сваёй сям’і адносіўся скептычна. Меў вялікую павагу ў наваколлі: не гандляваў - значыць - не ашукваў.

Жонка яго была вышэйшая за яго, даўганосая, тоўстая неяк раптоўна, састарэлая, схільная да слёзаў і прывідаў. Неяк з саду прыбегла дадому задыханая і перапужаная. Падалося ёй, што сын... што нешта зрабілася з яе сынам. Па-просту так ёй падалося. Папросту пастаянны страх за дзяцей, за сям'ю, за жыццё ні з таго - ні з сяго падскочыў ёй да горла. Яна без ценю падстаў уявіла сабе, што сталася нешта незразумелае, кінулася, уляцела ў хату, мусілі яе доўга супакойваць.

Мела пяцёра дзяцей. Найстарэйшая, Ганна, падобная да яе, але брыдчэйшая, ніжэйшая, з носам яшчэ больш выбітным, доўга хадзіла ў дзеўках ("у паннах”). Многа па трыццаці выдалі яе за нейкага, малодшага на гадоў дзесяць херувінка з велізарнымі арэхавымі вачыма, кудзеркамі таго ж колеру і дзіцячым тварыкам. Старэйшыя муселі той пары ўфундуваць дом. Малады трохі скупляў у ваколіцы дзёгаць, лён, пер'е. Між іншым зрабілі нашчадка. Быў гэта выкапаны татусь, херувінак, улюбёнец усёй сям'і.

Другая па чарзе сястра, не памятаю ўжо, як называлася. Памятаю, што была прыгожая, задорная, чорная, шырокотварая, больш падобная на бацьку, а не на маці. Мела ўжо некалькіх дзяцей. Муж яе меў крамку, досыць падупалую. Жылі ў малым доміку насупраць Ганны і недалёка ад бацькоў. Абое ўжо пачыналі старэць: ён акругляўся, яна брыдчала.

Потым ішло двое сыноў. Рубін быў старэйшы, на той час меў гадоў дваццаць пяць, быў ужо пасля войска. Высокі, шчуплы, доўгагаловы, з тварам біблейскага фанатыка. Але ад фанатызму быў найдалей. Плентаўся каля дому, нічым канкрэтным не займаўся. Меў вялікую прыязнь у жанчын. На той час гаварылі пра яго (прызнаваўся, зрэшты ў тым пад пэўным націскам) раман з адной з уладальніц маёнтка, старэйшай за яго і вышэйшай паняй Ц., удавой ці развядзёнкай.

Малодшы за яго на пару гадоў Абрам, быў блакітнавокі і светларусы. Летуценны, лёгка паэтызаваны сямейны інтэлектуаліст. Меў некалькі расійскіх кніжак, дадаткаў да "Нівы", аднатомавыя выбраныя творы Лермантава, Нікіціна, Кальцова. Быў эпілептыкам. У 1920 годзе, калі яшчэ меў гадоў чатырнаццаць, польскае войска ўзяло Дакудава. Пару "познаньцаў", нацкаваных некім, уварваліся да

Янкялевічаў, схапілі Абрама як вялікага бальшавіка і пацягнулі на экзекуцыю. Стаяў пры сцяне стадолы, жаўнер ўжо цэліліся ў яго. Ці гэта быў жарт, ці ўратавала яго нечае ўмашальніцтва, не ведаю. Хлопец на тым "жарце" зарабіў эпілепсію. Вось і тлумачэнне страхаў і зданяў яго маці.

Я адчуваў сябе каля яго неяк напалову вінаватым. На кожным кроку я стараўся падкрэсліць сваю сімпатыю да яго. Не заўсёды гэта ўдавалася: быў ён уражліва безабаронным, але і вельмі нудным, поўная супрацьлегласць свайго брата.

Што я мог для яго зрабіць акрамя выслухвання яго меркаванняў пра Лермантава і Нікіціна. Я абсалютна не адрозніваў, хто з тых двух лепшы. Я рабіў, што мог, праз пару гадоў я прысвяціў яму адзін са сваіх вершаў, які падаўся мне пераломным у гісторыі не толькі маёй уласнай паэзіі, але і наогул усёй....

Наймалодшай была Сара. Мусіла мець на той час гадоў шаснаццаць, сямнаццаць. Тыповая для сям'і: досыць высокая, даўгагаловая, даўганосая, з цёмна-блакітнымі вачыма. Я моцна з ёй пасябраваў. Вельмі рухавая, уразлівая, інтэлегентная, поўная тэмпераменту, але абсалютна ў "тых рэчах" безнампрымісная. Дзяіўнае было яе стаўленне да мяне і маіх прыяцеляў. Гады ішлі, гадоў ёй прыбывала, праз некаторы час была вельмі прыстойнай. Мела некалькі аказій выйсці замуж. Была аднак слабая, тая "аказія" - гэта былі нейкія лідскія крамнікі ў найлепшым выпадку. Распавядала нам пра іх з пагардай і меланхоліяй. Зрэшты, меншая...

Збягаліся вакол нас, выпытвалі пра маці, пра бацьку, пра маці перш за ўсё. Была таямнічай: палкоўнічыха, якая сама доіць каровы і мые бялізну, ніколі не бывае ў тэатры, хоць вельмі разумная і радзіць усім у наваколлі, як рабін. Я глядзеў на іх з зацікаўленасцю падарожніка: дзіўныя, цікавыя людзі. Адкуль я мог ведаць, што праз год недзе з дзесяць так з той сям'ёй зжывуся? І адкуль мог ведаць, як перарвуцца яе лёсы?

**Марыя Сцюарт**

Тым часам прыйшоў нарэшце Рубін і, гартанна пакрыкваючы, пацягнуў нас за сабой. Прыехалі на паўгадзінкі, але вось мы над сціплай Лідзейкай. Халодная, плыве сярод чорных глыбаў тарфяністай зямлі. Збоку паша, якая выконвае абавязкі пляжу. На ёй нейкія хлопцы. Я ўжо пазнаў іх: два браты М, сыны другой па чарзе дакудаўскай абшарніцы.

Тутэйшы маёнтак у папярэднім пакаленні змяніў уладальніка. Абшарнік абанкроціўся, маёнтак купіў багаты ваколічны мужык Лабко. Яго дзеці падзялілі маёнтак, было іх бадай што трое. Пані Ц. якраз надышла. Велізарная, досыць пажылая бландзінка, хутчэй брыдкая, але фундаментальнай будовы. Адразу пачала сварыцца з Рубінам.

Абодва браты М. пачалі з намі гаворку. Я быў на той час нечувана захоплены лёгкай атлетыкай. Яны, аказалася таксама. У імгненне вока арганізавалі дзесяцібор'е. Рубіну не выпадала выкручвацца на вачах у паважнай Ц. Нават нейкія бар'еры зрабілі. Старэйшы М. аказаўся ў цэлым някепскі ў скачках з тычкай. Малодшы яшчэ лепшы: скочыў звыш двух метраў! Таксама і Рубін у гэтым вызначыўся. Германюк, моцнага целаскладу, выйграў ядро і дыск. Але два пазасталыя скачкі, забегі на кароткія дыстанцыі і гэтыя бар'еры я выйграў без вялікай цяжкасці. Застаўся бег на 1500 метраў. Беглі па доўгай дарозе недзе аж за дваровыя каменныя гумны. Паперадзе бег Германюк, я за ім, астатнія засталіся ззаду.

Выпадкова зрабіў адкрыццё, што гэта значыць другая пазіцыя. Выраўняў крок і дыханне, бег за Германюком, ведаючы, што на фінішы яго абганю. Так і выйшла: у пэўны момант скараціў і прыспешыў крок, выйшаў наперад яго, такая вялікая радасць, што адстае, адстае, адстаў.

Не паспелі агледзецца, як прыйшоў папалудзень. Рубін нешта пашаптаўся з паняй Ц. У выніку нас запрасілі на абед у двор. Быў гэта вялікі і звычайны дом з цэглы з высокімі і пустымі пакоямі. Рубін апавядаў пра свавольствы ў войску, пра майскі замах, у якім браў удзел - ужо не памятаю, на чыім баку - потым неяк хутка надышоў вечар, мы аказаліся ў вялікім, амаль пустым - бо перад сенакосам - гумне.

Цяпер іншыя, ужо выключна "мужчынскія" жарты. Браты М. дакучалі Рубіну сваёй цёткай. Рубін і тут вёў рэй, гаворачы і прыгаворваючы. Вось прапанова: будзем спяваць на галасы. Згода "Марыя Сцюарт". Адбіваемся, што не ведаем. Нічога страшнага. Зараз нас навучыць. Якія маем галасы? Германюк - бас. Добра. Спявае першы. Я - тэнар. Слава богу, апошні.

Першы спявае Германюк, вельмі нізка: "Марыя Сцюарт", другі - старэйшы М. - трохі вышэй: "..Памерла", трэці - я - як найвышэй, лірычна: "Якое было яе апошняя жаданне?" навучаны Рубінам, доўга выводжу тое жаданне, хвалюючыся ўвесь час і канешне крычучы па-над мерай. "Каб яе пацалаваў у д...", словамі кідае Рубін, калі я закончыў. Рагаталі з пяць мінут з майго здзіўлення.

Дома трэба было доўга тлумачыць: паехалі на гадзінку, засталіся на ноч. Мусіў доўга апавядаць пра Рубіна і Абрама, пра спартовыя спаборніцтвы. Маці глядзела без усмешкі. Не мела ілюзій, чым усё тое скончыцца, не мела таксама ілюзій, што ёй удасца перашкодзіць мне ў тых падарожжах.

Ездзіў туды пасля гэтага досыць часта. Звычайна чарговасць маіх псіхічных станаў была наступнай: жудасная нуда ў Баневе. Мара пра незвычайныя прыгоды ў Дакудаве. Выезд, паспешнае кручэнне нагамі, каб толькі хутчэй да тых цудаў. Ускокваю на ганак да Янкялевічаў. У найлепшым выпадку Рубін, у трохі горшым Сара, у найгоршым Абрам выбягаюць насустрач, дэманструюць небывалую радасць, што я прыехаў. Адразу размовы: што рабіць? З Рубінам найлепш, бо без ніякай збянтэжанасці. Нейкі час гуляем у футбол. Альбо зноў дзесяцібор'е. Пад восень - у прэферанс. У гміне часам - забава. Найчасцей наогул нічога, сядзенне на ганку, размовы.

Па вуліцы грымяць зрэдку вазы. Вазніца доўга глядзіць, як бы задумаўся, аднак каля дому датыкаецца

рукой да шапкі, бурчыць: "Дзень ддобры". Рубін адгукваецца паблажліва: "Дзень добры". Праход пешага чалавека, не мужыка - гэта ўжо тэма для ажыўленага абмеркавання. Потым робіцца нудна. Усведамляю сабе, што яшчэ раз неспадзяваныя, надзвычайныя прыгоды мяне абмінулі. Пачынаю збірацца дадому. Тут усе дакудаўцы, прысутныя на ганачку кідаюцца на гвалтоўныя ўгаворы мяне, што тое, што гэта, што канешне, канешне трэба застацца. Іхнія ўгаворы нагадваюць мне ўсю паўнату банеўскіх раскошаў: выгаднае сваё ложка, кніжка, шпацыр над ставам. Нарэшце вырываюся, даскакваю да ровара Ганю назад, што сілы, да тога любімага дому.

Вечар, усе спяць. Бурак брэша, калі я яшчэ на ганчарскай дарозе, паварочваю ў сасняк, пачынае рвацца на ланцугу. Пад брамай ціхне, кідаецца неверагодна шчаслівы. Бясшумна сунуся пад дом: ад брамы ідзе лёгкі спуск.

У пакоі ціха. Гарыць прыкручаная лямпа. Кубак халоднага, суровага малака і кавалак хатняга сырніка.

**Мальгі**

Менш-больш адначасова з "адкрыццём" Дакудава я трапіў таксама першы раз да Максімовіча. Жыў ён у сваім "двары", які называўся Мальгі.

Было гэта на захад ад Ліды. Доўгая, нудная дарога. Мы ішлі з ім пехатою. Спяваў працяжна: "На поле бітвы ночы чорнай падаў змрок", прымушаючы мяне падпяваць. Нейкія першыя ляскі. "О, - сказаў - гэта тут той пракляты валун". Ткнуў пальцам у доўгі, бясформенны, увесь зялёны ад наростаў камень. "Тут кум і кума вязлі дзіця хрысціць. Прыехалі пад лес, і захацелася ім забавы. Глядзі, што іх спаткала."

Паглядзеў не без узрушання. Будзь, што будзе, фальклор. Міцкевіч з гэтага, Бог ведае, што б выціснуў. Быў дзіўна спакойны, што мне гэта не пагражае. Збіраўся ж усё-такі ў Варшаву на палітэхніку - на хімію. Вершы пакінуў раз на заўжды.

Потым нейкая прасека, зарослая ядлоўцам, адскоквала ўбок ад дарогі і танула ў густым змешаным лесе.

"Гэта Напалеонаўская дарога, - павучаў Максімовіч. - Сюдою ішоў на Маскву."

Было нешта дзіўнае ў тым відовішчы. А менавіта поўная непрыдатнасць той дарогі. Застаўся толькі той кавалак, не крануты ні капытом, ні колам, які нікуды не вёў.

Потым з боку, з далёку, мястэчка Крупа. Потым дзве чарговыя вёскі: Янцэвічы і Яўсевічы. Потым грэбля. Самотная груша пры дарозе. Малая вёска, высокія яліны. Мальгі.

Спрабаваў апісаць іх дзе-нідзе (Апавяданне "У будзе" у кнізе "Выпадак у Красным Ставе".), тую непаўторную старонку. Былі гэта астаткі аднаго з фальваркаў цалкам падупалай зямянскай сям'і. Дзве сястры, якія там гаспадарылі, мелі кожная па 50-70 гектараў. Гэта ўсё разам з вёскай мясцілася на выспе сярод багнаў. Адзінай дарогай туды была гэтая грэбля. З двух бакоў абцякала Мальгі Дзітва, тая самая, якая ўпадала ў Нёман пад Баневам. Двор - гэта была вялікая, прысадзістая развалюха. Пры кухні ўтрымоўваўся як такі вялікі дабіты пакой "для ўсяго". Тут у адным куце была сталоўка. У другім спала маці Стаха. Збоку стаяла фартэпіяна, старэнькае, але добрай маркі. За ім ложка старога Максімовіча. Далей, ці дакладней, бліжэй, бо ўжо паварочваем да "сталоўкі" - жалезная печка, якой тую гаргару абагравалі, у тым чацвёртым куце, з "тога" боку мопса жалезнай печкі мы спалі са Стахам.

Адтуль ішла цэлая галярэя пакояў напалову зруйнаваных, з дзіравым дахам, які цёк, з печамі пакрытымі аздобнай кафляй, якія літаральна разваьваліся, з вокнамі без шыбаў. Восенню ляжалі тут памідоры, кукуруза, агуркі. Зімой сыпалі ў найсушшы закутак збожа. Пах плесені і мокрай гліны. Дабітасць і старажытнасць. На пахіленай шафе нейкая паперка з канца XVIII стагоддзя. Падобна, што лісты Станіслава Аўгуста. Трохі кніжак з гадоў ста дзесяці назад: без пачатку і без канца "Сінд-Марс", надрукаваны смешным шрыфтам, з “е" пахілым.

А яшчэ далей сені і адзін "жывы" пакоік, таксама моцна загрувашчаны. Наймала яго настаўніца з Мальгоў. Была не старая, але пачварна брыдкая. Акрамя таго ўласна яна стала "раздражняльнікам", як сёння бачыцца, майго падарожжа ў Мальгі. Стах канешне парасказваў, што.. і я хацеў пераканацца, ці гэта праўда. Эх, як бы я хацеў пагаварыць на гэтую тэму! Што ж, калі баішся розных...

Пані Максімовіч карміла нас сціпла: бульба і яечня, асеннія памідоры, у нядзелю кураня. Але ніддзе мне тыя памідоры, яечня і бульба не былі такімі смачнымі, як у яе.

Вечарам пайшлі на могілкі, былі яны за пару соцень метраў, на пяшчаным пагорку. На іх заканчвалася дарога з Ліды: Можна было толькі вяртацца. Як вокам кінуць, балота і балота. Дзе - нідзе цямнейшы кавалак гарызонту: лес.

Якія дзіўныя ўражанні: канец свету.

Гэтыя Мальгі, што рассыпаюцца ў пальцах, гэтае балота, гэтая паўсталая на гарызонце імгла.

Тут, у гэтых багнах, захаваліся яшчэ вёскі літоўскія ці палітоўскія. Сто гадоў назад усюды пад Лідай размаўлялі па-літоўску. Толькі ў даліне Нёмана, на найгоршай пясчанай зямлі, ужо тады аселі беларусы. Праз наступныя сто гадоў літоўская мова безупынна адступала: была непрыдатная, цяжкая, не дапушчаная нікуды. Ні ў польскія двары, ні ў расійскія дзяржаўныя ўстановы. На яе месца прыходзіла простая, свойская, "тутэйшая", беларуская, з горам зразумелая і ў двары, і ва ўстанове. І толькі тут захаваліся яшчэ вёскі і хутары, дзе размаўлялі на той мове-антыкварыяце.

Літоўцы мелі тут добрую рэпутацыю: не кралі. Доўгі час прабкам і эканомам адразу быў у Максімовіча якраз нейкі Ўладас ці Ёзас.

І тут, як у Дакудаве: шалёная ахвота - прыйсці, а потым не менш шалёная - пайсці.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*



**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі”, г. Менск, выйшаў 2-гі том“Гісторыі беларускай кнігі”, 436 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларусь”, выйшаў энцыклапедычны слоўнік “Міфалогія беларусаў”. 608 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**




**Віленскі Інстытут беларусістыкі і беластоцкае Беларускае гістарычнае таварыства, выдалі кнігу Ўладзіміра Ляхоўскага “Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі (1915 - 1918)”, 340 ст.**



**У Менску ў выдавецтве “Кавалер”, выйшала кніга Анатоля Бутэвіча і Ўладзіміра Ягоўдзіка “Надалонях вечнасці. Сем цудаў Беларусі”. 144 ст. Наклад 3000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларусь”, выйшала кніга Янкі Крука “Сімволіка беларускай народнай культуры”, 432 ст. Наклад 3000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларусь”, выйшала кніга Ю. Бохана і А. Скеп’яна “Побыт феадалаў Вялікага Княства Літоўскага ў XV - сярэдзіне XVII стагоддзя”, 272 ст., Наклад 1500 асобнікаў.**



**Касцёл Святога Казіміра ў Няцечы - Першамайскім. Лідскі раён.**

*Здымак С. Судніка.*